

Ю. І. Внуковіч

# ЛІТОЎЦЫ БЕЛАРУСІ

Этналагічнае даследаванне

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору
імя Кандрата Крапівы

*Ю. І. Внуковіч*

# ЛІТОЎЦЫ БЕЛАРУСІ

## Этналагічнае даследаванне



Мінск
«Беларуская навука»
2010

УДК 94 (=172) (476)
ББК 63.3 (4Беи)
В 60

Рэцэнзенты:

доктар гістарычных навук, дацэнт І. У. Чаквін,
кандыдат гістарычных навук, дацэнт Т. А. Навагродскі

ISBN 978-985-08-1222-3

## ЗМЕСТ

# УВОДЗІНЫ

Усебаковае вывучэнне этнічных груп Рэспублікі Беларусь займае важнае месца ў праблематыцы беларускай этналогіі. Гэта абумоўлена ў першую чаргу поліэтнічным характарам беларускай дзяржавы, у якой побач з беларускім этнасам пражываюць розныя этнічныя групы (згодна з перапісам 1999 г., іх доля ў структуры насельніцтва рэспублікі складае амаль 19% [67, с. 38]). Вывучэнне іх гісторыі, мовы і культуры мае важнае значэнне для традыцый талерантнага суіснавання прадстаўнікоў розных этнічных супольнасцей у межах адзінай дзяржавы.

Да ліку навуковых задач па вывучэнні этнічных груп, якія патрабуюць першачарговага вырашэння, належаць: гісторыя з'яўлення ў Беларусі той або іншай этнічнай групы, яе фарміраванне і этнічнае развіццё, дэмаграфічныя характарыстыкі (рассяленне яе прадстаўнікоў, колькасны стан, ступень урбанізаванасці, узровень ужывання розных моў і інш.), а таксама адметныя і агульныя з беларускім этнасам рысы ў культуры даследуемай этнічнай групы.

Этнічны склад насельніцтва Беларусі фарміраваўся на працягу многіх стагоддзяў пад уздзеяннем розных фактараў: гістарычных, дзяржаўна-палітычных, сацыяльна-эканамічных, канфесіянальных, дэмаграфічных, тэрытарыяльных, прыродна-геаграфічных. На сучасным этапе ў яго ўваходзяць, акрамя ўласна беларускага этнасу, розныя этнічныя групы, сярод якіх колькасна найбольш буйнымі з'яўляюцца рускія, палякі, украінцы, яўрэі, татары і інш. Паводле перапісу насельніцтва

1999 г., у дзясятку самых шматлікіх этнічных груп Беларусі ўваходзяць і літоўцы, колькасць якіх складае 6387 чалавек [67, с. 16].

Гістарычны лёс беларускага народа ад моманту яго ўтварэння быў цесна звязаны, апрача генетычна роднасных яму па мове і культуры славянскіх этнічных супольнасцей, з суседнімі балцкімі этнічнымі супольнасцямі. Адной з гэтых этнічных супольнасцей з'яўляюцца літоўцы, якія з даўніх часоў пражываюць на тэрыторыі Беларусі. Яны прымалі ўдзел у фарміраванні беларускага этнасу і аказалі ўплыў на яго культуру [14, с. 44–45; 48, с. 523–543; 126, с. 101–103]. У сваю чаргу беларусы таксама адыгралі важную ролю ў этнічнай гісторыі літоўцаў, уздзейнічалі на іх культуру [177, с. 212]. Гэта абумоўлівае неабходнасць паглыбленага навуковага вывучэння фарміравання і развіцця этнічнай групы літоўцаў Беларусі, складання комплексу яе культуры, беларуска-літоўскіх этнічных сувязей.

Да апошняга часу этнічная група літоўцаў у Рэспубліцы Беларусь не з'яўлялася аб'ектам комплекснага этналагічнага даследавання [176, с. 93]. Між тым яно дазваляе лепей зразумець гэту групу насельніцтва нашай краіны, вызначыць ролю літоўцаў у этнічнай гісторыі Беларусі, прасачыць іх культурныя сувязі з беларускім этнасам. Азнаямленне з гісторыяй пражывання літоўцаў у Беларусі, іх мовай і культурай спрыяе таксама больш глыбокаму разуменню характару міжэтнічных узаемаадносін у Рэспубліцы Беларусь.

*Глава 1*

# АНАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД ЛІТАРАТУРЫ, КРЫНІЦЫ, МЕТАДЫ ДАСЛЕДАВАННЯ

## 1.1. Аналітычны агляд літаратуры

Навуковыя працы, прысвечаныя літоўцам Беларусі, можна падзяліць на дзве асноўныя часткі: даследаванні, якія тычацца літоўскага насельніцтва беларуска-літоўскага этнічнага памежжа, і даследаванні, у якіх разглядаюцца літоўскія перасяленцы канца XIX – пачатку XX ст. ва ўсходніх і цэнтральных раёнах Беларусі. Навуковыя працы па праблемах літоўскага насельніцтва беларуска-літоўскага этнічнага памежжа даволі разнастайныя і шматлікія. Для даследавання гэтай часткі літоўскай этнічнай групы Беларусі важнае значэнне маюць працы мовазнаўцаў, археолагаў, фалькларыстаў, этнографаў і гісторыкаў.

Першыя навуковыя працы, прысвечаныя народнай культуры і мове літоўцаў, з'явіліся яшчэ ў XVII–XVIII стст. ва Усходняй Прусіі. Аднак у гэтых працах разглядаліся пераважна літоўцы т. зв. Малой, ці Прускай Літвы. Навуковае вывучэнне літоўцаў на астатняй тэрыторыі этнічнай Літвы пачалося толькі ў XIX ст. Спачатку яно было скіравана на апісанне народнай культуры і побыту літоўцаў Жэмайціі (Жмудзі) і праводзілася ў асноўным мясцовымі сіламі. Аднак ужо з сярэдзіны XIX ст. узрасла цікавасць і да літоўцаў Усходняй Літвы з боку расійскіх і польскіх даследчыкаў, што не ў малой ступені было звязана з падзеямі 1863 г. і патрэбай вызначэння этнаграфічных межаў паміж літоўцамі, беларусамі і палякамі.

Вялікую ролю ў вывучэнні літоўцаў Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Сувалкскай губерняў адыграла заснаванае

ў 1845 г. Рускае геаграфічнае таварыства (РГТ) і асабліва яго аддзел у Вільні, які быў створаны ў 1867 г. У 1893 г. у Пецярбургу пры РГТ была заснавана камісія па вывучэнні этнаграфіі літоўцаў і латышоў. Таварыства накіроўвала ў Літву і населеныя літоўцамі пункты Усходняй Прусіі даследчыкаў для збору этнаграфічных матэрыялаў, рыхтавала і выдавала анкеты, друкавала артыкулы [266, p. 26].

Першыя этнаграфічныя экспедыцыі РГТ у Літву былі праведзены ў 1867–1870 гг. Каштоўныя этнаграфічныя звесткі падчас такой экспедыцыі здолеў сабраць будучы даследчык літоўцаў і латышоў, студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта Ю. П. Кузняцоў [65, с. 313–320]. Жадаючы высветліць межы рассялення літоўцаў, ён праводзіў свае даследаванні і ўздоўж беларуска-літоўскага этнічнага памежжа. На аснове сабраных матэрыялаў (у першую чаргу тапонімаў і антрапонімаў) Ю. П. Кузняцоў прыйшоў да высновы, што ў мінулым мяжа пражывання літоўцаў праходзіла значна далей на ўсход і поўдзень ад іх сучасных межаў. Ён падкрэсліваў неабходнасць далейшага і больш глыбокага даследавання гэтага пытання, якое ў многім было звязана з этнакультурнымі ўзаемадачыненнямі літоўцаў і беларусаў. Ю. П. Кузняцоў быў адным з першых, хто засведчыў існаванне сярод літоўскага насельніцтва беларуска-літоўскага этнічнага памежжа назвы «жыгуны» (або «жагуны»). Гэты мікраэтнонім да нашага часу пашыраны сярод жыхароў Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці [181, с. 4–5].

Матэрыялы пра побыт і народную культуру літоўцаў Ашмянскага і Віленскага паветаў Віленскай губерні змешчаны ў працы К. Тышкевіча «Вілія і яе берагі», якая з'явілася пасля яго падарожжа ўздоўж Віліі ў 1857 г. Побач з геаграфічнымі і гістарычнымі апісаннямі К. Тышкевіч дае арыгінальныя замалёўкі з жыцця літоўцаў і беларусаў басейну Віліі. Ён, у прыватнасці, робіць апісанне адзення, жылля і заняткаў мясцовых жыхароў. Першым паселішчам літоўцаў, якое сустрэў К. Тышкевіч падчас свайго падарожжа, была вёска Маркуны (сучасны Астравецкі раён Гродзенскай воб-

ласці), размешчаная пры ўпадзенні р. Ашмянкі ў Вілію, на левым яе беразе. Менавіта р. Ашмянку К. Тышкевіч лічыў натуральнай мяжой паміж беларусамі і літоўцамі ў мінулым. Аднак на правабярэжжы Віліі беларускія паселішчы цягнуліся значна далей – у глыб Свянцянскага павета аж да ракі Жэймяны [363, s. 127–128].

Цікавыя звесткі пра народнае жыллё, адзенне, гаспадарчыя заняткі, звычаі і абрады літоўцаў Радунскай парафіі Лідскага павета (сучасны Воранаўскі раён Гродзенскай вобласці) змяшчае артыкул канца XIX ст. вядомага літоўскага этнографа М. Давайніса-Сільвестрайціса (псеўданім – Жальціс [297, p. 11–12]) у літоўскім часопісе «Адзінства літоўнікаў» [377]. Значная ўвага ў ім надаецца этнаканфесіянальнай сітуацыі ў ваколіцах Радуні, зменам у самасвядомасці і ва ўжыванні розных моў сярод мясцовага літоўскага насельніцтва. Кароткая анатацыя на гэты артыкул была змешчана С. Балтрамайцісам у перыядычным выданні РГТ «Живая старина» [23].

У канцы XIX – пачатку XX ст. гісторыю, культуру і мову літоўцаў даследаваў вядомы этнограф і мовазнаўца Эдуард Вольтэр [32–37; 375]. Даследчык здолеў сабраць каштоўныя звесткі па самых розных галінах традыцыйнай культуры літоўцаў і іх мове. На аснове праведзеных даследаванняў Э. Вольтэр выказаў думку пра тое, што літоўцы-дзукі Ашмянскага, Віленскага, Трокскага паветаў Віленскай губерні, Сейненскага, Кальварыйскага, Сувалкскага паветаў Сувалкскай губерні і Гродзенскага павета Гродзенскай губерні з'яўляюцца нашчадкамі старажытных «судоваў-дайноваў-яцвягаў». У якасці асноўных аргументаў ён прыводзіў факты моўнай адметнасці гэтай групы літоўцаў, у першую чаргу дзеканне, а таксама некаторыя гістарычныя звесткі [34, с. 2–5]. Аднак відавочна, што ізафона дзекання (альбо дзукання) ахоплівае якраз тыя літоўскія гаворкі, якія прымыкаюць да этнічнай тэрыторыі беларусаў. Менавіта беларускім моўным уплывам і варта тлумачыць гэтую фанетычную з'яву сярод літоўцаўдзукаў [331, p. 31–32]. Да таго ж яна пашырана значна больш за

арэал пражывання ў мінулым этнічных супольнасцей судоваў, дайноваў і яцвягаў. Між тым бясспрэчным з'яўляецца факт удзелу заходнебалцкіх этнічных утварэнняў (у тым ліку прусаў) у этнічнай гісторыі гэтай часткі літоўцаў.

Каштоўныя гістарычныя звесткі пра перасяленне ў XIII ст. у ваколіцы Слоніма і Гродна часткі прускага насельніцтва змяшчае артыкул Э. Вольтэра «Сляды старажытных прусаў і іх мовы ў Гродзенскай губерні» [36]. Гэтыя звесткі, разам з сабранымі ўзорамі літоўскай мовы ў раёне Дзятлава (у вёсках Нарцэвічы, Засецце, Погіры), значна дапамагаюць у вырашэнні пытання аб этнічным паходжанні гэтай часткі літоўскага насельніцтва Беларусі, якое да нашагу часу цалкам асімілявалася.

Важным з'яўляецца сведчанне Э. Вольтэра пра паступовую асіміляцыю паўднёва-ўсходніх літоўцаў. Даследчык адзначае, што калі яшчэ ў 60-х гг. XIX ст. у многіх месцах Лідскага і Ашмянскага паветаў можна было пачуць літоўскую мову, то ўжо ў 80-х гг. XIX ст. там яе чуваць не было. Адным з першых ён засведчыў, што «літоўскае насельніцтва гэтых мясцовасцей жыве астраўкамі і рассеяна па ўсёй шырокай прасторы Заходняй Русі» [33, с. 125].

Акрамя таго, Э. Вольтэр здолеў сабраць грунтоўны мовазнаўчы і фальклорна-этнаграфічны матэрыял па ўсёй тэрыторыі этнічнай Літвы, які змясціў у фундаментальным выданні «Літоўская хрэстаматыя». У гэтым зборніку гістарычных і фальклорна-этнаграфічных тэкстаў змешчаны таксама 11 песень беларускіх літоўцаў, запісаных ім у Гервятах (сучасны Астравецкі раён Гродзенскай вобласці) [32, с. 396–402].

У XIX ст. з'яўляюцца першыя навуковыя працы, у якіх рабіліся спробы вызначыць межы рассялення беларусаў і літоўцаў Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў. Ханалагічна першым быў артыкул вядомага гісторыка Тэадора Нарбута – «Вызначэнне межаў уласнай Літвы ад славянскай тэрыторыі» [306]. У ім даследчык паспрабаваў акрэсліць межы пражывання літоўцаў, а таксама вылучыць чатыры іх галоўныя гістарычна-этнаграфічныя вобласці («правінцыі»).

Акрэсліўшы тэрыторыю «уласнай Літвы», у значэнне якой быў укладзены найперш яе гістарычны змест, даследчык аднак нічога не сказаў пра этнічны склад насельніцтва вылучанай ім тэрыторыі.

Для разумення лакальнай спецыфікі літоўскай этнічнай групы Беларусі пэўную цікавасць уяўляе адна з першых спроб гістарычна-этнаграфічнага раянавання Літвы, зробленая Т. Нарбутам. Акрамя вядомых Аўкштайціі (Аўкштоты) і Жэмайціі (Жмудзі), Т. Нарбут вылучыў яшчэ і так званую Пелюзію (Пелязію) (тэрыторыя паміж рэкамі Пеляса, Дзітва, Жыжма і Шальча) і Нерому (на паўночны ўсход ад Пелюзіі, уздоўж Віліі да Нявежы). Вылучэнне апошняй у якасці асобнай гістарычна-этнаграфічнай вобласці Літвы не мела ніякіх аб'ектыўных падстаў, за выключэннем некаторых нешматлікіх згадак Неромы ў сярэдневяковых летапісах. У сваю чаргу назапашаны на працягу XIX–XX стст. этнаграфічны матэрыял паказаў, што вылучаная Т. Нарбутам тэрыторыя «Пелюзіі» па асноўным комплексе этнакультурных прыкмет з'яўляецца лакальным раёнам (часткай) двух іншых буйных гістарычна-этнаграфічных рэгіёнаў Літвы і Беларусі – Дзукіі і Панямоння. Аднак відавочна, што вылучэнне «Пелюзіі» ў якасці асобнай гістарычна-этнаграфічнай вобласці Літвы было здзейснена Т. Нарбутам у выніку яго ўласнага ўсведамлення лакальных этнакультурных асаблівасцей, якія былі характэрныя для груп мясцовага літоўскага насельніцтва і, верагодна, той ролі, якую ў мінулым аказалі ў яго фарміраванні «прусы» (борці), а таксама «яцвягі» (дайновы). Сярод іншага Т. Нарбут адзначаў, што дыялектныя адрозненні паміж літоўцамі Пелюзіі, Неромы і Аўкштайціі значна меншыя ў параўнанні з літоўцамі Жэмайціі, а найчысцейшая літоўская мова захавалася ў Вількамірскім павеце, г. зн. у Аўкштайціі («на класічных літоўскіх землях») [306, s. 269–270]. Варта падкрэсліць, што вылучаная Т. Нарбутам тэрыторыя «Пелюзіі» ў многім супадае з тэрыторыяй рассялення адной з лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі – літоўскага насельніцтва Воранаўскага раёна.

Інфармацыя, пададзеная Т. Нарбутам пра межы расселення літоўцаў, мела пэўныя недахопы, галоўным з якіх была няяснасць крытэрыяў, на аснове якіх было зроблена размежаванне, а таксама недакладнасць і прыблізнасць звестак. Нягледзячы на гэта, яна была некрытычна перанята многімі пазнейшымі даследчыкамі (А. Кіркорам [79, с. 120–121], А. Карэвам [80, с. III–IV], П. Чубінскім [190] і інш.). Недакладнасці падчас вызначэння межаў рассялення беларусаў і літоўцаў у працах гэтых даследчыкаў неўзабаве былі раскрытыкаваны іх сучаснікамі. Так, у артыкуле «Библиографическая заметка по поводу III тома Живописной России», падпісаным Беларус, справядліва адзначалася ў адносінах да этнаграфічнага размежавання беларусаў і літоўцаў, зробленага А. Кіркорам і Мірковічам, што «па карце Мірковіча (як і ў Кіркора. – *Ю. В.*) ад крайняга пункта літоўскіх паселішчаў у Вілейскім павеце, з усходу на захад да станцыі Еўе (Трокскага павета), па маштабе трэба меркаваць да 70 вёрст; на гэтай значнай прасторы пазначаны суцэльна літоўскія паселішчы; у рэчаіснасці гэта далёка не так. Ад станцыі Еўе на поўнач і поўдзень сустракаецца яшчэ змешанае народанасельніцтва: ёсць вёскі, дзе размаўляюць па-беларуску, ёсць вёскі, дзе размаўляюць па-літоўску; але ёсць вёскі, дзе размаўляюць на той і на другой мове аднолькава добра (*безразлично*). Нам падаецца, што гэтыя апошнія вёскі варта лічыць сапраўднай этнаграфічнай мяжой паміж Літвой і Беларуссю, бо ў іх дагэтуль прадстаўляецца скрыжаванне (*скрещение*) двух плямён» [17, с. 84].

Вызначэнне этнаграфічных межаў беларусаў і літоўцаў было адной з галоўных задач афіцэраў Генеральнага штаба, якім у канцы 50-х гг. XIX ст. было даручана збіранне матэрыялаў па геаграфіі, статыстыцы і этнаграфіі заходніх губерняў Расійскай імперыі. У выніку ў 60-х гг. XIX ст. з'явілася шматтомнае выданне «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба» (матэрыялы пра літоўцаў змешчаны ў тамах, якія прысвечаны Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерням).

Том «Матэрыялаў...», які прысвечаны Віленскай губерні, выйшаў у 1861 г. Збор і падрыхтоўка матэрыялаў да друку былі зроблены капітанам Генеральнага штаба А. Карэвам. Як ужо адзначалася, у аснову этнаграфічнага размежавання літоўцаў і беларусаў А. Карэва паклаў працы Т. Нарбута. Аднак пры гэтым ён заўважаў: «сем стагоддзяў гэтыя два народы (літоўцы і беларусы. – *Ю. В.*) жывуць пад уплывам аднолькавых палітычных абставін, а таму і рубеж, што іх падзяляе, амаль страціўся» [80, с. V]. «Матэрыялы...» змяшчаюць і этнаграфічныя звесткі пра літоўцаў і беларусаў Віленскай губерні, якія, на жаль, не маюць дакладных пашпартызаваных дадзеных.

Хоць асноўная частка тома «Матэрыялаў...», прысвечаных Гродзенскай губерні, змяшчае этнаграфічныя матэрыялы пра беларусаў, ёсць там і даволі каштоўныя звесткі пра літоўцаў. Гэты том быў складзены членам РГТ, падпалкоўнікам Генеральнага штаба і этнографам П. В. Баброўскім. Асаблівае значэнне маюць пададзеныя звесткі пра колькасць і рассяленне літоўскага насельніцтва ў Гродзенскім і Слонімскім паветах Гродзенскай губерні. Да таго ж П. В. Баброўскі адзін з першых выказаў думку пра тое, што літоўцаў ваколіц Дзятлава варта лічыць нашчадкамі старажытных прусаў, якія перасяліліся сюды, ратуючыся ад крыжакоў пры князі Трайдзені ў 1275 г. [21, с. 652–653].

Том, прысвечаны Ковенскай губерні, склаў падпалкоўнік Генеральнага штаба Д. Афанасьеў. У ім адносна мала ўвагі надаецца народнай культуры і побыту літоўцаў, этнаграфічныя звесткі маюць агульны характар і зусім не пашпартызаваны. Аднак гэты том змяшчае некаторую інфармацыю пра рассяленне і колькасць літоўскага насельніцтва ў Нова-Аляксандраўскім павеце Ковенскай губерні [12, с. 309–321].

На працягу 60-х гадоў XIX ст. шэраг прац, у якіх былі здзейснены спробы вызначыць этнаграфічныя межы літоўцаў і беларусаў, публікуюць супрацоўнікі РГТ. Да іх у першую чаргу трэба аднесці этнаграфічныя карты П. І. Кепена [77], Ф. Р. Эркерта [193] і А. Рыціха [139]. Вызначэнню этнічнага

і канфесіянальнага складу насельніцтва паўночна-заходніх губерняў Расіі былі прысвечаны працы М. Лябёдкіна [87], М. В. Каяловіча [81], Н. Сталпянскага [159] і інш. У аснову гэтых даследаванняў была пакладзена, перш за ўсё, адна і тая ж крыніца – так званыя «парафіяльныя спісы», якія з пэўнай доляй умоўнасці можна назваць першым перапісам Расійскай імперыі. Яны даволі дакладна ўлічвалі этнічны склад насельніцтва. Збор матэрыялаў праводзіўся ў 1857–1858 гг. па ініцыятыве акадэміка П. І. Кепена [164, с. 18].

Каштоўную этнаграфічную інфармацыю змяшчаюць працы І. Гнядоўскага [45] і К. Гукоўскага [50; 51], у якіх разглядаліся пытанні рассялення і асаблівасцей народнай культуры літоўцаў і беларусаў у Нова-Аляксандраўскім павеце Ковенскай губерні. Нягледзячы на абмежаванасць аб'екта даследавання толькі адным паветам, даследчыкі зазначаюць складанасць правядзення дакладнай мяжы рассялення паміж літоўцамі і беларусамі па прычыне наяўнасці змешаных у этнічным плане паселішчаў. К. Гукоўскі адным з першых выказаў думку, што многія беларусы-каталікі Віленскай і Ковенскай губерняў з'яўляюцца абеларушанымі літоўцамі або іх нашчадкамі [51, с. 1]. Значную каштоўнасць уяўляюць сабраныя ім звесткі пра асаблівасці мовы і культуры літоўскага насельніцтва Нова-Аляксандраўскага павета [50, с. 174–205].

Відавочна, што ў выніку складанай этнічнай сітуацыі на беларуска-літоўскім этнічным памежжы, пры якой не заўсёды можна было з поўнай дакладнасцю вызначыць этнічную прыналежнасць і выразна акрэсліць арэалы пражывання прадстаўнікоў розных этнічных груп, многія працы насілі даволі супярэчлівы і далёкі ад рэчаіснасці характар. Складанасць уяўляла і тое, што ўсе гэтыя даследчыкі былі сучаснікамі працэсу актыўнага абеларушвання літоўскага насельніцтва беларуска-літоўскага этнічнага памежжа. Таму многім з іх часта даводзілася сустракаць толькі беларускамоўных або польскамоўных жыхароў там, дзе іх папярэднікі яшчэ маглі зафіксаваць наяўнасць літоўскамоўнага насельніцтва [37, с. 38].

У канцы XIX – пачатку XX ст. перавага пры вызначэнні этнічнай прыналежнасці насельніцтва памежнага рэгіёна многімі даследчыкамі аддавалася фактару мовы. З гэтай прычыны ўзмацнілася значэнне даследаванняў мовазнаўцаў. Важнай у гэтым плане стала праца Я. Карскага «Белоруссы. Введение к изучению языка и народной словесности» (Варшава, 1903), дзе па-новаму была выканана спроба вызначыць этнаграфічную мяжу паміж беларусамі і літоўцамі. Вучоны акрэсліў межы пражывання беларускамоўнай большасці далёка на захад ад Вільні, уключыўшы ў іх Трокі і Еўе. Між тым Я. Карскі адзначаў і наяўнасць літоўскіх «астраўкоў» на ўсход ад Вільні па р. Лоша (прыток Ашмянкі), а таксама некаторых змешаных у этнічным плане валасцей каля Лаздунаў (сучасны Іўеўскі раён Гродзенскай вобласці) [74, с. 6].

Важным статыстычным даследаваннем, прысвечаным вызначэнню этнічнага складу беларуска-літоўскага этнічнага памежжа ў канцы XIX ст., з'яўляецца ананімны артыкул «Тэрыторыя распаўсюджання літоўскай мовы ў Віленскай губерні» [198], напісаны на матэрыялах, сабраных у Віленскай губерні сельскімі старастамі па распараджэнні прадвадзіцеля дваранства Віленскай губерні графа Адама Плятэра. У ім пазначана, якія воласці населены літоўцамі і ў якіх яны змешаны з беларускім або польскім насельніцтвам. Галоўным крытэрыем такога падзелу стала мова мясцовых жыхароў.

Крыху пазней гаворкі літоўцаў Беларусі і моўная сітуацыя на беларуска-літоўскім этнічным памежжы, а таксама больш шырока – балта-славянскія этнамоўныя сувязі – прыцягвалі ўвагу шэрагу мовазнаўцаў: О. Брока [208], Хр. С. Станга [344], Э. Фрэнкеля [230], П. Арумаа [199], К. Бугі [212], Г. Турскай [172; 362], Я. Развадоўскага [320–322], Я. Сафарэвіча [327], Я. Атрэмбскага [309], Т. М. Суднік [160–162], У. М. Топарава [167], А. П. Непакупнага [110], У. М. Свяжынскага [146; 147], Ф. Д. Клімчука [28] і інш. Каштоўнымі даследаваннямі па балцкай (літоўскай) тапаніміі з'яўляюцца працы В. Жучкевіча [56–58], антрапаніміі – А. Ванагаса і М. Бірылы [19; 20], Ю. Гурскай [54]. У апошнія гады вы-

вучэнне літоўцаў памежных з Літвой раёнаў Беларусі стала аб'ектам пільнай увагі такіх літоўскіх навукоўцаў, як М. Размукайтэ, Э. Грынавіцкене, З. Зінкявічус, К. Гаршва, П. Гаўчас, А. Відугірыс [229; 236; 273; 279; 280; 370; 383].

Галоўным аб'ектам вывучэння некаторых моваведаўцаў была этналінгвістычная сітуацыя ў зоне беларуска-літоўскага этнічнага памежжа ў XVII–XX стст. [42; 43; 232–234]. Аднак многія даследчыкі, якія спрабавалі вызначыць этнамоўны склад насельніцтва памежнага рэгіёна ў мінулым, пры гэтым зусім не ўлічвалі ролю эвалюцыі этнасаў, а таксама тое, што крытэрыі этнічнасці куды больш складаныя і не абмяжоўваюцца толькі ўжываемай мовай. Таму многія іх працы носяць супярэчлівы характар. Напрыклад, вядомы літоўскі мовазнавец З. Зінкявічус у адной са сваіх манаграфій беспадстаўна сцвярджае, што «на ўсход і поўдзень ад тэрыторыі кампактнага распаўсюджання літоўскай мовы зафіксавана нямала месцаў, дзе ў XIV–XVI стст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі размаўлялі па-літоўску». Сярод такіх анклаваў ён называе «востраў літоўскай мовы» паміж Ружанамі і Косавам на захад ад Івацэвічаў, «літоўскі востраў» паміж Баранавічамі і Ляхавічамі ў напрамку Нясвіжа, яшчэ – каля Цімкавічаў, паміж Клецкам і Слуцкам, каля Радашковічаў, Докшыцаў, Абольцаў [383, p. 35–36]. Гэтыя высновы ён робіць пераважна на падставе аналізу мясцовых тапонімаў і антрапонімаў балцкага паходжання. Аднак добра вядома, што тыпова літоўскімі (усходнебалцкімі) лічацца тапонімы з суфіксам *-ішкі*. Тапонімы на *-iškės* у Літве адныя з самых распаўсюджаных. На тэрыторыі Беларусі назвы населеных пунктаў з такім суфіксам сканцэнтраваны пераважна на паўночным захадзе, у памежных з Літвой раёнах [327, s. 45–46]. Калі параўноўваць тапанімічныя матэрыялы з археалагічнымі, можна адзначыць, што значная частка гэтага арэалу супадае з арэалам распаўсюджання культуры ўсходнелітоўскіх курганоў [163, с. 143]. Носьбітаў гэтай культуры многія даследчыкі лічаць непасрэднымі продкамі сучасных літоўцаў. Лагічна, што тыя «балцкія астравы», якія ў сярэдневякоўі існавалі на ўсход

ад арэала культуры ўсходнелітоўскіх курганоў і распаўсюджання тапонімаў на *-ішкі*, звязваць з продкамі літоўскага этнасу няма падстаў. Відавочна, што балцкія (не абавязкова літоўскія!) тапонімы ў вышэйадзначаных месцах маглі пакінуць, акрамя непасрэдных продкаў літоўцаў, і іншыя балцкія этнічныя супольнасці (яцвягі, прусы, борці, латгалы, жамойты і інш.), якія прымалі актыўны ўдзел у фарміраванні не толькі літоўскага, але і беларускага этнасу.

Большую яснасць у вывучэнне літоўскага насельніцтва беларуска-літоўскага этнічнага памежжа ўносяць працы археолагаў. Яны дазваляюць зразумець агульную карціну этнічнай гісторыі рэгіёна ў старажытнасці і сярэдневякоўі, адказаць на пытанне пра вытокі асноўных лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі.

Цікавасць археолагаў да беларуска-літоўскага этнічнага памежжа – месца рассялення асноўных лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі – з'явілася амаль адначасова з зараджэннем археалогіі ў Беларусі і Літве ў XIX – пачатку XX ст. Першымі даследчыкамі тут былі Т. Нарбут, браты Я. і К. Тышкевічы, Р. Зянькевіч, А. Кіркор, Ф. Пакроўскі, В. Шукевіч і інш. [75, с. 36–76]. На падставе праведзеных раскопак яны спрабавалі вызначыць этнічную прыналежнасць старажытных насельнікаў краю. Так, вядомы археолаг і этнограф Вандалін Шукевіч, грунтуючыся на даных парафіяльных спісаў, спрабаваў вызначыць межы рассялення літоўскага і беларускага насельніцтва ў паўночна-заходняй частцы Лідскага павета [351, s. 62]. Акрамя таго, ён здолеў сабраць значную колькасць народных легендаў, паданняў, вераванняў, звычаяў і абрадаў сярод літоўцаў і беларусаў гэтага ж павета [353; 354; 356]. У міжваенны перыяд у Віленскім краі плённа працавалі польскія археолагі Ул. і А. Галубовічы [240; 241].

Аднак найбольшую значнасць маюць працы археолагаў другой паловы XX ст. – В. Сядова [149–154], П. Траццякова [170], Я. Звяругі [61–63], А. Мітрафанава [99; 100], Ф. Д. Гурэвіч [52; 53], М. Гімбуцене-Альсейкайтэ (Гімбутас) [238],

А. Таўтавічуса [163; 359], Р. Валкайтэ-Кулікаўскене [265], В. І. Шадыры [191], Э. М. Зайкоўскага [59; 60], Л. У. Дучыц [55], С. А. Піваварчыка [124; 125], А. М. Мядзведзева [101; 102] і інш. Сабраны археалагічны матэрыял даў магчымасць панавому вырашыць пытанне этнічных працэсаў на балта-славянскім этнічным памежжы ў старажытнасці і сярэднявякоўі, вызначыць арэалы археалагічных культур і іх прыналежнасць да асобных этнічных супольнасцей.

Карысныя гістарычныя звесткі, якія дапамагаюць раскрыць шэраг пытанняў, звязаных з этнічным развіццём літоўскага насельніцтва Беларусі, змяшчаюць працы гісторыкаў. Сярод іх у першую чаргу трэба назваць працы Т. Нарбута [304], М. Балінскага [201], Ю. Ярашэвіча [246], М. К. Любаўскага [93; 94], У. Ц. Пашуты [116], П. Матуляніса [96], П. Клімаса [255], Я. Якубоўскага [245], Г. Лаўмянскага [277; 278], М. Шымялевіча [357; 358] і інш. Асаблівую значнасць для вывучэння праблемы фарміравання этнічнай групы літоўцаў Беларусі мае манаграфія польскага гісторыка Е. Ахманскага – «Літоўская этнічная мяжа на ўсходзе ад племяннóй эпохі да XVI ст.» [307].

Тэма міжэтнічных і міжканфесіянальных узаемаадносін у зоне беларуска-літоўскага этнічнага памежжа ў канцы XVIII – пачатку XX ст. грунтоўна даследавана ў манаграфіі сучаснага літоўскага гісторыка В. Мяркіса «Этнічныя адносіны ў Віленскім біскупстве ў 1798–1918 гг.» [294]. Аўтарам быў уведзены ў навуковы зварот шэраг новых гістарычных крыніц, у тым ліку справаздачы ксяндзоў Віленскай губерні, складзеныя ў адказ на запыт аб этнічным складзе мясцовых парафій П. І. Кепена, перапіска прадстаўнікоў мясцовай улады і духавенства, якая ўтрымлівае заўвагі адносна этнамоўнага, рэлігійнага і сацыяльнага складу мясцовага насельніцтва, розныя статыстычныя даныя, якія захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы. Акрамя таго, ім усебакова прааналізаваны адзін з найважнейшых фактараў этнічных працэсаў у рэгіёне – канфесіянальны. На прыкладзе дзвюх парафій Лідскага павета – Осаўскай і Радунскай (сучасны

Воранаўскі раён Гродзенскай вобласці), даследчык ілюстратыўна паказаў ролю гэтага фактару ў моўнай асіміляцыі літоўцаў у канцы XIX – пачатку XX ст.

Тэма літоўцаў у Беларусі пакуль не знайшла належнага адлюстравання ў працах беларускіх гісторыкаў. Тым не менш, пэўную цікавасць можа ўяўляць артыкул гродзенскага гісторыка С. Токця, прысвечаны гісторыі літоўцаў Гродзеншчыны ў XIX – пачатку XX ст. [166]. Праблему вывучэння народаў Прыбалтыкі ў Беларусі (у тым ліку літоўцаў) закранаў таксама В. Лукін [91; 92]. Дзейнасць літоўскіх культурна-асветніцкіх таварыстваў «Rytas» («Раніца») і Св. Казіміра ў 1920–30-х гг. на тэрыторыі Заходняй Беларусі дастаткова поўна разгледжана ў артыкуле А. М. Вабішчэвіча [25].

Важнымі для даследавання традыцыйнай культуры і ў меншай ступені этнічнай гісторыі літоўцаў Беларусі з'яўляюцца працы фалькларыстаў. Фальклорны матэрыял сярод літоўцаў Віленскай губерні даследчыкі пачалі збіраць яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. Бадай, адным з першых збіральнікаў фальклору сярод літоўцаў гэтага краю быў Л. Юцэвіч (псеўданім – Людвік з Пакева), у працах якога, акрамя ўласна фальклорнага матэрыялу, маюцца таксама і апісанні літоўскай мовы, міфалогіі, каляндарных і сямейных святаў і звычаяў, народных танцаў, строяў, народнай кулінарыі, гаспадарчых заняткаў, народнай медыцыны [275; 316; 324; 376]. У зборніку «Прымаўкі літоўскага народа» Л. Юцэвічам былі змешчаны і прымаўкі, якія бытавалі сярод літоўцаў Завілейскага, Нова-Аляксандраўскага, Віленскага і Ашмянскага паветаў [316, s. 59–62, 107–111]. Аднак найбольшую ўвагу да фальклору літоўцаў Віленскага краю даследчыкі праявілі ў міжваенны перыяд. У час знаходжання гэтай тэрыторыі ў складзе польскай дзяржавы вусную народную творчасць сярод мясцовых літоўцаў збіралі і даследавалі літоўскія збіральнікі фальклору Ё. Айдуліс, В. Дрэма, Б. Сабас, П. Бяляўскас, М. Гімбуцене-Альсейкайтэ (Гімбутас), пазней – Ю. Давідайціс, К. Грыгас, Л. Саука, В. Місявічэне, Н. Велюс, Ё. Трынкунас, Н. Лаўрынкене, А. Сесяльскітэ і інш. [237, p. 13–15; 280, p. 5–7].

Мэтанакіраванае этнаграфічнае даследаванне літоўскага насельніцтва Беларусі найбольш інтэнсіўна распачалося ў другой палове XX ст. Каштоўны матэрыял сабралі літоўскія этнографы, якія падрабязна апісалі розныя сферы матэрыяльнай, духоўнай і сацыяльнай культуры літоўцаў памежных з Літвой раёнаў Беларусі. На аснове праведзеных палявых экспедыцый з'явіліся артыкулы такіх даследчыкаў, як В. Мілюс (гаспадарчая дзейнасць, надмагільныя помнікі) [295; 296], Р. Мяркене (жывёлагадоўля, каляндарная абраднасць) [290–293], П. Дундулене (сельскагаспадарчыя абрады і звычаі) [227], І. Буткявічус (народная архітэктура) [210], А. Вішняўскайтэ (сямейная абраднасць) [373], Ё. Мардоса (звычаі ўзаемадапамогі, сям'я) [283; 284], М. Мілювене (традыцыйнае адзенне) [298; 299], В. Саванякайтэ (народнае ткацтва) [332], Р. Балкутэ (народная медыцына) [204], Ю. Пятруліс (пчалярства) [312], С. Даўніс (лазня ў народнай культуры, хатняе начынне) [215; 216], Ж. Шакніс (моладзевыя звычаі і абрады пераходу) [328] і інш.

У савецкі час пад кіраўніцтвам Інстытута літоўскай мовы, Інстытута гісторыі Літвы, Інстытута літоўскай літаратуры і фальклору АН ЛітССР, а таксама Літоўскага краязнаўчага таварыства, Таварыства літоўскай этнічнай культуры і Літоўскага таварыства аховы помнікаў на тэрыторыі памежных з Літвой раёнаў Беларусі праводзілі экспедыцыі этнографы, мовазнаўцы, фалькларысты, гісторыкі, археолагі, мэтай якіх было комплекснае даследаванне гісторыі, мовы і традыцыйнай культуры літоўцаў памежнага рэгіёна. Дзеля гэтай працы ў розныя часы гісторыкаў узначальваў А. Ціла, этнографаў – В. Мілюс, мовазнаўцаў – А. Відугіріс, фалькларыстаў – Н. Велюс.

Па выніках такіх экспедыцый літоўскіх даследчыкаў, праведзеных у 50 – пачатку 90-х гг. XX ст., былі выдадзены калектыўныя манаграфіі «Гервяты» («Gervėčiai») [236] і «Літоўцы Лідскага краю» («Lydos krašto lietuviai») у 2 тамах [279; 280], прысвечаныя шэрагу аспектаў мовы, традыцыйнай культуры і этнічнай гісторыі літоўцаў ваколіц Гервятаў (Астравецкі р-н)

і Пелясы (Воранаўскі р-н). Нягледзячы на дастаткова шырокае кола закранутых пытанняў, у гэтых манаграфіях амаль не разгледжана праблема падабенства мовы і традыцыйнай культуры беларускіх літоўцаў і беларускага этнасу, а праведзена параўнанне пераважна з мовай і традыцыйнай культурай літоўскага этнасу. Асобным выданнем з'яўляецца зборнік казак, сабраных у Гервяцкім краі – «Казкі Гервятаў» («Gervėčių pasakos») [237].

Асаблівай увагі заслугоўваюць таксама манаграфіі Ё. Кудзіркі «Літоўская культура Опсы і Пеліканаў» («Lietuviškoji Apso ir Pelekų kultūra») [257] і «Звычаі вёскі Плікі» («Plikių kaimo papročiai») [258], дзе ўсебакова апісаны народная культура і гісторыя літоўцаў наваколля Опсы (Браслаўскі р-н) і вёскі Плікі (Воранаўскі р-н). Каштоўныя гістарычныя і этнаграфічныя звесткі пра літоўцаў Іўеўскага раёна можна знайсці ў манаграфіі Ю. Мацейкі «Лаздуны» («Lazūnai») [281].

З беларускіх этнографаў варта ў першую чаргу адзначыць М. Я. Грынблата. Грунтуючыся на матэрыялах старых дэмаграфічных справаздач і звестках аб распаўсюджанні літоўскай мовы, а таксама на ўласных палявых назіраннях, ён у сваім артыкуле «Да пытання аб удзеле літоўцаў у этнагенезе беларусаў» паказаў, што на працягу апошняга стагоддзя літоўскі этнічны элемент амаль цалкам растварыўся ў славянскім, гэта значыць беларускім. Аднак у той жа час ён зазначаў, што «некаторая частка насельніцтва праявіла такую стойкасць супраць асіміляцыі, што да гэтай пары не страціла сваёй мовы» [48, с. 530]. Праведзенае М. Я. Грынблатам даследаванне мае важнае значэнне для вывучэння праблемы фарміравання літоўскай этнічнай групы Беларусі.

Пытанні, звязаныя з міжэтнічнымі адносінамі, у тым ліку літоўцаў Беларусі, закраналіся беларускімі этнографамі Т. А. Навагродскім і І. У. Чаквіным [103, с. 20–21]. Разам з іншымі этнічнымі групамі літоўцы разглядаліся ў кантэксце этнасацыяльнай, дэмаграфічнай і рэлігійнай структуры насельніцтва Гродзенскай губерні ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. І. У. Чаквіным [188]. Агульныя энцыклапе-

дычныя звесткі аб літоўцах Беларусі публікавалі В. С. Цітоў і І. Карашчанка [71–73; 187]. Сацыялагічны аспект праблемы этнакультурнай ідэнтыфікацыі літоўцаў Гродзенскай вобласці цікавіў М. Бяспамятных [24].

Што тычыцца даследаванняў другой групы, прысвечаных літоўскім перасяленцам ва ўсходніх і цэнтральных раёнах Беларусі, то яны вычэрпваюцца ўсяго толькі некалькімі публікацыямі. Першымі сярод іх былі артыкулы Мажагетаса [287] і A. D. [197] у літоўскім часопісе «Вартаўнік Айчыны» («Tėvynės Sargas»), у якіх рабілася спроба даць агульную карціну становішча літоўскіх перасяленцаў у Магілёўскай губерні. Аўтары падаюць даволі падрабязныя звесткі пра рассяленне, колькасць перасяленцаў і стан іх духоўнай культуры, адзначаюць іх супраціўленне асіміляцыі. Асаблівая ўвага звернута на праблему з набажэнствамі на літоўскай мове ў мясцовых касцёлах. Пры некаторай белетрыстычнасці многія назіранні і заўвагі аўтараў маюць вялікую навуковую каштоўнасць.

Найбольш значным даследаваннем літоўцаў усходняй Беларусі ў міжваенны перыяд з'яўляюцца працы В. Скардзіса. Спачатку ў артыкуле «Літоўцы на Беларусі (Нарыс аб літоўскіх колёніях)», змешчаным у 1929 г. у краязнаўчым часопісе «Наш край» [156; 157], а потым і ў асобным выданні – адразу на літоўскай мове пад назвай «Нацыянальна-культурнае будаўніцтва сярод літоўскіх працоўных мас Савецкай Беларусі» [338], а затым у дапоўненым выданні на беларускай мове – «Літоўцы ў Совецкай Беларусі» [158], аўтар упершыню спрабуе сістэматызаваць даступныя яму матэрыялы і зрабіць адпаведныя высновы пра развіццё літоўскіх паселішчаў у БССР. У згаданых працах падаюцца гістарычныя звесткі пра перасяленне літоўцаў у Беларусь і ўзнікненне іх першых паселішчаў, падрабязная інфармацыя пра рассяленне і колькасць, гаспадарчы і культурны стан літоўскіх перасяленцаў. Аўтар падкрэслівае схільнасць літоўцаў да паступовай асіміляцыі ў беларускім этнічным асяроддзі. Аднак па-за ўвагай В. Скардзіса засталіся асаблівасці мовы і традыцыйнай

культуры літоўскага насельніцтва, якія адрозніваліх ад мясцовых беларусаў. Акрамя таго, аб'ектам яго даследавання не сталі літоўцы многіх раёнаў Беларусі, якія ў 20–30-х гг. XX ст. не былі ўключаны ў межы БССР. Нягледзячы на пэўныя недахопы і відавочна ідэалагізаваны характар прац В. Скардзіса, яны маюць вялікую каштоўнасць для вывучэння этнічнай групы літоўцаў ва ўсходніх раёнах Беларусі ў канцы XIX – першай палове XX ст.

Асобны раздзел «Літоўскія калоніі ў Беларусі» можна знайсці ў фундаментальным эміграцкім выданні «Наша Літва» («Mūsų Lietuva») Б. Квікліса [260, p. 532–537]. У ім пададзены звесткі пра гісторыю ўтварэння літоўскіх паселішчаў ва ўсходняй Беларусі, дакладнае паходжанне некаторых груп літоўскіх перасяленцаў, іх культурнае і эканамічнае развіццё. Каштоўным з'яўляецца апісанне Б. Квіклісам больш за 20 асобных літоўскіх вёсак ва ўсходніх раёнах Беларусі, якое ў значнай ступені дапамагае высветліць пытанне рассялення літоўскіх перасяленцаў у гэтым рэгіёне.

Некаторыя звесткі пра нацыянальна-культурнае будаўніцтва літоўцаў у 20–30-х гг. XX ст. у БССР можна знайсці ў артыкулах В. Лукіна [91], І. Пушкіна [132], У. Тугая [171]. Яны спрабавалі прааналізаваць становішча літоўцаў у БССР у міжваенны перыяд на аснове архіўных матэрыялаў з пункта погляду гісторыкаў. Галоўная іх увага была звернута на ўтварэнне літоўскіх нацыянальных школ, калгасаў і сельскіх саветаў.

Пэўную цікавасць для этналагічнага даследавання літоўцаў усходніх раёнаў Беларусі маюць працы літоўскай мовазнаўцы М. Кіндурыце-Сівіцкене (Кіндурыс) [78; 155; 335]. Галоўным аб'ектам вывучэння апошняй былі гаворкі мясцовага літоўскага насельніцтва (галоўным чынам вёскі Малькаўка Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці), якія былі пазбаўлены ўплыву літаратурнай літоўскай мовы і яе мацерыковых гаворак. Гэтыя працы дазваляюць прасачыць працэс моўнай асіміляцыі літоўскага насельніцтва і ступень захоўвання імі моўных асаблівасцей. Аўтарству М. Сівіцкене

належыць і ўступны гістарычны агляд пра літоўскіх перасяленцаў ва ўсходніх раёнах Беларусі ў выдадзеным у 2004 г. зборніку ўспамінаў і фальклору жыхароў літоўскай вёскі Малькаўка (Мсціслаўскі р-н) [282, р. 9–42].

## 1.2. Крыніцы

Для ўсебаковага даследавання фарміравання, этнічнай гісторыі, асаблівасцей мовы і культуры літоўскай этнічнай групы Беларусі важнае значэнне маюць крыніцы розных навук – этнаграфіі, археалогіі, гісторыі, мовазнаўства, фалькларыстыкі. Комплекснае выкарыстанне даных гэтых навук дазваляе вызначыць змены, якія адбываліся з этнічнай групай літоўцаў Беларусі на працягу яе гісторыі, паказаць узаемасувязь розных элементаў яе культуры.

Для адказу на пытанне пра паходжанне літоўцаў Беларусі істотнае значэнне маюць археалагічныя крыніцы. Яны адыгрываюць галоўную ролю ў тлумачэнні пачатковых этнічных узаемадачыненняў паміж балтамі і славянамі ў другой палове I – першых стагоддзях II тыс. н. э., з якімі цесна звязана фарміраванне асноўных лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі. Даныя археалогіі дазваляюць прасачыць міграцыі ў мінулым, вынікам якіх звычайна з'яўляецца рэзкае змяненне характару культуры, асабліва калі перасяленцы значна адрозніваліся ад мясцовага насельніцтва. Археалагічныя матэрыялы ўтрымліваюць таксама інфармацыю пра ўзаемасувязі этнічных супольнасцей, бо дазваляюць вылучыць у культуры мясцовага насельніцтва запазычаныя элементы матэрыяльнай культуры.

Асноўным аб'ектам археалагічных даследаванняў з'яўляюцца паселішчы і пахавальныя помнікі. На падставе здабытых на працягу XIX–XX стст. археолагамі матэрыялаў, праз даследаванне ў першую чаргу пахавальных помнікаў, былі вылучаны асобныя археалагічныя культуры I – першай паловы II тыс. н. э. і праведзена іх этнічная ідэнтыфікацыя. Апісанні археалагічных помнікаў крыніцазнаўчага характару

змешчаны ў шэрагу публікацый археолагаў XIX–XX стст.: В. Шукевіча [351; 352; 355], Ф. Пакроўскага [128; 129], У. Галубовіча [240], Я. Звяругі [61], А. Мітрафанава [100], А. Квятkоўскай [76] і інш.

Важнае крыніцазнаўчае значэнне маюць матэрыялы мовазнаўства. Найбольш каштоўную інфармацыю ў вывучэнні этнічнай гісторыі літоўцаў Беларусі ўтрымліваюць даныя анамастыкі і ў першую чаргу яе раздзела – тапанімікі. Самымі поўнымі выданнямі па тапаніміі Беларусі з'яўляюцца «Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага» [342], спіс населеных пунктаў Віленскай губерні І. І. Гашкевіча [47], «Кароткі тапанімічны слоўнік Беларусі» В. Жучкевіча [56], «Слоўнікі назваў населеных пунктаў...» Я. Н. Рапановіча [133–138], «Мікратапанімія Беларусі» [97] і інш. Літоўскія формы назваў населеных пунктаў Беларусі зафіксаваны і прааналізаваны ў працах М. Размукайтэ і О. Вайчулітэ-Раманчук [263; 318; 319; 367].

Большую яснасць у разуменне этнічнай гісторыі літоўцаў Беларусі ўносяць адэтнанімічныя назвы паселішчаў, якія сведчаць пра міграцыйныя працэсы, што адбываліся ў рэгіёне балта-славянскага этнічнага памежжа. Аднак узятыя паасобна даныя тапанімікі, якія сведчаць пра балцкае паходжанне многіх назваў населеных пунктаў Беларусі, мала што кажуць пра сам працэс асіміляцыі мясцовага балцкага насельніцтва.

Пэўную дапамогу ў вывучэнні этнічных груп могуць аказаць даныя этнанімікі. Этнонімы заўсёды ўтрымліваюць нейкую характарыстыку этнічнай супольнасці, якую яны абазначаюць. Хоць часта яны ўжо незразумелыя для сваіх носьбітаў і не адлюстроўваюць іх пэўных асаблівасцей, тым не менш, яны звычайна гістарычна абумоўленыя і абгрунтаваныя [112, с. 5–33]. Этнонімы дапамагаюць зразумець паходжанне сваіх носьбітаў, іх этнічную і рэлігійную прыналежнасць, сацыяльнае становішча ў мінулым, род заняткаў, асаблівасці гаворкі, мясцовага побыту і нораваў, месцажыхарства, геаграфічнага становішча і прыродных умоваў [184, с. 355]. Важнымі ў гэтым плане з'яўляюцца мікраэтно-

німы, якія прынята адрозніваць ад назваў больш буйных этнічных утварэнняў, такіх як субэтнас, этнас, метаэтнас, таму што яны характэрны для невялікіх лакальных частак пэўнага этнасу ці этнічных груп.

Карыснай гістарычнай крыніцай з'яўляюцца мікраэтнонімы лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі. Гэта ў першую чаргу мікраэтнонімы «барцякі» і «скалікі» – лакальныя назвы літоўцаў Воранаўскага раёна, «гіргуны» – назва-мянушка літоўцаў Астравецкага раёна, «жагуны» – лакальная назва літоўцаў Іўеўскага раёна. Яны дапамагаюць зразумець паходжанне сваіх носьбітаў, сацыяльнае становішча ў мінулым, род заняткаў, асаблівасці іх гаворкі [181, с. 8].

Са з'яўленнем пісьмовых крыніц роля даных мовазнаўства значна ўзрастае. Каштоўную гістарычную інфармацыю аб этнічнай гісторыі літоўцаў Беларусі ўтрымліваюць даныя антрапанімікі. Адзін з найбольш грунтоўных збораў па літоўскай антрапаніміі вызначанага рэгіёна змешчаны ў выданні «Літоўская антрапаніміка. Асабовыя назвы літоўцаў Вільні ў пачатку XVII ст.» З. Зінкявічуса [380]. Беларускія прозвішчы літоўскага паходжання адлюстраваны ў выданнях М. В. Бірылы «Беларуская антрапанімія» [19] і «Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы» (разам з А. Ванагасам) [20]. Цікавыя звесткі могуць даць даследаванні літоўскіх імён, зафіксаваных у шляхецкіх інвентарных і іншых дакументах позняга Сярэдневякоўя.

Акрамя таго, у пісьмовых крыніцах ёсць даныя, якія адлюстроўваюць гістарычныя, эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя працэсы таго часу. Яны, у сваю чаргу, з'яўляюцца найважнейшымі фактарамі этнічных працэсаў, якія адбываліся ў рэгіёне. Так, пры вывучэнні фарміравання этнічнай групы літоўцаў Беларусі асаблівае значэнне маюць пісьмовыя звесткі аб перасяленні на тэрыторыю ВКЛ груп заходнебалцкага насельніцтва, якія змешчаны ў шэрагу сярэдневяковых дакументаў [130, с. 151–152, 877–878; 333, s. 703], згадкі пра яго далейшы лёс у ВКЛ [18, с. 215; 93, с. 401, 828; 185, с. 51; 244, s. 45].

Немалаважнае значэнне мае і ўласна аналіз мовы прадстаўнікоў асобных лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі, выяўленне ў ёй запазычаных элементаў і найбольш замацаваных асаблівасцей. Гэта, у сваю чаргу, дазваляе выявіць характар этнакультурных працэсаў у рэгіёне ў мінулым, прасачыць напрамкі дыфузіі культурных з'яў. Магчымасць такога аналізу даюць працы па дыялекталогіі літоўскай мовы [264; 267], асобныя слоўнікі народных гаворак літоўцаў Іўеўскага [262] і Дзятлаўскага раёнаў [370], невялічкія слоўнікі мовы літоўцаў Гервяцкага [384] і Пелясскага краю [385]. Для асвятлення праблемы беларуска-літоўскіх моўных кантактаў каштоўным з'яўляецца «Слоўнік балтызмаў у славянскіх мовах» Ю. Лаўчутэ [86].

Асобную групу крыніц, якія маюць выключнае значэнне для даследавання традыцыйнай культуры літоўскай этнічнай групы Беларусі, складаюць матэрыялы палявых фальклорных і этнаграфічных экспедыцый. У XIX–XX стст. ад беларускіх літоўцаў фалькларыстамі была занатавана вялікая колькасць розных песень, паданняў, легендаў, казак, павер'яў, міфалагічных казанняў, замоваў, чараўніцтваў, забаронаў, варожбаў, прымавак, прыказак. Большая частка гэтага матэрыялу захоўваецца ў РФЛФ і ААЭ ІГЛ. У манаграфіі галоўным чынам скарыстаны матэрыялы Літоўскага навуковага таварыства, якія захоўваюцца ў РФЛФ. Гэта палявыя матэрыялы Бр. Куцкі, К. Мацкявічуса, П. Марэцкаса, сабраныя імі ў 1920–30-х гг. у Браслаўскім, Віленскім і Лідскім паветах [140–142]. Каштоўнай з'яўляецца справа № 2374 РФЛФ, якая ўяўляе сабой збор фальклорных тэкстаў, сабраных вядомай даследчыцай М. Альсейкайтэ-Гімбуцене (Гімбутас) у 1940 г. ад літоўцаў Ашмянскага, Віленскага, Лідскага і Свянцянскага паветаў [143].

Значная частка палявых матэрыялаў была апублікавана ў выданнях «Гервяты» [236], «Казкі Гервят» [237], прысвечаных літоўцам Гервяцкага краю (Астравецкі р-н), у двухтомніку «Літоўцы Лідскага краю» [279; 280], дзе змешчаны матэрыялы, якія тычацца гісторыі, культуры і мовы літоўцаў

Пляскага краю (Воранаўскі р-н), а таксама ў літоўскіх навуковых выданнях, якія публікавалі фальклор літоўцаў Віленскага краю, – у 4-м томе «Фальклорных прац» [360], цалкам прысвечаным літоўскаму фальклору Віленшчыны, у першым томе каўнаскага выдання «Літоўскі фальклор» [271], у абагульняючых выданнях – «Літоўскіх міфалагічных казаннях» [269], 4-м томе «Літоўскага фальклору» [270].

Сярод архіўных матэрыялаў ААЭ ІГЛ сваёй каштоўнасцю вылучаецца справа № 44. Гэта этнаграфічныя нататкі вядомай літоўскай даследчыцы А. Вішняўскайтэ, зробленыя ёй па выніках праведзенай у 1956 г. экспедыцыі ў Мядзельскі, Пастаўскі, Відзаўскі, Ігналінскі і Браслаўскі раёны. Адной з галоўных мэт экспедыцыі быў пошук носьбітаў літоўскай мовы, а таксама фіксацыя свежых слядоў абеларушвання тутэйшага насельніцтва праз збіранне фактаў моўнай і культурнай асіміляцыі. У выніку з'явілася грунтоўная справа, у якой змешчаны разнастайныя звесткі па рассяленні мясцовага літоўскага насельніцтва, радзіннай, вясельнай і пахавальнай абраднасці, каляндарных святах, тэрміналогіі сваяцтва, павер'ях, звычаях калектыўнай узаемадапамогі, гаспадарчых занятках, традыцыях харчавання, тапаніміцы, традыцыйнаму адзенню, народнай медыцыне [1].

Важнай крыніцай па вывучэнні этнічнай гісторыі беларускіх літоўцаў з'яўляюцца этнаграфічныя матэрыялы М. Я. Грынблата, сабраныя ім у 1954 г. у памежных з Літвой раёнах Беларусі, якія захоўваюцца ў АІМЭФ [2–7]. Падчас сваёй экспедыцыі М. Я. Грынблат знайшоў яшчэ свежыя сляды працэсу абеларушвання мясцовага літоўскага насельніцтва, калі яшчэ можна было пачуць літоўскую гаворку ад старэйшых жыхароў асобных вёсак гэтага рэгіёна ці атрымаць інфармацыю пра тое, што некалі іх бацькі і дзяды размаўлялі па-літоўску. Так, інфарматар з вёскі Мядынкі-Дамашэўскія Браслаўскага раёна адзначаў: «*Старыкі гаварылі па-літоўску. Мой бацька быў чысты ліцвяк, а мяне ўжо можна прадаць па-літоўску, нічога не разумею*», а ў суседняй вёсцы Рымашы было запісана: «*каторыя даўнія гавораць*

*па-даўнейшаму, па-літоўску*» [5, арк. 25–27]. М. Я. Грынблат зазначаў, што мясцовыя літоўцы ў асноўным двух-, а то і трохмоўныя, добра валодаюць літоўскай і беларускай мовамі, а частка да таго ж і польскай («*мы ж ліцвякі ўрадзоныя, умеем і па-літоўску гаварыць, і па-польску, і па-мясцоваму*» [5, арк. 19]).

Каштоўнымі з'яўляюцца засведчаныя М. Я. Грынблатам мікраэтнонімы, якія здолелі захаваць беларускія літоўцы (напрыклад, мікраэтнонім заходнебалцкага паходжання «барцякі» ў Радунскім раёне: «Барцякі-літоўцы, што жывуць у Осаўскім с/с, завуць іх [беларусаў] гуды» [2, арк. 6]; «Барцякі гавораць па-літоўску і па-нашаму ўмеюць» [2, арк. 7]). Аднак зыходзячы з народнай этымалогіі, якая звязвае паходжанне назвы «барцякі» з назвай калод-борцяў і з'яўляецца больш познім пераасэнсаваннем гэтага слова (параўн.: «Ну, а літоўцы мы – барцякі. Ну, а барцякі, таму што касцёл быў пастроены з борцяў гэтага лесу. У Пелясе – барцякі, а ў Подзітве скалікі дразняць, скалікай» [8, арк. 9]), М. Я. Грынблат памылкова выводзіў этымалогію гэтага мікраэтноніма ў значэнні «лясныя людзі» [48, с. 541]. Больш познім пераасэнсаваннем неабходна лічыць і народную этымалогію мікраэтноніма «скалікі» – зняважлівай мянушкі літоўскіх жыхароў вёсак Друскенікі і Подзітва (Воранаўскі р-н), якая звязвае гэтую назву з літоўскім словам skalikas «ганчак, выжал» [30, с. 404; 181, с. 8]. Самі літоўцы называлі мясцовых беларусаў «гудамі», «гудасамі»: «[літоўцы] нас называюць гудасы, гудай, што па-простаму гаворым» [4, арк. 42]. У Ашмянскім і Астравецкім раёнах была распаўсюджана назва «гергуны», «гіргуны»: «літоўцы завуць іх [беларусаў] чагакі (ад «чаго»), а яны літоўцаў – гергуны («гергечуць» на незразумелай мове)» [3, арк. 13]; «[літоўцаў называюць] гіргуны, ліцьвіны; за Гервятамі ўсё сакі і сакі (літ. sakyti «гаварыць». – *Ю. В.*)» [3, арк. 43].

Важнае месца ў манаграфіі займаюць уласныя палявыя запісы і назіранні, зробленыя падчас палявых этнаграфічных эспедыцый аўтара ў раёны пражывання прадстаўнікоў

літоўскай этнічнай групы Беларусі. У ходзе маршрутнай экспедыцыі ў 2005 г. па Горацкім, Дрыбінскім, Магілёўскім, Мсціслаўскім, Чавускім і Шклоўскім раёнах Магілёўскай вобласці аўтарам былі выяўлены вёскі з літоўскім насельніцтвам: Сафійск і Каменка Магілёўскага раёна, Малькаўка Мсціслаўскага раёна, Суслаўка Дрыбінскага раёна, Каралёўка Чавускага раёна. Пошук носьбітаў літоўскай мовы праводзіўся аўтарам падчас экспедыцыі ў 2005 г. па Іўеўскім, Воранаўскім і Шчучынскім раёнах Гродзенскай вобласці. У Воранаўскім раёне была абследавана в. Пеляса (Воранаўскі р-н), дзе кампактна пражывае даволі вялікая колькасць літоўцаў. Былі сабраны звесткі па каляндарнай абраднасці і традыцыйных вераваннях мясцовага насельніцтва, зафіксавана функцыянаванне мікраэтнонімаў «барцякі» і «скалікі». Выяўлены месцы кампактнага пражывання літоўцаў (у вёсках Пеляса, Пілюнцы, Друскенікі, Подзітва, Повалака, Дубінцы, Ляллюшы). У 2006 г. у в. Пеляса былі сабраны звесткі па мікраэтнаніміі, каляндарнай абраднасці, міфалагічных уяўленнях мясцовых літоўцаў. Матэрыялы экспедыцый захоўваюцца ў АІМЭФ [8].

У 2007 г. у складзе навуковай групы аўтар прыняў удзел у Міжнароднай комплекснай экспедыцыі «Па шляхах графа К. Тышкевіча праз 150 гадоў», прысвечанай 150-годдзю экспедыцыі графа К. Тышкевіча па Віліі. У ходзе экспедыцыі былі сабраны звесткі па беларуска-літоўскіх этнакультурных узаемадачыненнях у Вілейскім, Смаргонскім і Астравецкім раёнах Беларусі, Вільнюскім, Тракайскім, Кайшадорскім і Каўнаскім раёнах Літвы. Яны тычацца розных аспектаў традыцыйнай культуры і мовы мясцовага літоўскага і беларускага насельніцтва [9].

Галоўнай крыніцай, якая дазваляе прасачыць дэмаграфічныя змены ў структуры этнічнай групы літоўцаў Беларусі ў XIX–XX стст., з'яўляюцца статыстычныя матэрыялы. Гэта ў першую чаргу перапісы насельніцтва, статыстычныя даследаванні, адміністрацыйныя справаздачы. Значную цікавасць тут уяўляюць манаграфічныя даследаванні і атласы

П. І. Кепена [77], А. Глаголева [44], А. Карэвы [80], М. Лябёдкіна [87], Н. Сталпянскага [159], А. Ф. Рыціха [139], Р. Эркерта [193], Э. Вольтэра [37] і інш.

Сярод статыстычных крыніц канца XIX – пачатку XX ст. асаблівае месца займаюць матэрыялы Першага ўсеагульнага перапісу Расійскай імперыі [117–122], галоўным этнічным ідэнтыфікатарам якога была мова. Яны ўтрымліваюць каштоўныя звесткі пра колькасць і рассяленне літоўцаў Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў.

Дынаміку колькасці этнічнай групы літоўцаў Беларусі і яе дэмаграфічную структуру адлюстроўваюць таксама даныя гарадскіх перапісаў 1917 г. Магілёўскай губерні і г. Мінска [46; 123], польскіх перапісаў 1921 і 1931 гг. [222–224; 340; 341], усесаюзных перапісаў 1926, 1937, 1939, 1959, 1970, 1979 і 1989 гг. [38; 39; 66; 67]. Важнымі з'яўляюцца матэрыялы перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь 1999 г. [67–69]. У цэлым параўнальны аналіз статыстычных матэрыялаў магчымы і не звязаны з недахопам даных, аднак ён значна абцяжараны несупастаўнасцю дзяржаўных межаў Беларусі ў розныя гады і частымі зменамі яе ўнутранага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу.

Інфармацыю, якая тычыцца розных аспектаў нацыянальна-асветніцкага, культурнага, гаспадарчага і эканамічнага жыцця літоўцаў усходніх раёнаў Беларусі ў першай палове XX ст., змяшчаюць літоўскія перыядычныя выданні, якія выходзілі ў Мінску і Маскве ў 20–30-х гг. XX ст. і з'ўляліся афіцыйным друкаваным органам літоўцаў СССР. Гэта газета «Чырвоны араты» («Raudonasis Artojas»), часопісы «Кавадла» («Priekalas») і «Калектыў» («Kolektyvas»). У іх друкаваліся навіны з літоўскіх «калоній» БССР, артыкулы па гісторыі літоўскіх паселішчаў у Беларусі, праблемах адукацыі на літоўскай мове, актуальных пытаннях грамадскага жыцця, рэкамендацыі па вядзенні сельскай гаспадаркі і г. д. [195; 196; 200; 211; 217–221; 242; 247; 248; 250; 251; 254; 274; 286; 303; 314; 315; 325; 329; 336; 337; 339; 343; 345–349; 366; 371; 372].

Значную каштоўнасць для вывучэння літоўскіх паселішчаў ва ўсходніх раёнах Беларусі ў другой палове XX ст. мае выдадзены ў Літве зборнік успамінаў і фальклору жыхароў літоўскай вёскі Малькаўка (Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл.) – «Святло малькаўскага беразняка» («Malkavos beržyno šviesa»). Сабраныя ў ім матэрыялы дазваляюць таксама прасачыць гісторыю пражывання літоўскіх перасяленцаў у пасляваенны час [282].

## 1.3. Метады даследавання

У дадзенай працы выкарыстоўваюцца эвалюцыйны, дыфузіянісцкі, структурны і параўнальна-гістарычны метады.

Згодна з эвалюцыйным метадам развіццё культуры разглядаецца як своеасаблівая плыня з'яў, што працякае ў часе, а ў гарызантальным кірунку – ад адной этнічнай супольнасці ці асяроддзя пражывання да другой супольнасці ці асяроддзя [173, с. 8]. Адны элементы культуры старэюць і выключаюцца з плыні, другія захоўваюцца, трэція ўзнікаюць і распаўсюджваюцца. Пастаянна ўзнікаюць новыя змены, спалучэнні і сінтэзы. Пры даследаванні фарміравання і развіцця этнічных груп важна вылучыць рысы гэтай плыні ў часе і прасторы, яе своеасаблівасць у вызначаныя гістарычныя перыяды.

Сукупнасць усіх змяненняў этнасу або яго асобных частак (як у часе, так і ў прасторы) прынята называць у этналагічнай літаратуры этнічнымі працэсамі [186, с. 550].

Пры вывучэнні літоўскай этнічнай групы Беларусі варта звярнуць увагу ў першую чаргу на такія віды этнічных працэсаў, як асіміляцыя, міграцыя і інтэграцыя, а таксама на фактары, якія ўплывалі на іх развіццё. Да такіх фактараў можна аднесці: сацыяльна-эканамічны, дзяржаўны, палітычны, канфесіянальны, дэмаграфічны, тэрытарыяльны, прыродна-геаграфічны. Значную ролю ў развіцці літоўскай этнічнай групы ў Беларусі адыгралі ўласна этнічныя фактары – этнічная сітуацыя ў рэгіёне, культурныя сувязі літоўскай

і беларускай этнічных супольнасцей, наяўнасць пэўных этнічных стэрэатыпаў.

Значная роля ў вывучэнні этнічных груп належыць дыфузіяністкаму метаду, ігнараванне якога вядзе да спрошчанага разумення зменаў культуры ў рэгіёне. Важна крытычна падыходзіць да ролі дыфузіі (распаўсюджвання) ў гісторыі, пазбегнуць поўнага супрацьпастаўлення яе эвалюцыі альбо поўнага яе адмаўлення. Менавіта спалучэнне эвалюцыі і дыфузіі ўтварае ўнутраны механізм плыні з'яў культуры ў часе і прасторы [126, с. 13].

З'ява дыфузіі выконвае важную ролю сувязі паміж культурамі розных этнічных супольнасцей. Праз розныя формы ўзаемадзеяння паміж народамі (перасяленні, заваёвы, абмен, гандаль, развіццё шляхоў зносін) адбываецца распаўсюджванне новых элементаў культуры, іх далейшае змешванне і злучэнне, часам новыя з'явы культуры ўзнікаюць ад сінтэзу з'яў дзвюх культур.

Варта адзначыць інтэнсіўнасць і характар міжэтнічных кантактаў паміж беларусамі і літоўцамі, якія былі абумоўлены іх тэрытарыяльнымі ўзаемаадносінамі ў межах адзіных палітычных сістэм, а таксама пэўнай блізкасцю іх у моўным і культурна-бытавым аспектах. У многім менавіта ў ходзе гэтых кантактаў і быў створаны своеасаблівы комплекс культуры і мовы літоўцаў Беларусі. Таксама неабходна мець на ўвазе той факт, што там, дзе адбываецца ўзаемадзеянне паміж людзьмі розных культур, неабходна чакаць змяншэння культурных адрозненняў, бо ўзаемадзеянне патрабуе падабенства і агульнасці культуры [194, с. 18].

Для вылучэння характэрных элементаў культурнага комплексу, высвятлення ўзаемасувязей паміж імі, вызначэння структуры традыцыйнай культуры беларускіх літоўцаў неабходна выкарыстанне структурнага метаду. Згодна з гэтым метадам з'явы культуры разглядаюцца ў адзінстве сваіх унутраных і знешніх сувязей з улікам іх варыятыўнасці і ўнікальнасці. З'явы культуры аналізуюцца як шматузроўневае цэласнае ўтварэнне альбо структура. Змяненне аднаго з эле-

ментаў структуры ў многіх выпадках вядзе да змянення іншых элементаў [88, с. 288]. Каб зразумець увесь комплекс узаемасувязей элементаў у агульнай сістэме традыцыйнай культуры літоўскай этнічнай групы Беларусі, варта вызначыць функцыі гэтых элементаў.

Выкарыстанне параўнальна-гістарычнага метаду дазваляе правесці аналіз дынамікі росту колькасці і рассялення літоўскага насельніцтва Беларусі, ладу іх жыцця і традыцыйных заняткаў, правесці параўнанне з прадстаўнікамі іншых этнічных супольнасцей (у першую чаргу з беларусамі). Гэты метад дазваляе прасачыць змены ўсіх кампанентаў культуры літоўскай этнічнай групы Беларусі на любым этапе яе развіцця.

У дадзенай працы выкарыстоўваецца тэрмін «этнічная група», які зацвердзіўся апошнім часам у айчыннай этналогіі як больш карэктны і абгрунтаваны ў параўнанні з блізкімі да яго паняццямі «этнічная меншасць» або «нацыянальная меншасць». У беларускай этналогіі пад «этнічнай групай» звычайна разумеецца група прадстаўнікоў пэўнага народа (частка этнасу), якая пражывае па-за межамі яго этнічнай тэрыторыі [189, с. 548].

У замежнай этналагічнай літаратуры тэрмін «этнічная група» звычайна ўжываецца для абазначэння народанасельніцтва, якое:

у значнай ступені біялагічна самаўзнаўляецца;

падзяляе фундаментальныя культурныя каштоўнасці, што выяўляецца ў знешнім адзінстве культурных формаў;

утварае поле для камунікацыі і ўзаемадзеяння;

характарызуецца тым, што яго прыналежнасць да этнічнай групы ідэнтыфікуецца як тымі, хто ў яе ўваходзіць, так і тымі, хто ў яе не ўваходзіць, ствараючы пры гэтым адзінку, якая вылучаецца сярод адзінак таго ж парадку [194, с. 11].

У гэтым сэнсе «этнічная група» больш адпавядае прынятаму ў беларускай этналогіі тэрміну «этнічная супольнасць». Ім абазначаецца ўстойлівая культурная супольнасць людзей, якая мае своесаблівасць культуры і ўсведамляе гэту свое-

асаблівасць і сваё культурнае адзінства. У адпаведнасці з гэтым вызначэннем у сістэму этнічных супольнасцей уваходзяць метаэтнас, этнас, субэтнас і этнічныя групы. У дадзенай працы пад паняццем «этнічная група» разумеецца частка этнасу, якая адарвана ад асноўнай яго масы і пражывае ў іншай дзяржаве [14, с. 5].

*Глава 2*

# ЭТНІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ ЛІТОЎЦАЎ БЕЛАРУСІ

## 2.1. Фарміраванне этнічнай групы літоўцаў Беларусі

Згодна з перапісам насельніцтва 1999 г., літоўская этнічная група ў Рэспубліцы Беларусь налічвала 6387 чалавек (0,06% ад усяго насельніцтва краіны) і займала дзявятае месца сярод усіх этнічных груп рэспублікі – пасля беларусаў, рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, армян, татараў і цыган. Следам ідуць этнічныя групы азербайджанцаў, немцаў, малдаван, грузінаў, чувашоў, латышоў і інш. Для рассялення літоўцаў Беларусі характэрна як кампактная, так і дысперсная форма рассялення. Першае месца па колькасці літоўскага насельніцтва займае Гродзенская вобласць – 2964 чалавек. Большая палова літоўцаў гэтай вобласці пражываюць ў Астравецкім (1045 чал.) і Воранаўскім (716 чал.) раёнах, дзе іх доля ад агульнага насельніцтва складае 3,5 і 2% адпаведна. У Мінску колькасць чалавек, якія ў 1999 г. вызначылі сябе літоўцамі, склала 724, у Мінскай вобласці – 583, у Віцебскай вобласці – 917 (з іх на памежныя з Літвой Пастаўскі і Браслаўскі раёны прыпадаюць 143 і 132 чалавекі адпаведна), у Брэсцкай вобласці – 422, у Гомельскай – 411, у Магілёўскай – 366. Гарадское насельніцтва складае большасць сярод беларускіх літоўцаў (каля 55%) і расселена ў цэлым дысперсна па розных гарадах Беларусі: найбольш у Мінску (724 чал.), Гродне (317 чал.), Лідзе (264 чал.), Віцебску (154 чал.), Гомелі (131 чал.), Магілёве (115 чал.) і Брэсце (100 чал.) [67, с. 16–37, 158–191].

Частку літоўскай этнічнай групы Беларусі складаюць нашчадкі балцкага насельніцтва, якое пражывала ў многіх

раёнах нашай краіны яшчэ ў познім Сярэдневякоўі. Да яе ў першую чаргу адносяцца літоўцы – карэнныя жыхары беларуска-літоўскага этнічнага памежжа, якія цяпер кампактна пражываюць у Астравецкім (вёскі Гайголі, Гальчуны, Гелюны, Гервяты, Гіры, Гудзянікі, Кністушкі, Мацкі, Міцюны, Пелегрында, Петрыкі, Рымдзюны і інш.) і Воранаўскім (вёскі Друскенікі, Дубінцы, Лялюшы, Пеляса, Пілюнцы, Повалака, Подзітва і інш.) раёнах Гродзенскай вобласці, Браслаўскім (вёскі Вайнюнцы, Заборнікі, Мілюнцы і інш.) раёне Віцебскай вобласці. У гэтых раёнах сканцэнтравана каля адной трэцяй усіх літоўцаў Беларусі. Другую частку складаюць літоўцы, якія па розных прычынах перасяліліся на тэрыторыю сучаснай Беларусі ў XIX–XXI стст. Яны дысперсна пражываюць у розных месцах краіны і ў наш час складаюць пераважную большасць сярод беларускіх літоўцаў. Да апошніх таксама можна аднесці і літоўцаў – асоб без беларускага грамадзянства, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь. Колькасць апошніх у 1999 г. склала 497 чалавек [69, с. 233]. Найбольш складанай і неадназначнай з'яўляецца праблема фарміравання трох асноўных лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі – насельніцтва памежных з Літвой раёнаў Беларусі – Астравецкага, Браслаўскага і Воранаўскага.

Балты, да якіх у лінгвістычна-этнаграфічных адносінах акрамя літоўцаў належаць і латышы, як самастойная этнамоўная супольнасць сфарміраваліся прыблізна ў другой палове III – першай палове II тыс. да н. э. [238, p. 179; 265, p. 40–75; 288, p. 9]. У гэты час яны займалі вялікую тэрыторыю ад Балтыйскага мора і Ніжняй Віслы на захадзе да басейна верхняй Акі і сярэдняга Дняпра на ўсходзе, ад Заходняй Дзвіны на поўначы да Прыпяці на поўдні [85, с. 99–100; 265, p. 47–52]. На думку расійскага археолага В. Сядова, ужо ў сярэдзіне I тыс. да н. э. балты падзяляліся на тры асноўныя «дыялектна-племянныя групы». Міжрэчча ніжняй Віслы і Нёмана займала заходнебалцкая этнічная супольнасць, з якой пазней выйшлі сярэдневяковыя прусы, галінды, надровы,

скаловы, борці, яцвягі, куршы і інш. Тэрыторыю на ўсход ад іх насялялі ўсходнія балты, продкі літвы (аўкштайтаў), жамойтаў, земгалаў, селаў, латыголаў. У Верхнім Падняпроўі і сумежных з ім абласцях абаснавалася трэцяя група балтаў – «дняпроўская». Да апошніх В. Сядоў адносіў прадстаўнікоў вельмі блізкіх паміж сабой археалагічных культур ранняга жалезнага веку – днепра-дзвінскай, юхнаўскай і верхнеокскай [152, с. 43].

Паводле звестак археалогіі і гідранімікі, яшчэ ў першай палове I тыс. н. э. амаль усю тэрыторыю сучаснай Беларусі насяляла балцкае насельніцтва [59, с. 61; 62, с. 100; 101, с. 34]. У гэты перыяд славяне жылі кампактна, суцэльным масівам толькі ў самых паўднёвых раёнах сучаснай тэрыторыі Беларусі, у басейне р. Прыпяць, пераважна на поўдзень ад яе [14, с. 19]. Балцкі этнічны арэал на тэрыторыі сучаснай Беларусі быў прадстаўлены днепра-дзвінскай археалагічнай культурай і культурай штрыхаванай керамікі. Першая з гэтых культур займала тэрыторыю Верхняга Падняпроўя і полацкавіцебскую частку басейна Заходняй Дзвіны, другая ж ахоплівала цэнтральную частку сучаснай Беларусі і ўсходнюю частку сучаснай Літвы. Паступова на аснове днепра-дзвінскай культуры ў сярэдзіне I тыс. н. э. фарміруецца тушамлінска-банцараўская культура, якая распаўсюджваецца таксама ва ўсходнюю частку арэала культуры штрыхаванай керамікі. У сярэдзіне I тыс. н. э. у паўднёвай левабярэжнай частцы Верхняга Падняпроўя складаецца калочынская культура, шмат у чым ідэнтычная тушамлінска-банцараўскай. Балцкая прыналежнасць гэтых археалагічных культур вызначаецца не толькі важнейшымі іх элементамі – керамічным матэрыялам і домабудаўніцтвам, але і тым, што гэтыя элементы не прасочваюцца ў славянскіх старажытнасцях апошняй чвэрці I тыс. н. э. [151, с. 21–26]. З IV–V стст. н. э. на аснове змешвання насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі з перасяленцамі з паўднёвага захаду на тэрыторыі ўсходняй Літвы і прылеглай частцы Беларусі (да возера Свір на ўсходзе і правабярэжжа Нёмана каля мяжы з Літвой на захадзе)

стала фарміравацца новая супольнасць, якую археолагі называюць культурай усходнелітоўскіх курганоў (менавіта ў той час на згаданай тэрыторыі з'явіўся абрад пахавання ў курганах). Гэтая археалагічная культура праіснавала да XII–XIII стст., і большасць даследчыкаў лічыць яе носьбітаў непасрэднымі продкамі літоўскага этнасу [265, p. 172–202].

Пачынаючы з VI–VII стст. н. э. на тэрыторыі рассялення «дняпроўскіх» балтаў фіксуюцца славянскія культурныя элементы, якія сведчаць пра пачатак пранікнення славян у балцкае асяроддзе [151, с. 26]. У VIII–IX стст. славяне вялікімі групамі засяляюць Верхняе Падняпроўе і Падзвінне, паступова адціскаючы і асімілюючы мясцовае балцкае насельніцтва [151, с. 28]. Калі на першым этапе міграцыя славян часам насіла характар ваеннага захопу, то з цягам часу вызначальнай рысай працэсу балта-славянскага этнакультурнага ўзаемадзеяння робіцца яго пераважна мірны характар [55, с. 15; 61, с. 15; 149, с. 10–13]. Вынікам такога ўзаемадзеяння стала актыўнае перамешванне прышлых славян з мясцовымі балтамі. У ходзе міксацыі балтаў і славян да IX–X стст. сфарміраваліся новыя ўсходнеславянскія этнічныя супольнасці – крывічы, дрыгавічы і радзімічы, якія неаднаразова згадваюцца ў сярэдневяковых пісьмовых крыніцах [14, с. 20]. Гэтыя этнічныя супольнасці праіснавалі да сярэдзіны XII ст., калі разам з іншымі ўсходнеславянскімі этнічнымі супольнасцямі трансфармаваліся ў агульнаўсходнеславянскую этнічную супольнасць. Прадстаўнікі гэтай новай усходнеславянскай супольнасці называлі сябе «русінамі», «русічамі», «рускімі». Дзве вялікія лінгвістычна-этнаграфічныя групы гэтай усходнеславянскай этнічнай супольнасці, з цэнтрамі ў Папрыпяцці і Падзвінні, былі асноўнымі непасрэднымі продкамі беларускага этнасу [14, с. 426–427].

У той жа час ёсць падставы меркаваць, што ў асобных месцах пражывання гэтых усходнеславянскіх этнічных супольнасцей некаторы час па-ранейшаму захоўваліся паасобныя групы неасіміляванага балцкага насельніцтва. Гэта меркаванне падмацоўваецца данымі мовазнаўства, археалогіі,

канфесіянальнай гісторыі. Так, В. Жучкевіч вылучаў на тэрыторыі Беларусі некалькі добра прыкметных «балцкіх ачагоў», у якіх балцкія мовы маглі функцыянаваць яшчэ доўгі час пасля прыходу славян. Сярод такіх «балцкіх астравоў» ён называў арэал Мінск–Заслаўе–Крайск–Бягомль–Лепель–Чарэя–Бобр–Барысаў–Мінск, таксама раён Слуцка–Грэска–Капыля і Талькі–Шацка. Адным з самых паўднёвых ачагоў балцкай тапаніміі В. Жучкевіч лічыў крайні паўночны захад Гомельскай і паўднёвы захад Магілёўскай абласцей у радыусе 30–60 км вакол Клічава [57, с. 213; 58, с. 118, 126].

На карысць гэтай жа думкі сведчаць і дадзеныя канфесіянальнай гісторыі. Вядома, што адразу ж пасля афіцыйнага хрышчэння Літвы паводле каталіцкага абраду ў 1387 г. першыя касцёлы на тэрыторыі Беларусі былі заснаваны ў Гайне і Абольцах (сучасныя Лагойскі і Талачынскі раёны). На падставе гэтага факту шэраг даследчыкаў робяць выснову, што ў гэтых месцах таксама захоўваліся неасіміляваныя групы балцкага насельніцтва, якія і прынялі каталіцтва ўслед за блізкай ім па мове і культуры «Літвой» (літоўцамі). Вывучэннем балцкага насельніцтва ў наваколлі в. Абольцы найбольш грунтоўна займаўся польскі даследчык Е. Ахманскі. Паводле кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ, дзе змешчаны дакументы часоў вялікага князя Казіміра Ягайлавіча, і двух інвентароў усходняй часткі былой Абалецкай воласці, ім была даследавана антрапанімія мясцовых жыхароў. Антрапонімы маюць яскрава балцкае паходжанне. У сярэдзіне XVI ст. у воласці Абольцы жылі сяляне з прозвішчамі Трычыс, Свірклiс, Дабуціс, Рымейшыс, Мантэйка, Нарэйка і інш. Некаторым з гэтых імёнаў Е. Ахманскі знаходзіў адпаведнікі на тэрыторыі этнічнай Літвы [307, s. 57–65]. Аднак, як слушна заўважае беларускі археолаг Э. Зайкоўскі, на фоне адсутнасці прамых гістарычных сведчанняў, якія гаварылі б пра мову і этнічную прыналежнасць гэтай часткі сярэдневяковага насельніцтва Беларусі, адно толькі даных антрапаніміі яшчэ недастаткова для таго, каб згаданых жыхароў Абольцаў лічыць літоўцамі [59, с. 83].

Наконт паходжання і этнічнай прыналежнасці балцкага насельніцтва каля Абольцаў у гістарыяграфіі пакуль не існуе адзінага пункта гледжання. Адны даследчыкі трактуюць гэты сярэдневяковы анклаў іншаэтнічнага насельніцтва як рэшту неасіміляваных аўтахтонных «старажытных балтаў» (Е. Ахманскі, Э. Зайкоўскі) [59, с. 61–71]. Іншыя, як Г. Лаўмянскі, А. Непакупны, схіляюцца да думкі, што літоўцаў сюды перасялілі вялікія князі літоўскія, хутчэй за ўсё Альгерд [110, с. 165]. Пакуль таксама недастаткова крыніц для таго, каб прасачыць этапы славянізацыі (абеларушвання), а тым больш ахарактарызаваць працэс асіміляцыі насельніцтва, якое пакінула балцкі след у тапаніміі і антрапаніміі іншых аддаленых ад Літвы раёнаў Беларусі (найперш каля Гайны–Радашковіч–Івянца, Докшыц, Клецка–Капыля–Цімкавіч і інш.).

Не менш складаны і працяглы характар ў Сярэдневякоўі мелі этнічныя працэсы ў Панямонні. Кантакты славян з балтамі ў Панямонні пачаліся ў адзін час з балта-славянскімі этнічнымі кантактамі ў Падзвінні і Падняпроўі, але іх актывізацыя прыпадае на канец X – пачатак XI ст. Гэта было звязана, галоўным чынам, з заснаваннем першых гарадоў у Панямонні: Навагрудка, Гродна, Ваўкавыска, Слоніма, якія былі населены пераважна славянамі [124, с. 7; 125, с. 10]. Тут усходнеславянскія этнічныя супольнасці дрыгавічоў, крывічоў, валынян суседнічалі з усходнебалцкімі (літвой), заходнебалцкімі (яцвягамі, прусамі) і заходнеславянскімі (мазурамі) этнічнымі супольнасцямі [61, с. 5]. Менавіта ўсходнеславянскія парубежныя гарады, на думку Г. Лаўмянскага, вызначалі палітычную мяжу старажытнарускай дзяржавы ў XII–XIII стст.: Ваўкавыск, Слонім, Навагрудак, Мінск, Заслаўе, Лагойск. Гэта, па яго словах, была старажытная палітычная мяжа Кіеўскай Русі, а да гэтага – этнічная мяжа дрыгавічоў і крывічоў, усталяваная ў перыяд завяршэння славянскай каланізацыі [277, s. 53–59]. Аднак дрыгавічы і крывічы вельмі рана перайшлі гэты рубеж [241, s. 3–6]. Усходнюю мяжу пражывання кампактнага балцкага насельніцтва Г. Лаў-

мянскі праводзіў па лініі Мерач–Эйшышкі–Ашмяны–воз. Свір – вярхоўе Дзісны [277, s. 53–59].

Важную ролю ў фарміраванні насельніцтва як Беларускага, так і Літоўскага Панямоння адыгралі яцвягі. Пра рассяленне яцвягаў у Беларускім Панямонні да VIII–IX стст. (да прыходу ў гэты рэгіён славян) сведчаць такія гідронімы яцвяжскага паходжання, як Голда, Грыўда, Ясельда, Неўда, Сёгда, Саколда, Зэльвянка (Зэльва) і інш. [213, p. 512, 601–602]. У XI–XIII стст. яцвягі яшчэ займалі значную частку Панямоння – заходняй мяжой іх пражывання былі Вялікія Мазурскія азёры, возера Вішціціс (Вішцінец) і нізоўе Нёмана, паўднёвай – рэкі Буг і Нараў, усходняй – сярэдняе цячэнне Нёмана, паўночнай – тэрыторыя на поўдзень ад Нёмана паміж Коўнам і Юрбаркам [359, p. 6–10]. Літоўскі археолаг А. Таўтавічус, падсумаваўшы археалагічныя і гістарычныя звесткі па дадзенай праблематыцы, вылучае чатыры асноўныя «племянныя» групы яцвягаў. На яго думку, на паўночным ускрайку тэрыторыі іх пражывання жылі дайновы, яны былі паўднёвымі суседзямі літвы. На паўночным захадзе пражывалі судовы. Тэрыторыя іх пражывання межавала з надровамі і, напэўна, з борцямі – іншымі заходнебалцкімі («прускімі») этнічнымі супольнасцямі. У паўднёва-заходняй частцы – на р. Элка (Лыха) – пражывалі паляксены – суседзі галіндаў і мазураў. А ў цэнтральнай і ўсходняй частках пражывалі яцвягі [359, p. 5].

Калі ж яцвяжскія этнічныя супольнасці паляксенаў і судоваў уліліся ў склад пераважна польскага этнасу, непасрэдна яцвягі – у склад беларускага этнасу, то большая частка дайноваў, якія жылі паміж Нёманам і Віліяй, прынялі актыўны ўдзел у фарміраванні літоўскага этнасу (галоўным чынам літоўцаў-дзукаў) [34, с. 2–5; 259, p. 35]. Пра гэта, напрыклад, сведчаць назвы населеных пунктаў тыпу *Ятвезь*, распаўсюджаныя ў асноўным у паўднёва-заходняй Беларусі: у Баранавіцкім (*Ятвезь*), Ваўкавыскім (*Ятвезь*), Гродзенскім (*Яцвезь*), Дзятлаўскім (*Яцвезь*), Івацэвіцкім (*Ятвезь*), Карэліцкім (*Ятвезь*) і Свіслацкім (*Ятвезь*, *Ятвеск*) раёнах. Тапонімы ж

тыпу *Дайнава* пашыраны найперш на тэрыторыі ўсходняй Літвы і сумежнай з ёй тэрыторыі Беларусі: у Астравецкім (*Дайноўка, Дайнова*), Ашмянскім (*Дайноўка*), Валожынскім (*Дайноўка, Дайнава*), Воранаўскім (*Дайноўка, Дайнава*), Іўеўскім (*Дайнава*) і Лідскім (*Дайнава*) раёнах [133; 136; 138]. Удзел яцвягаў у фарміраванні насельніцтва Панямоння пацвярджаецца і археалагічным матэрыялам, галоўным чынам каменнымі курганамі, якія прынята звязваць з культурай заходніх балтаў, у прыватнасці, яцвягаў [76, с. 5; 102, с. 47; 154, с. 60–61]. Гэтыя археалагічныя помнікі, апрача іншых раёнаў Панямоння, шырока распаўсюджаны на тэрыторыі сучаснага Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці – месцы кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва.

Актыўны ўдзел у фарміраванні літоўскага насельніцтва Воранаўскага раёна прынялі таксама іншыя заходнебалцкія этнічныя супольнасці – борці і скаловы. Борці былі выхадцамі з прускай зямлі (вобласці) Барты (Бартніі, Бартовіі), якая ўпершыню згадваецца ў зямельных кнігах дацкага караля Вальдэмара II, напісаных у 1249–1269 гг. («terra Pruzie... Barcia») [330, p. 191]. Каля 1326 г. храніст П. Дусбург вылучаў дзве Барты – вялікую і малую, т. зв. Лысую (*Plica* – ад прус. *plikō «лысая») («Bartha et Plica Bartha, que nunc major et minor Bartha dicitur in que Barthi vel Barthenses habitant») [213, p. 118; 330, p. 191]. Геаграфічна Барта з'яўлялася самай цэнтральнай зямлёй Прусіі. У 1238–1240 гг. яна, разам зВарміяй і Натангіяй, была ўпершыню захоплена Тэўтонскім Ордэнам. Пасля чарады паўстанняў супраць захопнікаў (у 1240–1249 гг. і 1260–1274 гг.) жыхары Барты былі канчаткова падначалены крыжакам ў 1273 г. [330, p. 191–192]. З гэтага часу пачынаецца актыўная міграцыя борцяў на землі ВКЛ, пра што яскрава сведчаць тапонімы тыпу *Борці*, *Барцякі*, *Barčiai*, распаўсюджаныя на тэрыторыях сучасных Беларусі і Літвы [114, с. 124–125]. Такія тапонімы вядомы ў Ашмянскім (*Бартэлі*, *Борці*), Браслаўскім (*Барталішкі*), Валожынскім (*Бартэніха*), Воранаўскім (*Борці*), Глыбоцкім (*Бартылёўка*) і Шчучынскім (*Барцякі*, *Борці*) раёнах [134; 136; 138].

Пры гэтым неабходна адрозніваць назвы населеных пунктаў, утвораныя ад этноніма «борці», ад падобных тапонімаў тыпу *Барташы*, *Барташуны*, якія з'яўляюцца паводле паходжання антрапанімічнымі (паходзяць ад старажытнага імя «Барташ»), а таксама ад геаграфічных назваў тыпу *Бортнікі*, *Бартнікі*, звязаных у мінулым з заняткам мясцовага насельніцтва – бортніцтвам [30, с. 398–400].

Акрамя борцяў, удзел у вымушанай міграцыі на тэрыторыю ВКЛ прымалі і іншыя жыхары прускіх земляў. Аднымі з такіх мігрантаў былі скаловы, якія з'яўляліся насельнікамі самай паўночнай вобласці старажытнапрускіх земляў у нізоўях Нёмана – Скаловіі. Упершыню Скаловія («terra Skalewo») згадваецца ў 1231–1240 гг. у складзеным Liber Census Daniae. П. Дусбург, пералічваючы ў 1326 г. прускія землі з захаду на ўсход, згадвае Скаловію восьмай («Octava Scalowia, in qua Scalowite») [330, p. 91]. Канчатковы захоп Скаловіі крыжакамі адбыўся каля 1281 г., пасля чаго ўзмацнілася міграцыя скаловаў на тэрыторыю ВКЛ.

У гэты ж час у ВКЛ, у тым ліку і на тэрыторыю сучаснай Беларусі, перасялілася і пэўная колькасць уласна прускага насельніцтва, якое выступала пад этнонімам «прусы». Менавіта такога, экстэрытарыяльнага паходжання можа быць шэраг назваў паселішчаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы тыпу *Прусы*, *Prūseliai*. Польскі гісторык Е. Ахманскі большасць назваў гэтых паселішчаў выводзіць ад палонных прусаў XIV – пачатку XV ст. [114, с. 122–123]. Тапонім *Прусы* сустракаецца ў Капыльскім, Пастаўскім, Салігорскім і Старадарожскім раёнах [134; 138]. Аднак неабходна адрозніваць тапонімы тыпу *Прусы*, утвораныя ад этнічнай назвы заходнебалцкай этнічнай супольнасці – «прусы», ад такіх тапонімаў, якія былі ўтвораны ў выніку абазначэння паселішчаў пазнейшых нямецкамоўных перасяленцаў паводле іх першапачатковага месца жыхарства, г. зн. Прусіі (з 1525 г. – Прускага герцагства, з 1701 г. – Прускага каралеўства). Гэты семантычны зрух, калі пад «прусамі» пачалі разумець нямецкамоўных жыхароў прускай дзяржавы, фіксуецца на тэрыторыі

Гродзеншчыны ўжо ў сярэдзіне XVI ст. [110, с. 94]. Ускосныя адносіны да этноніма «прусы» маюць таксама геаграфічныя назвы, утвораныя ад антрапонімаў з коранем *Прус-*. Апошнія звязаны галоўным чынам з геральдычным родам «Прус» [110, с. 95–101]. Сярод такіх тапонімаў (звязаных з пазнейшымі перасяленнямі нямецкамоўных жыхароў або ўтвораных ад прозвішча з коранем *Прус-*) могуць аказацца найперш назвы такіх населеных пунктаў, як *Прусаўкі* ў Гарадоцкім, *Пруска* ў Жабінкаўскім і Камянецкім, *Прусін* у Касцюковіцкім, *Прусаўшчына* ў Крупскім, *Прусіна* ў Крычаўскім, *Прусавічы* ў Лагойскім, *Прусікі* ў Салігорскім, *Прусоўшчына* ў Слонімскім, *Прусінічы* ў Талачынскім, *Прусінава* ў Уздзенскім раёнах [133; 134; 136–138].

Пра перасяленне прусаў у XIII ст. на тэрыторыю сучаснай Беларусі сведчыць таксама шэраг сярэдневяковых дакументаў. Так, Іпацьеўскі летапіс 1276 г. паведамляе: «*Придоша Проуси ко Троиденеви и(з) своеи земли неволею перед Немци. Он же прия е к собе и посади часть и(х) в Городне а часть их во Вслониме*» [130, с. 874]. Гэта пацвярджаюць і ордэнскія крыніцы – «Хроніка зямлі Прускай» П. Дусбурга і «Рыфмаваная хроніка» М. Ярошына [36, с. 151–152]. Другі раз прусы разам з *барцеве* (борцямі) згадваюцца ў Іпацьеўскім летапісе 1278 г. як абаронцы Гродна ад татараў і войска галіцка-валынскіх князёў: «*Проуси же и Бортеве выехавше из города оудариша на не ночь и избиша е все а дроугие изоимаша и в город ведоша а Тюима на санех везоша бе бо ранен велми <...> столп бо бе камен высок стоя перед вороты города и бяхоу в нем заперлися Проузи <...> Мьстислав же и Володимер и Юрьи и докончаша с горожаны тако города им не имати <...> тако возвратишася во свояси*» [130, с. 877–878]. Гэтыя пісьмовыя звесткі сведчаць пра тое, што пры літоўскім князі Трайдзені ў Гродна і Слонім (верагодна, не столькі ў гарады, як у іх ваколіцы) перасялілася прускае і барцянскае насельніцтва, якое ратавалася ад крыжацкай агрэсіі на тэрыторыі ВКЛ. Польскі гісторык Е. Ахманскі лічыў, што заходнебалцкае насельніцтва мэтанакіравана

рассялялася літоўскімі князямі на паўднёвых рубяжах літоўскай этнічнай тэрыторыі, на сярэднім Нёмане, на прасторах ад р. Нявежы аж да Мінска. Колькасць гэтага насельніцтва ў ВКЛ, паводле падлікаў Е. Ахманскага, магла складаць у XIII–XIV стст. да 5 тыс. чалавек [115, с. 113]. На думку Э. Вольтэра, пад агульнай назвай заходнебалцкага насельніцтва «прусы» ў дадзеным выпадку трэба разумець жыхароў прускай зямлі Пагезаніі, якія на той час найбольш цярпелі ад крыжацкай агрэсіі і разам з борцямі ў 1276 г. паднялі супраць іх паўстанне [36, с. 151–160]. Гэта думка не супярэчыць і сучасным даследаванням мовазнаўцаў, якія лічаць, што першапачаткова этнонім «прусы» абазначаў менавіта жыхароў паўднёва-заходніх прускіх земляў – пазнейшых Памезаніі і Пагезаніі [110, с. 93].

Акрамя перасяленняў прусаў і борцяў пры князі Трайдзені, Е. Ахманскі вылучаў асобную хвалю міграцыі заходнебалцкага насельніцтва на тэрыторыю ВКЛ у другой палове XIV ст. [114, с. 127–128]. Так, у ордэнскім дакуменце канца XIV ст. «Паведамленне аб літоўскіх шляхах» («Die Littauischen Wegeberichte») (дадатак да рыфмаванай хронікі Віганда з Марбурга) пры апісанні дарогі з Пераломy на Эйшышкі пад № 90 («Weg von Przelom nach Eiczіczki») згадваецца Скалева (Skalewo), размешчанае паміж Забалаццю і Радунню, і растлумачваецца, што там жывуць скаловы (людзі з прускай зямлі Скаловіі), узятыя ў палон пры Рагніце: «Ад *Забалаці* да *Скалева* дзве мілі, там жывуць тыя, якіх паланілі каля *Рагніта*, ад аднаго сяла да іншага ёсць добрая дарога; але ёсць там і рака, якая завецца *Пелясой*, яна нешырокая; яны сцвярджаюць, што праз яе маецца мост; ад *Скалева* дзве малыя мілі да *Радуні*, паміж імі добрая зямля, відавочна занятая (заселеная)» [333, s. 703]. Ва ўсходнеславянскай форме тая ж Скалева (*Сколва*) вядомая з прывілея Ягайлы ад 1387 г., які вызначаў уладанні князя Скіргайлы: «*а около Троков тая места па Ваку, по старый рубеж а по Вельи оуниз так ж по старыи рубеж, толко опроч Жеимов, и Кулвы. А на су сторону по Сколву горо(д) Радыня и оуся тая волость со всякою*

*службою, оуси лю(ди) и оусякий доход*» [185, с. 51; 244, s. 45]. З гэтага можна зрабіць выснову, што Скалева-Сколва была агульнай назвай прускай калоніі (г. зн. цэлай групы вёсак) пад Радунню, узнікненне якой звязана, хутчэй за ўсё, з паходам Кейстута і Альгерда ў Скаловію ў 1365 г. [114, с. 128–129; 161, с. 186–187].

Відавочна таксама, што літоўскія князі маглі сяліць мігрантаў з прускіх зямель і ў іншых месцах сваіх уладанняў. Пры гэтым у некаторых мясцовасцях маглі скласціся цэлыя групы паселішчаў блізкага па мове і культуры заходнебалцкага насельніцтва, якое ў пісьмовых крыніцах выступала пад рознымі этнонімамі («прусы», «скаловы», «борці» і г. д.). Адным з такіх месцаў кампактанага пражывання заходніх балтаў былі ваколіцы Радуні і Пелясы. Пісьмовыя крыніцы XV–XVI стст. сведчаць таксама аб паселішчах борцяў і ў іншых месцах ВКЛ – каля Меднік, Гялвон, Гожы і Перамома і інш. [114, с. 124–125; 308, s. 85–89; 357, s. 111–113].

З пачатку XVII ст. да сярэдзіны XIX ст. паселішчы з барцянскім і скаловенскім насельніцтвам у наваколлі Радуні ўтваралі самастойную гаспадарча-адміністрацыйную адзінку – Барцянскае староства, у склад якога ўваходзілі чатыры войтаўствы: Пеляскае (вёскі Пеляса, Помедзь, Подзітва, Повалака, Пілюнцы, Лялюшы), Скольвенскае (вёскі Віганцы, Смільгіні, Дубінцы, Скірэйкі, Ворлі, Палашкі, Куркі, Каргаўды), Гародзенскае (вёскі Складанцы, Вайкунцы, Паройсце) і аддаленае ад Радуні Панёманскае (вёскі Турыйск, Яселевічы, Талочкі, Піпароні, Мінотавічы) [358, s. 163–165]. Назва староства – «Барцянскае» – указвае на сувязь яго насельніцтва з прускай зямлёй – Бартай, а аднаго з яго войтаўстваў («Скольвенскае») – з прускай зямлёй Скаловіяй. На думку Т. М. Суднік, назву адной з вёсак Воранаўшчыны – Помедзь (літ. Pamedė) – таксама можна лічыць адэтнанімічнай; яна даволі дакладна адпавядае назве іншай прускай зямлі – Памезаніі (літ. Pamedė) [161, с. 188–189]. Большасць вёсак некалі існаваўшага Барцянскага староства (выключэнне складаюць толькі вёскі Панёманскага войтаўства) лакалізуецца на тэры-

торыі сучаснага Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. У сваю чаргу літоўскае насельніцтва гэтага раёна кампактна расселена пераважна ў вёсках былых Пеляскага і Скольвенскага войтаўстваў (вёскі Пеляса, Подзітва, Пілюнцы, Ляллюшы, Дубінцы і інш.) [30, с. 399–400].

Наконт заходнебалцкага («прускага») паходжання літоўскага насельніцтва вёсак сучаснага Воранаўскага раёна пісаў яшчэ вядомы гісторык XIX ст. Т. Нарбут: «Летапісец рускі называе Бартове. Былі гэта выхадцы з прускай правінцыі Бартніі. Іх нашчадкі дагэтуль жывуць у Лідскім павеце. Староства, размешчанае на правым беразе Пелясы і якое налічвала калісьці да 300 дымоў, называецца Борці ад назвы сваіх першых пасяленцаў, якія, зразумела, паходзілі з Бартніі; бо няма ніводнай вёскі або фальварку, якія б мелі такую назву. Яны даўней мелі такі прывілей, па якім ніякіх павіннасцей нідзе не адбывалі, акрамя платы чыншу, у цэлым невялікага. У часы Жыгімонтаў служылі ў літоўскай артылерыі, таму літоўцы-артылерысты называлі сябе борцямі» [305, s. 271].

З вышэйсказанага ўзнікае шэраг пытанняў: «Які лёс напаткаў барцянскіх і скаловенскіх перасяленцаў на новых землях? Якім чынам праходзіла іх літуанізацыя і беларусізацыя?». Гэтыя пытанні патрабуюць асобнага вывучэння. Відаць, апынуўшыся па суседству з блізкімі ім па культуры і мове літоўцамі (літоўскае насельніцтва складала большасць на гэтых тэрыторыях да XIX ст., што было адзначана Я. Карскім [74, с. 6]) і менш блізкімі беларусамі, борці і скаловы з цягам часу ўключыліся ў працэс натуральнай акультурацыі і асіміляцыі. Пакуль недастаткова крыніц і даследаванняў, каб у поўнай меры ўявіць паслядоўнасць гэтага працэсу. Тым не менш, можна сцвярджаць, што ва ўмовах экстэрытарыяльнасці барцянскае і скаловенскае насельніцтва некаторы час працягвала захоўваць свае этнічныя прыкметы (у тым ліку і саманазву), адрозныя ад этнічных прыкмет суседняга літоўскага і беларускага насельніцтва. Гэтаму спрыяў і асаблівы сацыяльны статус, які яны набылі на

новых землях. Асноўным абавязкам барцянскага насельніцтва ў ВКЛ было будаўніцтва і рамантаванне мастоў, што давала ім і пэўныя сацыяльныя прывілеі (у прыватнасці, вызваленне ад цягла).

Ужо ў XVI ст. борці складалі адмысловую сацыяльную катэгорыю «гаспадарскіх падданых», якая да таго ж вылучалася па этнічнай прыкмеце. Так, напрыклад, артыкул «Аб борцях» Уставы на валокі 1557 г. акрэслівае павіннасці борцяў наступным чынам: «*Иж первей бортеве разность в роботах от инщых подданых нашых мели и тепер их зоставуем, абы водле шацунку кгрунтов за вси повинности, цыншы, овсы и сена пенязми с волок до скарба нашого платити, яко и осадники; а коли им на войну ити кажем, мають мети тот рок вольный ото всих платов; а мосты им повинные заробляти и теж за росказаньем и листом нашым мосты им неповинные мостити мають, а за то им фолькгу в цыншох нашых делати кажем подле воли нашое*» [18, с. 215]. Асаблівае сацыяльнае становішча барцянскага насельніцтва істотным чынам было зменена толькі ў пачатку XIX ст., калі шырокую вядомасць набылі пратэсты мясцовых сялян – жыхароў Барцянскага староства Лідскага павета, супраць увядзення новых кабальных падатковых абавязкаў – пераводу на паншчыну, якой яны дагэтуль ніколі не адбывалі, з частковым захаваннем чыншу. Апошні падатак яны павінны былі здаваць у казну не асігнацыямі, як у іншых рэгіёнах Расійскай імперыі, а срэбнай манетай [188, с. 509–510].

Нашчадкаў прусаў Т. Нарбут бачыў і ў літоўскім насельніцтве Слонімскага павета, пра што пісаў: «Руская хроніка не ўваходзіць у падрабязнасці, з якой правінцыі Прусіі паходзіць насельніцтва [прускіх] паселішчаў у раёне Гродна і Слоніма, аднак развіццё наступных падзей і мясцовыя назіранні служаць нам паказальнікам. [Пруская] насельніцтва Слонімшчыны да гэтага часу захоўвае свой дыялект, які з'яўляецца скаловенскім (*szalawskim* – ад польск. *Szalawa* «Скаловія». – *Ю. В.*), альбо сучасным літоўска-прускім. У Слонімскім павеце ёсць яшчэ вёскі: Засецце, Нарцэвічы, Погіры

і Сіньчыцы, размешчаныя паміж Лідай і Слонімам, ад першай 8, ад другога 6 міляў, у Дзятлаўскім графстве. Тамтэйшыя жыхары, з спрадвечных часоў паселеныя сярод русінаў, захоўваюць сваю мову, звычаі, строй, фізіягнамічныя рысы і г. д.» [305, s. 266–267].

У сярэдзіне XIX ст. наконт прускага паходжання літоўскага насельніцтва вёсак Засецце, Погіры і Нарцэвічы паблізу Дзятлава выказаўся цэлы шэраг даследчыкаў. Так, беларускі этнограф П. Баброўскі пісаў: «Трэба лічыць, што ў населеных месцах каля Дзятлава жывуць не літоўцы, а ім супляменныя прусы. Гэтыя жыхары з'яўляюцца нашчадкамі тых прусаў, якія сышлі ад прыгнёту крыжакоў пад апеку вялікага князя літоўскага Трайдзеня, які ў 1275 г. у Гродне і каля Слоніма пасяліў наздраўцаў (ідаць, *надроваў* – жыхароў прускай зямлі Надровіі. – *Ю. В.*) і потым у 1276 г. пайганчыцаў (перакручанае з польскай *пагезанцаў*, жыхароў прускай зямлі Пагезаніі. – *Ю. В.*), роўна як і ў Гродне, дзе яшчэ перад тым пасяліліся іх супляменнікі барты. Сведчанняў існавання нашчадкаў гэтых прускіх плямён мы не адшукалі ні ў Гродне, ні ў Слоніме; трэба меркаваць, што яны зліліся з тубыльцамі» [21, с. 652]. На гэтую заўвагу П. Баброўскага пазней адрэагаваў Э. Вольтэр: «Аднак пытанне, з якімі тубыльцамі, бо літоўцы, якія жывуць у Гродзенскім павеце, роўна як і ў Слонімскім, да гэтага часу гавораць па-літоўску з відавочнымі прыкметамі свайго прускага паходжання» [36, с. 154].

Іншага погляду наконт «прускага» паходжання шэрагу літоўскіх вёсак Беларусі прытрымліваліся некаторыя даследчыкі XX ст. Так, польскі мовазнавец Я. Атрэмбскі пра сярэдневяковае перасяленне прусаў на тэрыторыю сучаснай Беларусі піша наступнае: «Пад прусамі трэба разумець яцвягаў. У тыя аддаленыя часы летапісцы не заўсёды выразна адрознівалі яцвягаў ад прусаў. Па свайму месцажыхарству яцвягі былі нібыта працягам прусаў, па мове ж яны ўяўлялі сабой нібы разнавіднасць прускіх родзічаў. Апошнімі нашчадкамі яцвягаў, якія былі пасаджаны, паводле дакладнага паведамлення летапісу, у Слоніме, з'яўляюцца менавіта літоўцы,

што да гэтага часу жывуць у наваколлі Дзятлава, а менавіта ў вёсцы Засецце» [113, с. 7–8]. Аднак Я. Атрэмбскі пры гэтым ніяк не каментуе звесткі пра перасяленне борцяў – прадстаўнікоў іншай заходнебалцкай этнічнай супольнасці, блізкай як геаграфічна, так і па мове і культуры да прускай этнічнай супольнасці. Сучасны ж літоўскі мовазнавец А. Відугірыс, які ў апошні час абагульніў увесь навуковы матэрыял, прысвечаны літоўскім гаворкам Дзятлаўшчыны, ставіць пад пытанне як «прускае», так і «яцвяжскае» паходжанне насельніцтва гэтых вёсак: «Да сённяшняга часу існуе думка, што літоўцы Дзятлаўшчыны з'яўляюцца рэшткамі прусаў або судоваў (яцвягаў), што перасяліліся ў гэтыя мясціны ў XIII ст. Аднак ніхто не спрабаваў паказаць, як, трапіўшы ў славянскае атачэнне, заходнія балты змаглі літуанізавацца» [370, p. 11]. Між тым, літоўскае насельніцтва згаданых вёсак Дзятлаўшчыны канчаткова асімілявалася на працягу другой паловы XX ст., перадаўшы пры гэтым многія элементы сваёй культуры і мовы навакольнаму беларускаму насельніцтву.

Пра «прускае» паходжанне літоўскага насельніцтва Воранаўскага раёна найбольш пераканаўча сведчыць трывалае захоўванне мясцовымі літоўцамі назваў заходнебалцкіх этнічных супольнасцей борцяў і скаловаў, якія праіснавалі на тэрыторыі прускай дзяржавы толькі да XVI–XVII стст. [180, с. 264]. Мікраэтнонімы *барцякі* і *скалікі* да цяперашняга часу даволі шырока ўжываюцца насельніцтвам гэтага раёна для абазначэння жыхароў мясцовых літоўскіх вёсак [181, с. 7–8]. Паводле Т. М. Суднік, сучасныя мікраэтнанімічныя формы *барцяк*, *barcekas*, *barcis*, верагодна, адлюстроўваюць сляды старажытных прускіх этнонімаў [161, с. 132], адрозных ад літоўскай формы *barčias* (параўн. першую згадку прускай зямлі Барты ў зямельных кнігах дацкага караля Вальдэмара II, напісаных у 1249–1269 гг. – «terra Pruzie... Barcia» [330, p. 191]).

Нягледзячы на тое, што мікраэтнонім «барцякі» ўжываецца ў асноўным у якасці экзамікраэтноніма, варта адзначыць даволі выразнае ўсведамленне літоўцамі-барцякамі сваіх асаблівасцей і адрозных рысаў, носьбітамі якіх яны з'яўляюцца

і якія адрозніваюць іх ад іншых прадстаўнікоў літоўскага этнасу. Гэта ўсведамленне ў прыватнасці і выўляецца ў саманазве «барцякі»: «як мы, барцякі, па-просту па-літоўску гаворым няшчыра, па-жмудзку, як во Вільнюс там, ці за Вільнюсам, так яны, гуды, няшчырыя палякі, яны ніхто ня ўмеюць па-польску» (запісна аўтарам у в. Пеляса ад Ш. Т. К., 1935 г. н.) [8, арк. 6]. Аднак неабходна падкрэсліць, што ўсведамленне агульналітоўскай прыналежнасці ўсё ж значна мацней за лакальнае: «Ну, барцякі! Літоўская была ваабшчэ вёска [Пеляса]» (запісана аўтарам у в. Пеляса ад Ш. Т. К., 1935 г. н.) [8, арк. 5].

Пра заходнебалцкае паходжанне мясцовых літоўцаў сведчыць таксама шэраг фанетычных архаізмаў у іх мове, многія з якіх суадносяцца з рысамі заходнебалцкага тыпу. У першую чаргу гэта так званае саканне – вымаўленне s, z замест š, ž, якое ў рэліктавым выглядзе было зафіксавана Т. М. Суднік [162, с. 184].

Удзел балцкіх этнічных супольнасцей прусаў, борцяў, скаловаў, надроваў, яцвягаў (а таксама куршаў, земгалаў, селаў і латыголаў) не быў вызначальным у этнагенезе літоўцаў. Яны былі толькі дадатковым кампанентам літоўскага этнасу. Асноўнымі ж і непасрэднымі продкамі агульнага літоўскага этнасу былі дзве вялікія балцкія этнічныя супольнасці: паўночна-заходняя – жамойтаў і паўднёва-ўсходняя – літвы (аўкштайтаў), якая потым і дала назву новаму этнасу [177, с. 211–212]. Прадстаўнікі апошняй з гэтых этнічных супольнасцей насялялі ў мінулым значную частку паўночнага захаду сучаснай Беларусі і, акрамя важнага ўдзелу, які яны прынялі ў этнічнай гісторыі мясцовага беларускага насельніцтва, адыгралі галоўную ролю ў фарміраванні літоўскага насельніцтва Астравецкага, Браслаўскага і іншых памежных з Літвой раёнаў Беларусі.

Літва ў Сярэдневякоўі ўяўляла сабой адзін са шматлікіх балцкіх народаў побач з яцвягамі, прусамі, борцямі, надровамі, скаловамі, жамойтамі, куршамі, земгаламі, селамі і латыголамі. Шэраг даследчыкаў (Г. Лаўмянскі, В. Сядоў, Р. Валкайтэ-

Кулікаўскене, А. Таўтавічус і інш.) звязваюць літву XI–XII стст. з археалагічнай культурай усходнелітоўскіх курганоў [60, с. 372]. Вобласць курганоў усходнелітоўскага тыпу абмяжоўваецца на поўначы і захадзе р. Швянтояй (Святой) і сярэднім цячэннем р. Нёман, на поўдні – р. Мяркіс (Мерачанкай), а на ўсходзе ахоплівае тэрыторыю да Паставаў, воз. Свір, Смаргоні. Пісьмовыя крыніцы пачатку другога тысячагоддзя называюць жыхароў гэтай тэрыторыі літвой («Літвой») [163, с. 142].

Больш дакладная лакалізацыя першапачатковага этноніма «Літва» (XI–XII стст.), які перайшоў пасля ў назву буйной усходнееўрапейскай дзяржавы, вырашалася ў гістарыяграфіі па-рознаму. Польскі гісторык Г. Лаўмянскі акрэсліў «першапачатковую» Літву ў міжрэччы рэк Нёман, Вілія і Мерачанка (тэрыторыя ад Гродна і Ліды да Вільні і Коўна) [278, s. 67–68, 108–112, 118–121]. Літоўскі гісторык Э. Гудавічус, трохі падкарэкціраваўшы версію Г. Лаўмянскага, суадносіць «Літву» XI–XIII стст. з паўднёвай часткай сучаснай Аўкштайціі [49, с. 219–227]. Цэлы шэраг сучасных гісторыкаў схільныя акрэсліваць «Літву» гэтага перыяду на паўночным захадзе сучаснай Беларусі і паўднёвым усходзе сучаснай Літвы [82, с. 104–128; 205, р. 14]. У часы фарміравання ВКЛ і наступны перыяд арэал распаўсюджвання назвы «Літва» пачаў змяняцца [14, с. 69]. Пасля ўтварэння ВКЛ гэтай назвай коратка пачалі абазначаць і гэту дзяржаву. Таму этнічнае значэнне паняцця «Літва» дапоўнілася яшчэ і дзяржаўна-палітычным. У хуткім часе назва «літвіны» ў якасці палітоніма пачала абазначаць амаль усё насельніцтва ВКЛ, а з цягам часу яна набыла там і сваё новае этнічнае значэнне (апрача ўласна літоўскага этнасу, пачала яшчэ абазначаць і частку беларускага этнасу).

Этнічная мяжа паміж Літвой і заходнімі землямі Русі ў XII–XIII стст. праходзіла прыкладна па лініі Браслаў–Паставы–Смаргонь–Ліда (далей Русь межавала з яцвягамі). Як сцвярджае беларускі гісторык і мовазнаўца У. Свяжынскі, з абодвух бакоў гэту мяжу перасякалі плыні міграцыі: асобныя групы літвы сяліліся на ўсходнеславянскіх землях, а ўсходнеславянскія – на літоўскіх [147, с. 17]. З гэтай прычыны не-

каторыя землі заходняй Беларусі ў тыя часы не былі выразна этнічна дыферэнцыянаванымі і аб'ядноўвалі як славянскае, так і балцкае насельніцтва. Кіравалі гэтымі землямі князі рознага этнічнага паходжання [14, с. 49].

Пазней, пасля ўтварэння ВКЛ, узмацнілася ўсходнеславянская каланізацыя літоўскай этнічнай тэрыторыі. Пра гэта перш за ўсё сведчаць тапонімы тыпу *Русінай*, *Русяй*, *Гудзяляй* (ад літ. *gudas* «русін; беларус»), якія шырока распаўсюджаны ў рэгіёне. Па падліках Е. Ахманскага, назвы населеных пунктаў гэтага тыпу складаюць найбуйнейшую групу ад усіх адэтнанімічных назваў, распаўсюджаных на тэрыторыі сучаснай Літвы (134 з 304!) [114, с. 115], а прозвішчы, утвораныя ад асновы *Гуд-*, ужо ў пачатку XVII ст. складалі значную частку сярод прозвішчаў жыхароў г. Вільні [380, р. 146]. Гэта сведчыць пра актыўную міграцыю ўсходнеславянскага насельніцтва ў паўночна-заходнім кірунку ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай, бо этнонім *русіны*, *руськія* быў пашыраны сярод продкаў беларусаў менавіта ў гэты перыяд.

Пра калісьці літоўскае мінулае часткі паўночнага захаду сучаснай Беларусі найбольш яскрава сведчаць даныя тапанімікі. Тыпова літоўскімі (усходнебалцкімі) лічацца тапонімы з суфіксамі *-ішкі*, *-яны*, *-аны*, *-ані*, *-оні*, *-ойні*, *-шты*, *-ненты*, *-яты*, *-аты*, *-еты*, *-юны*, *-уны*, *-елі*, *-ялі*, *-юнцы*, *-унцы*, *-уты*, *-уці*, *-алі*, *-олі*, *-іні*, *-іны* і інш. Назвы населеных пунктаў з такімі суфіксамі шырока распаўсюджаны ў паўночна-заходніх раёнах Беларусі. Беларускі этнограф М. Я. Грынблат толькі ў памежных з Літвой раёнах Беларусі налічыў не менш за 200 такіх («найбольш бясспрэчных») тапонімаў [48, с. 526]. Відавочна, што першапачатковымі жыхарамі большасці гэтых паселішчаў былі балты. У гэтай жа зоне сканцэнтравана асноўная колькасць усталяваных балтызмаў беларускай мовы [11, с. 5]. Калі параўноўваць тапанімічныя матэрыялы з археалагічнымі, то можна адзначыць, што значная частка гэтага арэалу супадае з арэалам распаўсюджання культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Беларускі археолаг Э. Зайкоўскі лічыць, што тыя балцкія паселішчы, якія ў Сярэднявякоўі

існавалі на ўсход ад арэалу культуры ўсходнелітоўскіх курганоў і распаўсюджання тапонімаў на *-ішкі*, звязваць з продкамі літоўскага этнасу няма падстаў [59, с. 63].

Таксама вядома, што ў паўднёвай і цэнтральнай частках Беларусі хрысціянства (яго ўсходні варыянт) стала афіцыйнай рэлігіяй у X–XII стст.: ужо ў канцы X ст. у Полацку была заснавана першая на тэрыторыі Беларусі епархія, у мясцовых гарадах з XI ст. будуюцца храмы, у першай палове XII ст. з'явіліся мясцовыя прапаведнікі-асветнікі і інш. На паўночным жа захадзе сённяшняй Беларусі, які быў населены ў тыя часы пераважна прадстаўнікамі балцкіх этнічных супольнасцей і не ўваходзіў у склад усходнеславянскіх дзяржаўных утварэнняў, на працягу яшчэ некалькіх стагоддзяў пануючай рэлігіяй заставалася язычніцтва. Толькі пасля Крэўскай уніі пачало пашырацца каталіцтва. У 1387 г. адбылося афіцыйнае хрышчэнне Літвы, якое, паводле падання, праходзіла ў рацэ Швянтоі («Святой»). Яшчэ пазней – у 1413 г. – была ахрышчана Жамойць, апошняя язычніцкая зямля ў Еўропе. Зыходзячы з гэтых фактаў М. Я. Грынблат выказаў меркаванне, што каталіцкае насельніцтва паўночна-заходняй Беларусі, якое ў мінулым «не ведала ўніі» і адпаведна не пераходзіла праз уніяцтва з праваслаўя ў каталіцызм, варта лічыць «абеларушанымі літоўцамі» [48, с. 527–528]. Іншымі словамі, насельніцтва паўночна-заходніх раёнаў сучаснай Беларусі, якое афіцыйна перайшло з язычніцтва ў хрысціянства (каталіцтва) толькі пасля 1387 г., было «літвой» або часткай блізкага да яе народа. Гэта «старакаталіцкае» насельніцтва сканцэнтравана галоўным чынам у сучасных Астравецкім, Ашмянскім, Іўеўскім, Воранаўскім, Шчучынскім і Гродзенскім раёнах Гродзенскай вобласці, Браслаўскім і Пастаўскім раёнах Віцебскай вобласці, г. зн. у памежных з Літвой раёнах Беларусі. Відавочна, што рассяленне «старакаталіцкага» насельніцтва ў многім супадае з рассяленнем літвы і некаторых іншых балтаў у паўночна-заходняй Беларусі ў XIV–XVI стст. У гэтым арэале ў цяперашні час расселены прадстаўнікі асноўных лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі.

На тэрыторыю сучаснай Беларусі адбываліся перасяленні і невялікіх груп жамойтаў – заходніх суседзяў літвы (аўкштайтаў). Пра гэта сведчыць шэраг назваў паселішчаў: *Жомайдзь* у Валожынскім і Клецкім раёнах, *Жамойск* у Докшыцкім, *Жамайдзякі* ў Івацэвіцкім, а таксама распаўсюджаныя паблізу кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва Беларусі – *Жомайдзі* ў Лідскім, *Жамайтукі* ў Іўеўскім, *Жамойцішкі* ў Воранаўскім раёнах Гродзенскай вобласці [133; 134; 136; 138]. У гэтым жа арэале адзначана найбольшая канцэнтрацыя прозвішчаў кшталту *Жамойда, Жамойдзін, Жамойцін, Жамойдзік, Жэмайда, Жэмайцін* [54, с. 181, 355]. Відаць, перасяленні жамойтаў на тэрыторыю сучаснай Беларусі, як і міграцыя прускага насельніцтва, адбываліся ў XIII–XIV стст. у выніку памежных войнаў ВКЛ з Тэўтонскім Ордэнам. Частка гэтага насельніцтва асядала паблізу роднасных ім па мове і культуры літвы, прусаў, борцяў і скаловаў, робячы тым самым свой унёсак у фарміраванне асобных лакальных частак літоўскай этнічнай групы Беларусі.

Акрамя літоўскага насельніцтва, якое гістарычна сфарміравалася ў паўночна-заходняй Беларусі, пад уплывам розных прычын на тэрыторыю нашай краіны адбываліся і непасрэдныя перасяленні літоўцаў [28, с. 17]. Пра гэта яскрава сведчаць шматлікія тапонімы, накшталт *Літоўцы, Літоўск, Літоўшчына*, многія з якіх з-за геаграфіі іх распаўсюджання складана аднесці да ліку перыферыйных (напрыклад, *Літоўшчына* ў Глыбоцкім, *Літоўцы* ў Докшыцкім, *Літоўчыкі* ў Міёрскім, *Літоўск* у Шклоўскім раёнах і інш.) [133–138]. Варта таксама адзначыць, што гістарычны, этнічны, дзяржаўна-палітычны і геаграфічны змест паняцця «Літва» ў розныя перыяды гісторыі быў розны. Безумоўна, што частка гэтых назваў звязана не толькі з такімі экзаэтнонімамі балцкага народа, як «літоўцы», «літвіны», але і з адпаведнай назвай («літвіны») некаторых груп усходнеславянскага насельніцтва.

Да XIX ст. перасяленні літоўцаў на тэрыторыю сучаснай Беларусі не былі масавымі і адначасовымі, інакш яны б знайшлі сваё адлюстраванне ў пісьмовых крыніцах. Яны

адбываліся пераважна ў заходнія і цэнтральныя раёны Беларусі. Польскі гісторык Е. Ахманскі сцвярджае, што міграцыі літоўцаў ва ўсходнія і цэнтральныя раёны Беларусі да XIX ст. адбываліся вельмі рэдка і ў асноўным яны мелі месца ў памежным рэгіёне [307, s. 16]. Толькі ў сярэдзіне XIX ст. знаходзім рэдкія згадкі пра прысутнасць літоўскіх перасяленцаў ва ўсходніх і цэнтральных раёнах Беларусі. Беларускі этнограф і фальклярыст Р. Падбярэскі ў першай палове XIX ст. адзначае: «Невялікая жменя літоўцаў, невядома якім лёсам, зайшла і пасялілася ў павеце Лепельскім. Яны паходзяць на беларусцаў у вопратцы і наогул у знешнім выглядзе, з невялікімі розніцамі, якія захоўваюцца ў старых. Адрознівае іх лепшы побыт, следства большай урадлівасці зямлі ў павеце. Іншым адрозненнем служыць вострая, казліная барада, і твар бледны, сухі, меланхалічны» [127, с. 74].

Даволі масавае перасяленне літоўцаў у Беларусь, галоўным чынам ва ўсходнія яе раёны, адбылося ў канцы XIX ст. Сярод галоўных прычын міграцыі літоўцаў ва ўсходнія раёны Беларусі В. Скардзіс называў аграрную перанаселенасць Ковенскай і Віленскай губерняў, а таксама фактычную абмежаванасць у праве набыцця там зямлі для сялян-каталікоў [158, с. 14]. У гэты ж перыяд многія памешчыкі ўсходніх раёнаў Беларусі пачалі прадаваць або здаваць у арэнду свае стратныя фальваркі. Літоўскія сяляне (пераважна серадзнякі) з дапамогай Віленскага і Маскоўскага пазямельных банкаў набывалі гэтыя зямельныя надзелы. Многія літоўцы, аб'яднаныя ў спецыяльныя таварыствы, імкнуліся набыць як мага большую плошчу зямлі, не зважаючы нават на яе ўрадлівасць і аддаленасць ад населеных пунктаў [131, с. 13–14; 195, p. 17; 218, p. 22; 221, p. 21; 247, p. 28; 248, p. 25; 250, p. 29; 254, p. 32; 303, p. 27; 325, p. 17; 343, p.19; 346, p. 32; 347, p. 45–46]. Такая зямля каштавала тут значна танней, чым у Віленскай і Ковенскай губернях [106, арк. 57].

Першыя перасяленцы з Літвы з'явіліся ва ўсходняй Беларусі ўжо ў 70-х гг. XIX ст. Аднак большасць літоўскіх паселішчаў узнікла ў наступным дзесяцігоддзі. Так, напрыклад,

беларускі этнограф К. Т. Анікіевіч адзначаў пра з'яўленне літоўцаў у Сенненскім павеце наступнае: «Літоўцы і жмудзіны з Ковенскай губерні ў колькасці 45 сем'яў пасяліліся ў Сенненскім павеце пасля 1880-х гг., паблізу Сянна, пераважна ў Пустынскай воласці ў вёсках Івоні, Ладзікава і Тупічына» [10, с. 104]. Не былі выключэннем і пазнейшыя перасяленні, у тым ліку да тых літоўцаў, якія ўжо перасяліліся раней. Аднак некаторыя з літоўскіх перасяленцаў не былі ў стане пераадолець эканамічныя цяжкасці на новых землях, таму без усялякіх сродкаў вярталіся назад у Літву або з'язджалі на пошукі новых заробкаў у іншыя месцы Расійскай імперыі [158, с. 13–31].

Па сваім паходжанні пераважная большасць літоўскіх перасяленцаў былі выхадцамі з Вількамірскага, Нова-Аляксандраўскага, Панявежскага паветаў Ковенскай губерні, Віленскага, Трокскага і Свянцянскага паветаў Віленскай губерні, а таксама Ілукстскага павета Курляндскай губерні. Напэўна, пра літоўскіх перасяленцаў з апошняга павета пісаў Р. Падбярэскі, бо ў Курляндскай губерні прыгоннае права было адменена ўжо ў 1817 г. Сяліліся літоўцы ў асноўным у Аршанскім, Быхаўскім, Горацкім, Магілёўскім, Сенненскім, Чавускім і Чэрыкаўскім паветах Магілёўскай губерні, Віцебскім, Лепельскім і Полацкім паветах Віцебскай губерні, Барысаўскім павеце Мінскай губерні [158, с. 13–31; 197, p. 26–28; 221, p. 21; 272, p. 34–42; 287, p. 80–83].

Асноўным тыпам пасяленняў літоўскіх перасяленцаў з'яўлялася вёска. В. Скардзіс у 20–30-х гг. ХХ ст. налічваў у БССР больш за 50 вёсак, населеных у асноўным літоўцамі [158, с. 11]. Хутарская сістэма да правядзення сталыпінскай аграрнай рэформы (1906–1911 гг.) у іх асяродку распаўсюджана не была. Даволі шырока практыкавалася арэнда зямлі. Нязначная колькасць літоўцаў пасяліліся ў гарадах. Апрача вёсак, населеных выключна літоўцамі, сустракаліся вёскі са змешаным у этнічным плане насельніцтвам. Акрамя таго, у многіх населеных пунктах беларускіх губерняў можна было знайсці аднаасобныя літоўскія двары [156, с. 11; 158, с. 11].

Дакладная колькасць літоўцаў, якія перасяліліся на беларускія землі ў канцы XIX ст., невядома. Згодна з інфармацыяй літоўскай газеты «Вартаўнік Айчыны», якая выходзіла ў Тыльзіце (Усходняя Прусія), толькі ў Магілёўскай губерні ў канцы XIX ст. налічвалася не менш за 10 тыс. літоўцаў [197, р. 26]. Ксёндз В. Грашыс, плябан касцёла ў мястэчку Бабінавічы, у пачатку XX ст. налічваў у Магілёўскай губерні каля 3800 літоўцаў [260, р. 532]. Больш дакладныя звесткі даюць матэрыялы Першага ўсеагульнага перапісу Расійскай імперыі, галоўным ідэнтыфікатарам этнічнай прыналежнасці падчас якога была родная мова рэспандэнтаў. Паводле гэтых матэрыялаў, у Магілёўскай губерні было 3619 літоўцаў, у Віцебскай губерні – 2302, у Мінскай – 701. Усяго ў гэтых трох губернях літоўцаў налічвалася 6622 чалавекі (у тым ліку 174 жмудзіны), з іх гарадскога літоўскага насельніцтва было 632 чалавекі (9,5%), астатнія з'яўляліся сялянамі. Найбольшая колькасць літоўцаў пражывалі ў Магілёўскай губерні – у Аршанскім (1450 чал.), Сенненскім (797 чал.), Чавускім (459 чал.), Чэрыкаўскім (276 чал.) і Магілёўскім (252 чал.) паветах, у Віцебскай губерні – у Полацкім (308 чал.), Віцебскім (284 чал.) і Лепельскім (258 чал.) паветах, у Барысаўскім павеце Мінскай губерні (423 чал.). Літоўскае ж карэннае насельніцтва канцэнтравалася галоўным чынам у Віленскім (76 154 чал.), Свянцянскім (58 134 чал.), Лідскім (17 828 чал.) і Дзісенскім (703 чал.) паветах Віленскай губерні, Нова-Аляксандраўскім (103 734 чал.) павеце Ковенскай губерні, Гродзенскім (2912 чал.) і Слонімскім (305 чал.) паветах Гродзенскай губерні [117, с. 56–59; 118, с. 76–79; 119, с. 102–105; 120, с. 80–83; 121, с. 80–83; 122, с. 96–99].

У перыяд Першай сусветнай вайны колькасць літоўскага насельніцтва ва ўсходніх губернях Паўночна-Заходняга краю значна павялічылася за кошт бежанцаў, якія эвакуіраваліся ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі на руска-германскім фронце. У першую чаргу значна вырасла колькасць літоўцаў у гарадах. Так, калі ў 1897 г. у Мінску налічвалася толькі 59 літоўцаў, у Магілёве – 39, у Гомелі – 15, дык у 1917 г. іх было 1123, 456

і 416 адпаведна [46, с. 16–19; 123, с. 14–15]. Паводле звестак газеты «Гоман», толькі ў Магілёўскай губерні ў 1916 г. знаходзілася каля 4 тыс. літоўскіх уцекачоў з Сувалкскай, Ковенскай і Віленскай губерняў [276, с. 4]. Аднак іх магло быць і больш, бо ў 1917 г. афіцыйна толькі ў адным Бабруйску налічвалася 2467 літоўскіх бежанцаў [104, арк. 1–3]. Частка літоўскіх бежанцаў асядала і ў літоўскіх вёсках ва ўсходняй Беларусі [178, с. 480; 179, с. 39; 364, р. 48].

Паводле матэрыялаў перапісу насельніцтва 1926 г., у БССР колькасць літоўцаў складала 6864 чалавекі (0,14% ад усяго насельніцтва рэспублікі). Яны займалі восьмае месца сярод іншых этнічных груп. Гарадское літоўскае насельніцтва складала 2118 чалавек (31%), сельскае – 4746 (69%). Літоўцы пражывалі ва ўсіх 12 акругах БССР. Першае месца па колькасці сельскага літоўскага насельніцтва займалі Раснянскі раён Калінінскай акругі (536 чал.), Дубровенскі раён Аршанскай акругі (459 чал.), Лёзненскі раён Віцебскай акругі (388 чал.) і Лупалаўскі раён Магілёўскай акругі (319 чал.). У іх літоўцы пражывалі цэлымі вёскамі, сярод якіх трапляліся даволі вялікія: Сафійск Магілёўскай акругі, Малькаўка Калінінскай акругі. Найбольшая колькасць літоўцаў у гарадах пражывала ў Мінску (547 чал.), Гомелі (370 чал.), Віцебску (368 чал.), Магілёве (131 чал.), Жлобіне (102 чал.) і Полацку (90 чал.) [38, с. 9–49, 214–223].

Згодна з перапісам насельніцтва Польшчы 1921 г., колькасць літоўцаў у паветах Віленскай зямлі (Віленска-Трокскі, Свянцянскі і Ашмянскі паветы ў гэты час у яе склад не ўваходзілі) была наступнай: у Браслаўскім павеце – 5361 чалавек, Дзісенскім павеце – 1040, Дунілавіцкім і Вілейскім паветах – 183 і 14 чалавек адпаведна. Найбольш літоўцаў пражывалі ў Браслаўскай (429 чал.), Відзаўскай (197 чал.), Дукштанскай (2031 чал.), Опсаўскай (1135 чал.) і Рымшанскай (1505 чал.) гмінах Браслаўскага павета, Богінскай (488 чал.), Германавіцкай (131 чал.) і Празарокскай (164 чал.) гмінах Дзісенскага павета. У Навагрудскім ваяводстве іх колькасць складала 9801 чалавек, з якіх 9654 прыходзілася на Лідскі павет [340; 341].

Паводле даных польскага перапісу 1931 г., колькасць асоб, якія пазначылі сваёй роднай мову літоўскую, была найбольшай у Ашмянскім (1562 чал.), Браслаўскім (3490 чал.), Віленска-Трокскім (без уліку г. Вільні) (16 934 чал.), Дзісенскім (161 чал.), Свянцянскім (42 993 чал.) паветах Віленскага ваяводства, а таксама Лідскім (2391 чал.) павеце Навагрудскага ваяводства і Гродзенскім (6246 чал.) павеце Беластоцкага ваяводства [222–224].

## 2.2. Асаблівасці этнічнага развіцця беларускіх літоўцаў

Ужо ў часы ВКЛ паміж беларусамі і літоўцамі адбывалася актыўная міжэтнічная інтэграцыя ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і культурнай сферах, абумоўленая сумесным пражываннем у адзінай дзяржаве. Адным з вынікаў гэтай інтэграцыі стала натуральная асіміляцыя літоўцаў беларусамі, што прывяло да скарачэння этнічнай тэрыторыі літоўцаў як з паўднёвага ўсходу, так і з паўднёвага захаду. Галоўнымі фактарамі, якія абумовілі гэтыя працэсы, была агульная дэмаграфічная перавага ўсходнеславянскага насельніцтва ў ВКЛ, а таксама першапачаткова больш высокая ступень яго сацыяльнай і культурнай арганізацыі, звязаная, найперш, з наяўнасцю сталых традыцый дзяржаўнасці, спавядання хрысціянскай рэлігіі, уласнай пісьменнасці, існавання гарадоў і інш. [29, с. 517; 177, с. 212].

Яскравым сведчаннем міжэтнічнай інтэграцыі літоўцаў і беларусаў у часы ВКЛ з'яўляюцца запазычанні ў мовах абодвух народаў, у першую чаргу лексічныя. Так, праз мову ўсходнеславянскага насельніцтва або непасрэдна з яе літоўцамі была запазычана значная колькасць слоў, у першую чаргу гандлёвая і рэлігійная лексіка, напрыклад, літоўскае *turgus* «торг, гандлёвае месца, кірмаш», *muitas* «мыта», *bažnyčia* «бажніца, касцёл, царква», *koplyčia* «капліца», *Kalėdos* «Каляды», *Velykos* «Вялікдзень, Вялiканне», *karalius* «кароль», *bajoras* «баярын» і інш. У гаворках усходніх літоўцаў у часы ВКЛ з'явіліся такія словы, як *abrūsas* «абрус», *adyna* «гадзі-

на», *karčeta* «карчма», *ūlyčia* «вуліца», *seklyčia* «святліца», *ūtaryti* «размаўляць, гутарыць» і інш. [177, с. 212]. Гаворачы аб культурнай інтэграцыі, неабходна мець на ўвазе імкненне кожнага народа да запазычвання найбольш развітых і дасканалых элементаў культуры суседзяў. Відавочна, што многія з гэтых слоў былі запазычаны продкамі літоўцаў разам з тымі з'явамі, якія гэтыя словы абазначалі. Такімі словамі найбольш багаты лексікон беларускіх літоўцаў, што сведчыць пра іх даўнія кантакты з мясцовымі беларусамі. Так, акрамя вышэйпералічаных слоў, у іх лексіконе сустракаюцца словы *gaspadorius* «гаспадар», *storasta* «стараста», *parabkas* «парабак», *ribokas* «рыбак», *susiedas* «сусед», *kermošius* «кірмаш», *sūdas* «суд», *viorstas* «вярста», *večeria* «вячэра», *krupnykas* «крупнік», *arielka* «гарэлка», *baranka* «абаранак», *kiliškas* «кілішак», *tolierka* «талерка», *zbonas* «збан», *viedras* «вядро», *dzieška* «дзяжа», *kašikas* «кошык», *palyčia* «паліца», *kačerga* «качарга», *padlogos* «падлога», *podmurkas* «падмурак», *čeravykai* «чаравікі», *čebatai* «чобаты», *spadnyčia* «спадніца», *strielba* «стрэльба», *tarba* «торба» і інш. [384; 385].

На думку літоўскага моваэнаўцы А. Саліса, такая характэрная для літоўцаў-дзукаў фанетычная з'ява, як дзуканне (літ. *dzūkavimas*), з'явілася не раней за XIV–XV стст. і была звязана з беларускім моўным уплывам [331, р. 31–32]. У сваю чаргу продкі літоўцаў таксама аказалі ўплыў на развіццё мовы і культуры беларусаў. У беларускую мову з усходнебалцкіх моў трапілі такія словы, як *дзякла*, *дзёгаць*, *дойлід*, *гультай*, *наўда*, назвы пабудоў і іх частак – *клуня*, *пуня*, *аруд*, *прымен*, *свіран*, *даржына*, земляробчая і жывёлагадоўчая лексіка – *дзірван*, *сціртa*, *тарпа*, *куль*, *жагіны*, *рэзгіны*, *парсюк*, *пошар*, назвы прадуктаў харчавання і напояў – *кумпяк*, *кіндзюк*, *шкілондзя*, *мілта*, *раўгеня*, *баланда*, *сула*, тэрміны рыбалоўства – *буч*, *венцер*, *гегні*, *оксці*, назвы некаторых народных звычаяў – *бонда*, *сквярстуны* і інш. [86; 243, р. 272–290]. Верагодна, многія з гэтых з'яў (разам з назвамі, якія іх абазначаюць) былі пераняты ад мясцовага балцкага насельніцтва, у тым ліку і літоўскага.

Важным фактарам моўнай асіміляцыі літоўцаў у часы ВКЛ была наяўнасць у суседняга ўсходнеславянскага насельніцтва ўласнай пісьменнасці. Старабеларуская («руская») мова была афіцыйнай дзяржаўнай мовай ВКЛ і з'яўлялася сродкам міжэтнічных кантактаў як паміж літоўцамі і беларусамі, так і паміж прадстаўнікамі іншых этнічных супольнасцей [14, с. 64–66; 148, с. 110–136]. Умовы ж для развіцця літоўскай мовы ў ВКЛ былі куды горшыя, яна доўгі час заставалася беспісьмовай [381, p. 107–156]. Таму літоўскае насельніцтва, якое жыло побач, было вымушана засвойваць беларускую мову, каб далучыцца да прэстыжнай мовы дзяржавы. У выніку народныя гаворкі беларускай мовы, генетычная сувязь якіх з дзяржаўнай старабеларускай мовай бясспрэчная (найбольш грунтоўна гэта пытанне разгледжана У. Свяжынскім [144; 148]), пачалі адыгрываць у зоне міжэтнічных кантактаў беларусаў і літоўцаў функцыю рэгіянальнай мовы [28, с. 17; 43, с. 27; 233, p. 23; 234, p. 45; 235, p. 45].

Цэнтрам распаўсюджвання старабеларускай мовы і культуры сярод літоўцаў усходняй Літвы і заходняй Беларусі ў XV–XVI стст. была сталіца ВКЛ – Вільня, дзе пражывала шматлікае ўсходнеславянскае насельніцтва. Працэс абеларушвання, прадыктаваны практычным значэннем засваення беларускай мовы, адбываўся і паблізу іншых гаспадарча-культурных цэнтраў і галоўных камунікатыўных шляхоў памежнага рэгіёна (напрыклад, каля Ашмян, уздоўж берагоў р. Віліі). Гэта прыводзіла да паступовай асіміляцыі (у першую чаргу моўнай) літоўцаў і іншых балтаў паўночна-заходняй Беларусі ў перыяд XV–XVI стст. (а таксама ў наступныя стагоддзі). У выніку значная частка літоўскага насельніцтва беларуска-літоўскага этнічнага памежжа была ўключана ў склад беларускага этнасу. Гэты працэс меў аднабаковы характар і працягваўся ва ўсе наступныя стагоддзі [29; 177; 183].

Уплыў на этнічнае развіццё беларускіх літоўцаў мелі і міграцыйныя працэсы. Яшчэ польскі гісторык XIX ст. М. Балінскі выказаў думку аб асобных хвалях міграцыі ўсходнеславянскага насельніцтва з усходніх абласцей ВКЛ у Віленскі павет.

Прычыны гэтай міграцыі ён бачыў у вынішчальных войнах і эпідэміях XVII – пачатку XVIII ст. [202, s. 102]. Аднак, насуперак сцверджанням шэрагу літоўскіх даследчыкаў, якія ўслед за М. Балінскім звязваюць пачатак актыўнага перасялення ўсходнеславянскага насельніцтва ў Віленскі павет са спусташэннем Віленскага краю ў гады вайны са Швецыяй і наступнымі эпідэміямі падчас кіравання Яна Казіміра [233, p. 23; 235, p. 45], трэба меркаваць, што гэтыя міграцыі адбываліся не столькі з мэтай засялення пустуючых земляў, колькі ў выніку вайсковых падзей на ўсходзе дзяржавы ў часы войнаў ВКЛ з расійскай дзяржавай, якія і прыводзілі да механічнага руху насельніцтва ў заходнім кірунку.

Палітычнае аб'яднанне ВКЛ з Польшчай у другой палове XVI ст. (пачынаючы з Люблінскай уніі 1569 г.) замарудзіла развіццё як беларускай, так і літоўскай культуры і актывізавала пранікненне на землі ВКЛ польскай культуры. Уваходжанне зямель Беларусі і Літвы ў стракатую паводле этнічнага складу Рэч Паспалітую садзейнічала павелічэнню арэалу інтэграцыйных працэсаў, пашырэнню міжэтнічных сувязей і ўзмацненню працэсаў узаемаўплыву розных народаў [14, с. 59]. З сярэдзіны XVII ст. працэс паланізацыі ў ВКЛ ахапіў вышэйшыя і сярэднія слаі карэннага насельніцтва. З канца XVII ст. польская мова пачала ўжывацца ў якасці афіцыйнай мовы ВКЛ і выконваць ролю культурнага дыялекту і мовы міжэтнічных зносін у межах Рэчы Паспалітай [40, с. 5]. Ад гэтага часу этнічнае развіццё беларускіх літоўцаў набывае іншы характар.

Польская даследчыца Г. Турская, якая прысвяціла праблеме паланізацыі літоўскага насельніцтва Віленскага краю асобную манаграфію, вылучала ў свой час дзве асноўныя праблемы, звязаныя з экспансіяй польскай культуры на землі Беларусі і Літвы ў другой палове XVII–XIX ст.: паланізацыя прывілеяваных саслоўяў і паланізацыя сялянства. Першая хваля гэтага працэсу (другая палова XVII–XVIII ст.) была звязана галоўным чынам з актыўным далучэннем да польскай мовы і культуры менавіта вышэйшых і сярэдніх слаёў грамадства: магнатэрыі, каталіцкага духавенства, заможных

гараджан, з цягам часу і дробнай шляхты, простых месцічаў і кліру. Гэта хваля паланізацыі амаль не закранула залежных сялян, якія па-ранейшаму карысталіся ў побыце літоўскай моваў [172, с. 106].

Паланізацыя ж літоўскага сялянства Віленскага краю, паводле Г. Турскай, распачалася толькі ў XIX ст. Засваенне літоўскімі сялянамі польскай мовы ў гэты час было выклікана шэрагам прычын: зменамі ў сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцці грамадства, у выніку чаго стала ўзрастаць неабходнасць кантактаў літоўцаў з суседнім славянскім насельніцтвам, а таксама створаны стэрэатып, звязаны з быццам бы культурнай перавагай польскай мовы як мовы вышэйшых слаёў грамадства, рэлігіі, літаратуры, якая мела ў сувязі з гэтым больш прывабную сілу і прэстыжны характар [40, с. 13; 172, с. 131–140, 164–166]. Паланізацыя літоўскага насельніцтва Беларусі ішла разам з яго актыўным абеларушваннем. Так, напрыклад, вядомы даследчык культуры і мовы літоўцаў Э. Вольтэр у другой палове XIX ст. адзначаў, што ў многіх мясцінах адбываецца запазычанне літоўцамі розных абрадаў і звычаяў ад «рускіх» (г. зн. ад беларусаў), а ўсё часцей – ад палякаў-шляхты [33, с. 125].

У гэтым кантэксце цяжка пагадзіцца з шэрагам літоўскіх і польскіх даследчыкаў, якія сцвярджаюць, што працэс абеларушвання літоўцаў гэтага рэгіёна – беларуска-літоўскага этнічнага памежжа – у XIX ст. адбываўся дзякуючы мэтанакіраванай палітыцы русіфікацыі краю з боку царскіх улад і працэсу апалячвання праз каталіцкі касцёл і шчыльную сетку шляхецкіх маёнткаў. Паводле меркаванняў гэтых даследчыкаў, літоўскім сялянам было лягчэй засвоіць мову мясцовых беларусаў і праз яе мець зносіны з царскай адміністрацыяй і польскімі панамі, чым вывучыць рускую або польскую мову адразу ж [172, с. 115; 374, s. 37; 382, p. 100–101; 383, p. 135]. Беларуская мова, маўляў, выступала своеасаблівым кампрамісным варыянтам у выбары гутарковай мовы. Аднак відавочна, што ад палітыкі русіфікацыі і апалячвання беларусы пацярпелі не менш за літоўцаў, а ўлічваючы блізкасць

і роднасць славянскіх моў, можна меркаваць, што беларусы былі яшчэ больш схільныя да моўнай асіміляцыі. Не прымаючы да ўвагі матэрыялы з іншых рэгіёнаў Беларусі, Г. Турская таксама робіць катэгарычны вывад пра «большую схільнасць да паланізацыі літоўцаў, у параўнанні з беларусамі» [172, с. 130]. Аднак яшчэ ў сярэдзіне XIX ст., абапіраючыся на назіранні аднаго землеўладальніка (без сумневу, прыхільніка польскай культуры і мовы) вядомы этнограф У. Сыракомля адзначаў наступныя асаблівасці беларусаў і літоўцаў наваколля вёскі Айраны (Віленскі павет): «літовец (літвін)... чужой мове вучыцца з цяжкасцю і ніколі добра на ёй не гаворыць, беларус (русін) жа, наадварот, мае лінгвістычныя здольнасці, а ў месцах, пра якія мы вядзем гаворку (ваколіцы вёскі Айраны. – *Ю. В.*), паслугуецца цалкам чыстай польскай мовай. Літовец не любіць вывучаць не сваю мову, а калі на ёй усё ж такі размаўляе, то робіць гэта неахвотна» [350, s. 94]. Дарэчы, У. Сыракомля лічыў гэту вёску размешчанай на мяжы «плямён і мовы русінаў і літвы» [350, s. 89–90].

Галоўным фактарам, які абумовіў далейшае абеларушванне літоўскага насельніцтва Беларусі, варта, на нашу думку, лічыць натуральную асіміляцыю праз змешаныя шлюбы ў каталіцкім сялянскім асяроддзі, звязаную з колькаснай перавагай суседняга беларускамоўнага насельніцтва. Гэта меркаванне дастаткова яскрава пацвярджаюць матэрыялы палявых этнаграфічных даследаванняў канца XX – пачатку XXI ст., якія з пэўнай доляй умоўнасці можна праектаваць і на больш раннія перыяды, асабліва ўлічваючы адсутнасць у тагачасным традыцыйным грамадстве такіх з'яў, як масмедыя, нацыянальныя дзяржавы і школы, магчымасць выбару набажэнстваў на роднай мове і г. д. Так, характэрным адказам рэспандэнтаў на пытанне пра прычыны змяншэння колькасці літоўскага насельніцтва на працягу XX ст. у раёнах іх кампактнага пражывання з'яўляюцца тлумачэнні кшталту: «*Таму што згудзелі* (абеларусіліся. – *Ю. В.*): *жонкаў усялякіх пабралі з гудзёў* (беларусаў. – *Ю. В.*) *і ўсе згудзелі*»; «*Патаму тэраз усе, бальшанства, началі па-просту гаварыць, бо*

*пажаніліся: то адтуль жанкоў, як мы кажам, з гудоў пабралі, ну ўжо і па-просту ўсё гавораць»* (запісана аўтарам у в. Пеляса Воранаўскага раёна ад Ш. Т. К., 1935 г. н.) [8, арк. 5]; «*Ну, як цяперака, перамешана ўсё. Ну, там і даўней было перамешана. Ну, во так ажаніўся, узяў літоўку – усё! Мяшанец! Перамешаны...*» (запісана аўтарам у в. Мацкі Астравецкага раёна ад Г. К. П., 1938 г. н.) [8, арк. 67]. Красамоўны выраз ад літоўкі Відзаўскага раёна ў сярэдзіне XX ст. занатавала А. Вішняўскайтэ: «*Каб не было баб на свеце, была б Літва ў нас даўжэй*». Пры гэтым даследчыца адзначае: «Так гавораць пра сваю вёску, у якой вельмі шмат нявестак прыведзена з беларускіх вёсак. У такіх сем'ях муж – літовец, жонка – беларуска, і дзеці ўжо не разумеюць па-літоўску» [1, арк. 61]. Пачатак гэтага этнатрансфармацыйнага працэсу можна аднесці да перыяду ВКЛ, калі для яго развіцця не існавала ніякіх фактычных перашкод.

Актыўным грамадскім інстытутам апалячвання літоўскага насельніцтва заходняй Беларусі ў XIX ст. з'яўляўся каталіцкі касцёл. Каталіцкія ксяндзы з'яўляліся найбольш актыўнай сілай, якая процідзейнічала ўвядзенню ў касцёл не толькі рускай мовы, але таксама і нацыянальных моў літоўцаў і беларусаў. Многія ксяндзы не дапускалі да споведзі тых сялян, якія не ўмелі гаварыць па-польску і жадалі спавядацца на роднай мове [40, с. 13]. Гэта асаблівая роля касцёла ў развіцці этнічных працэсаў выявілася ў частай адпаведнасці паміж межамі парафіі і межамі ўжывання мясцовых моў [172, с. 163]. Так, кампактнае рассяленне літоўцаў Воранаўскага раёна супадае з межамі Пеляскай парафіі, якая ўключала ў сябе сем літоўскіх вёсак і толькі адну «польскую» [8, арк. 5, 9].

Прыблізна з сярэдзіны XIX ст., асабліва пасля паўстання 1863–1864 гг., адзначаецца таксама ўзмацненне тэндэнцыі распаўсюджвання ў рэгіёне рускай мовы і праваслаўя. Адмоўнае значэнне для развіцця літоўскай мовы і культуры мела забарона ў 1864 г. друку лацінскімі літарамі і выкладання на роднай мове ў школах. У некаторых месцах кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва была ўведзена забарона

на грамадскае ўжыванне літоўскай мовы. Характэрны эпізод у Слонімскім павеце апісвае Э. Вольтэр: «Як выявілася з роспытаў К. К. Бугі, які наведаў гэтую мясцовасць у 1905 годзе, па-літоўску размаўляць забаранялася да 1885 года і толькі пасля майго першага наведвання гэтых мясцін, па распараджэнні нябожчыка генерал-губернатара І. С. Каханава, надпіс «По-литовски говорить запрещается» ў Дзятлаўскім валасным праўленні быў зняты» [36, с. 156].

У часы забароны адукацыі на літоўскай мове найбольш распаўсюджанай формай адукацыі сярод беларускіх літоўцаў стала патаемнае навучанне ў хатняга настаўніка («дарэктара»), якім звычайна з'яўляўся самы адукаваны чалавек у вёсцы. Такое навучанне было несістэматычным і давала толькі пачатковую адукацыю невысокай якасці. Галоўнай мэтай хатніх настаўнікаў было навучыць дзяцей-літоўцаў чытаць літаратуру рэлігійнага характару на літоўскай мове. Асноўнымі сродкамі навучання былі малітоўнікі і кнігі рэлігійнага зместу, якія дастаўляліся сюды ксяндзамі і кніганошамі з Усходняй Прусіі. Так, у газеце «Вартаўнік Айчыны» паведамляецца пра кніганошу, які двойчы наведаў літоўцаў у ваколіцах Бабінавіч, Сянна, Талачына, Чачэрска, Радамлі і Шклова [287, p. 81]. Аднак з прычыны значнай адлегласці да гэтых пасяленняў сувязь з імі была даволі дрэннай.

Ва ўмовах сумеснага пражывання беларусаў і літоўцаў у межах агульных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак мовай міжэтнічных зносін сярод мясцовага сялянства паранейшаму заставалася беларуская (параўн. сведчанні сучаснікаў: «...у міжплемянных зносінах беларусаў і літоўцаў, у пунктах іх змяшэння, звычайна ўжываецца мова беларуская, а не літоўская» [81, с. 23]). З распаўсюджаннем у літоўскіх вёсках літоўска-беларускага двухмоўя, а нярэдка і літоўска-беларуска-польскага трохмоўя, у шэрагу месцаў кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва ішоў працэс моўнай змены як наступны этап моўнага развіцця. Першапачаткова іншую, няродную мову літоўцы ўжывалі пры кантактах з уладамі, у грамадскіх месцах, касцёле, школах. Па-літоўску,

як і раней, размаўлялі ў сем'ях. З цягам часу працэс моўнай асіміляцыі ішоў далей: старыя ў хатах яшчэ размаўлялі па-літоўску, іх дзеці – на дзвюх (ці нават на трох) мовах, а ўжо ўнукі – на беларускай або польскай мове, хаця яшчэ ўмелі размаўляць або маглі разумець літоўскую мову. Наступнае пакаленне літоўскай мовы часцей за ўсё ўжо не разумела [43, с. 29].

У канцы XIX ст. яскрава апісвае падобную сітуацыю літоўскі этнограф М. Давайніс-Сільвестрайціс (Жальціс): «У Лідскім павеце Віленскай губерні ў Радунскай парафіі налічваецца 8600 прыхаджан-каталікоў, у асноўным гэта сяляне, якія размаўляюць па-літоўску, а таксама «шляхта», якая размаўляе па-польску і называе сябе «літвіны». Шляхта жыве па ваколіцах і, хоць і размаўляе па-польску, усё ж называе сябе літвінамі і вельмі злуецца, калі іх называюць палякамі. Яны маюць адчуванне адрознасці ад палякаў, аднак няма адчування літоўскай нацыянальнасці альбо яны тую літоўскасць звязваюць зусім з іншым, што мы мяркуем. Яны, нібы ірландцы, прыдумалі сабе адрозненне ад англічанаў і размаўляюць не па-ірландску, а па-англійску. Некаторыя літоўцы тут абеларусіліся (агудзелі) і гавораць «па-просту», г. зн. па-беларуску. Літоўцы размаўляюць на сваёй роднай мове толькі ў хаце, па-за хатай – альбо па-польску, альбо «па-просту». Калі хто і размаўляе з ксяндзом па-літоўску, усё роўна будзе пачынаць размову па-польску «Нех бэндзе похвалёны...» [377, р. 439].

Факт актыўнай моўнай асіміляцыі літоўцаў у гэтым жа рэгіёне ў канцы XIX ст. адзначаў і Э. Вольтэр: «У многіх мясцінах, як, напрыклад, у межах старажытнага Дайноўскага княства, у Лідскім і Ашмянскім паветах, у 60-х гадах, па звестках цяперашніх старэйшых жыхароў, размаўлялі яшчэ па-літоўску, а цяпер гэтая мова вымірае, яна забываецца і ёй пагарджаюць, а разам з літоўскай мовай гэтых мясцовасцей адыходзяць у нябыт старадаўнія легенды, казанні і павер'і аджыўшых свой век пакаленняў, якія для навукі ўяўляюць шмат цікавага і цудоўнага» [33, с. 125].

У XIX ст. з'явіліся першыя спробы статыстычнага даследавання Паўночна-Заходняга краю, якія даюць пэўнае ўяўленне пра колькасны стан і рассяленне літоўскага насельніцтва. Паводле падлікаў П. І. Кепена, у першай палове XIX ст. літоўцы найбольш кампактна пражывалі ў Віленскай і Ковенскай губернях, дзе іх колькасць складала 138 320 і 568 794 чалавек адпаведна. Значна менш іх было ў Гродзенскай і Курляндскай губернях – 2338 і 7434 чалавек адпаведна. Колькасць літоўскага насельніцтва ў Лідскім павеце складала 11 441 чалавек, у Свянцянскім – 32 865, у Трокскім – 49 257, у Віленскім – 43 760. Нязначная іх колькасць мелася таксама ў Гродзенскім (1513 чал.) і Слонімскім (825 чал.) паветах [44, с. 103; 77, с. 152–153].

Як ужо неаднаразова адзначалася ў гістарыяграфіі, статыстычныя даследаванні XIX ст., у якіх здзяйснялася спроба вызначыць этнічны склад насельніцтва, мелі цэлы шэраг недахопаў [70, с. 84–85; 164, с. 17–23]. Адным з іх была адсутнасць фіксаванага спісу «плямён» і «народнасцей», а таксама дакладных крытэрыяў вызначэння этнічнай прыналежнасці. Гэта прыводзіла да частага змяшэння этнічных, палітычных, рэлігійных і моўных паняццяў [165, с. 145–147]. Так, супрацоўнік РГТ Р. Ф. Эркерт у адносінах да такой блытаніны адзначаў: «Выраз «каталіцкі беларус» сустракаецца, праўда, даволі часта ў навуковых артыкулах, але ў рэчаіснасці яго няма і не можа быць, бо, за выключэннем вызнаючых праваслаўную рэлігію ў Віцебскай, Магілёўскай і ўсходняй частцы Мінскай губерні, выраз «беларус», для абазначэння народнасці, і «беларускі», для абазначэння мовы, нікому ў народзе не вядомы. Мову сваю просты чалавек называе *простай*, а самаго сябе *рускім*, часта нават *літоўцам* (паводле палітычных паданняў), ці проста *селянінам* <...> Польскае дваранства, а асабліва каталіцкае духавенства часта ўжывае выраз «літоўцы» у адносінах да тых каталікоў, у якіх роднай мовай з'яўляецца руская (беларуская. – *Ю. В.*). У гэтым выпадку яны робяць палітычную памылку» [192, с. 8]. Паказальныя таксама сведчанні Э. Вольтэра: «Пры збіранні статыстычных

звестак часта змешваюцца паняцці *Літвін*, *Літва* ў гістарычна-геаграфічным значэнні з *літвою* этнаграфічнай. Літвінам павінен лічыцца той, хто ў хатнім побыце гаворыць па-літоўску, нягледзячы на тое, што касцёл яго вучыць польскай, а народная школа рускай мове. У цяперашні час звесткі, якія тычацца прынятых у войска па рубрыцы «па паходжанню», павінны лічыцца сумнеўнымі дзеля таго, што вельмі шмат літвінаў пазначана ў паветах, дзе іх цяпер як літоўскамоўных увогуле няма; а наадварот, у тых паветах, дзе цяпер яшчэ размаўляюць па-літоўску, паводле статыстычных табліц прынятых у войска літоўцаў пазначана параўнальна мала» [33, с. 133].

Гэтай розніцы паміж этнічнымі літоўцамі і беларусамі-літвінамі не рабілі многія даследчыкі XIX ст. Так, паводле даных М. Лябёдкіна [87, с. 142–145], неверагодная колькасць літоўцаў (відавочна – беларусаў-літвінаў) пражывала, акрамя Мінскай (64 149 чалавек) і Гродзенскай (201 897 чалавек, пры тым усе праваслаўныя!) губерняў, яшчэ ў губернях Валынскай (11 243 чалавекі) і Кіеўскай (ажно 38 026 чалавек!). Больш за тое, зыходзячы з «парафіяльных спісаў», ён «знайшоў» каля 30 тысяч яцвягаў у Гродзенскай губерні, чаго пасля не фіксаваў ніводны наступны перапіс. Гэтыя звесткі былі некрытычна пераняты і іншымі даследчыкамі (напрыклад, Н. Сталпянскім [159, с. V]).

Блытаніна, звязаная з этнонімам «літвіны», абцяжарвалася і культурна-побытавым падабенствам беларусаў і літоўцаў. Так, у сярэдзіне XIX ст. Р. Ф. Эркерт, характарызуючы этнаграфічныя асаблівасці літоўцаў, пісаў: «За выключэннем мовы і зусім асаблівых нацыянальных і рэлігійных паняццяў, якія адносяцца да аддаленага мінулага, літвіны (літоўцы. – *Ю. В.*) па свайму знешняму ладу жыцця мала чым адрозніваюцца ад сумежных з імі беларусаў, у адносінах да якіх яны знаходзяцца ў нейкім пасіўным і падначаленым стане» [192, с. 69]. Аўтар жа «Апавяданняў пра Літву і літоўцаў», які друкаваўся пад крыптанімам Г. Р., адзначаў у канцы XIX ст. наступнае: «У некаторых месцах Віленскай губерні часта пра чалавека нельга сказаць, хто ён – літовец ці беларус: барады

не носіць, каталік, адзенне пакрою літоўскага, а мова ў яго беларуская з дамешкам польскіх словаў, ды і прозвішча – які-небудзь Гайдун, Чыжык – зусім не літоўскае. На мяжы з Польшчай памыліцца яшчэ лягчэй, таму што адзенне і твары палякаў і літоўцаў вельмі падобныя, ды і вера ў іх адна і тая ж. Сапраўдных літоўцаў можна пабачыць толькі ў самым сэрцы літоўскага народа – у Ковенскай губерні, і тое толькі ў вёсцы, а не ў гарадах, таму што гарадскія літоўцы, мяшчане, перанялі мову і звычаі палякаў» [41, с. 4].

Ва ўмовах незавершанага фарміравання этнічнай самасвядомасці мясцовага насельніцтва перавага пры вызначэнні этнічнай прыналежнасці ў канцы XIX ст. аддавалася фактару мовы. Гэты крытэрый (родная мова рэспандэнтаў) быў узяты за аснову пры ўліку этнічнага складу насельніцтва падчас Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. Згодна са звесткамі гэтага перапісу, у канцы XIX ст. літоўцы найбольш шчыльна насялялі наступныя змешаныя паветы Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губерняў: Віленскі – 76 154 чалавекі (або 21% ад усяго насельніцтва павета), Трокскі – 118 171 чалавек (58%), паўночна-заходнюю частку Свянцянскага – 58 134 чалавекі (каля 34%), паўночную частку Лідскага – 17 828 чалавек (крыху менш за 9%), Ашмянскі – 8765 чалавек (3,8%), Дзісенскі – 703 чалавекі (0,3%), Нова-Аляксандраўскі – 103 734 чалавекі (50%), а таксама Гродзенскі – 2912 чалавекі (1,4%) і Слонімскі – усяго 305 чалавек (0,1%) [117, с. 56–59; 119, с. 102–105; 120, с. 80–83].

Ва ўсіх пералічаных паветах літоўцы жылі побач з беларусамі. Спецыфіку сумеснага пражывання яскрава адлюстроўвае апісанне этнічнага складу насельніцтва ўсходніх валасцей Нова-Аляксандраўскага павета, зробленае ў канцы XIX ст. К. Гукоўскім: «У Смолвенскай воласці налічваецца каля 900 душ беларусаў-каталікоў, у Відзаўскай падаўляе сваёй колькасцю таксама літоўскае насельніцтва, у Опсаўскай 3/5 літоўцаў, астатнія беларусы, у Браслаўскай 4/5 беларусаў, у Дрысвяцкай амаль цалкам беларускае насельніцтва і, нарэшце, дзве ўсходнія воласці, Слабадская і Краснагорская,

ужо не маюць літоўцаў» [50, с. 170]. Пры гэтым даследчык адзначае такі факт: «народнасць уласна літоўская з'яўляецца карэннаю толькі на заходні бок ад Санкт-Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі, ва ўсходніх жа валасцях яна з'яўляецца каланізацыйным дамешкам да беларускага насельніцтва» [50, с. 171]. А вось што на гэты конт пісаў І. Гнядоўскі: «Такім чынам, у паўночна-заходняй частцы Нова-Аляксандраўскага павета пераважае літоўскае насельніцтва і нельга заўважыць ніякай прысутнасці беларуса, хаця б пазнейшага пасялення. <...> Другая частка Нова-Аляксандраўскага павета, усходняя, уяўляе сабой: па першае, воласці змяшаныя з паселішчаў літоўцаў і беларусаў і па-другое – воласці чыста беларускія. Воласці Смолвенская, Рымшанская і Відзаўская ўяўляюць сабой пасяленні літоўцаў і беларусаў і, нарэшце, – Дрысвяцкая, Опсаўская, Браслаўская, Слабадская і Краснагорская населены выключна беларусамі» [45, с. 327–328].

Рассяленне літоўскамоўнага насельніцтва па валасцях Віленскай губерні адлюстроўвае ананімнае даследаванне канца XIX ст., напісанае па матэрыялах, сабраных сельскімі старастамі па распараджэнні графа Адама Плятэра [198]. (Гэтымі ж данымі карыстаўся Я. Карскі пры складанні сваёй «Этнаграфічнай карты беларускага племя» [74, с. 5–6], а таксама Я. Развадоўскі [321; 322].) Паводле гэтай крыніцы, літоўскае насельніцтва ў Віленскім павеце кампактна пражывала ў 11 з 18 валасцей: Гялвонскай, Шырвінцкай, Мусьніцкай, Маляцкай, Гедройцкай, Майшогальскай, Падбярэскай, Немянчынскай, Янішкаўскай, Салечніцкай і Варнянскай. У першых пяці яны складалі большасць. У Варнянскай воласці колькасць літоўцаў складала 3480 чалавек (21% ад усяго насельніцтва). Большая іх частка пражывала ў Гервяцкай (1575 чал.), Гальчунскай (743 чал.) і Рымдзюнскай (1128 чал.) гмінах: у вёсках Гервяты, Мацкі, Міцюны, Гайголі, Чэрнішкі, Гальчуны, Гелюны, Рымдзюны, Пелегрында, Гіры, Кністушкі і інш. У Трокскім павеце літоўцы мелі колькасную перавагу амаль ва ўсіх валасцях (за выключэннем Еўскай і Міжрэцкай). У Свянцянскім павеце літоўцы кампактна пражывалі толькі

ў 10 валасцях з 21: Мелегянскай, Лынгмянскай, Даўгелішкаўскай, Заблоцішкаўскай, Кукуцішкаўскай, Цвярэцкай, Свянцянскай, Міхалоўскай, Камайскай і Гадуцішкаўскай. У апошняй колькасць літоўскага насельніцтва дасягала 8692 чалавек (94%). У Камайскай воласці літоўцаў было 954 чалавекі (каля 17%). Тут яны жылі ў вёсках Рамашковічы, Чычэлі, Мальдзевічы, Нарковічы і інш. У Ашмянскім павеце літоўцы пражывалі ў 6 з 23 валасцей: Дзявенішкаўскай (7108 чал., або 84% ад усяго насельніцтва), Седліскай (2570 чал., або 55%), Юрацішкаўскай (312 чал., або 6%), Лугамавіцкай (2298 чал., або 24%), Бакштанскай (959 чал., або каля 18%) і Сольскай (601 чал., або каля 11%). У Лідскім павеце літоўцы найбольш шчыльна насялялі Аляксандраўскую (4982 чал., або 100%), Каняўскую (4774 чал., або 88%), Радунскую (4490 чал., або 71%), Жырмунскую (985 чал., або каля 14%) і Эйшышкаўскую (1322 чал., або 17%) воласці. У Радунскай воласці літоўцы кампактна пражывалі ў наступных вёсках: Пеляса, Дубінцы, Віганцы, Клайшы, Каргаўды, Лялюшы, Смільгіні, Палашкі, Складанцы, Страчуны, Яцюны, Ятаўты, Помедзь, Друскенікі, Подзітва, Повалака, Пілюнцы, Вайкунцы, Гарадзішча, Папішкі, Мажэйкі, Ворлі, Ківанцы, Павіланцы і інш. Літоўскае насельніцтва Дзісенскага павета канцэнтравалася пераважна ў Богінскай воласці (516 чал., або каля 6%), паблізу Відзаў, у вёсках Дамашы, Заборнікі, Рымашы, Мядынкі, Уцінкі і Мацяшы [198, s. 9–71].

У пачатку XX ст. адбыўся ўздым літоўскага нацыянальнага руху, чаму не ў малой ступені садзейнічала адмена ў 1904 г. уладамі царскай Расіі забароны на літоўскі друк і ў 1906 г. на выкладанне ў школах на літоўскай мове. Гэтыя меры спрыялі развіццю літоўскай этнічнай самасвядомасці, у першую чаргу сярод інтэлігенцыі. Ужо ў пачатку XX ст. у Беларусі пачалі адчыняцца першыя літоўскія школы. Набажэнствы ў мясцовых касцёлах, парафіі якіх налічвалі значную колькасць літоўскіх вернікаў, усё часцей праводзіліся на літоўскай мове. Так, напрыклад, у 1906 г. адміністрацыя Гродзенскай губерні вымушана была абмяркоўваць пытанне

аб выкладанні роднай мовы ў пачатковых школах у вёсках з літоўскім насельніцтвам [166, с. 37], а ў 1907 г. толькі ў наваколлі Браслава ўжо дзейнічалі 4 пачатковыя літоўскія школы [232, p. 9]. У 1906 г. без дазволу мясцовых улад у в. Малькаўка Чавускага павета была адкрыта літоўская школа. Настаўнік быў запрошаны з Літвы. Навучанне вялося на літоўскай мове, аднак вывучалася і руская мова. Акрамя таго, настаўнік актыўна праводзіў нацыянальна-выхаваўчую працу сярод мясцовага літоўскага насельніцтва. Аднак ужо ў канцы 1907 г. школа была ліквідавана. Арганізаваць падобныя школы літоўцы намагаліся і ў іншых месцах, напрыклад, у в. Барсеева Аршанскага павета, але асаблівага поспеху яны не мелі [158, с. 57–58].

У той жа час абвастраецца праблема ўвядзення літоўскай мовы ў касцёлах паўночна-заходняй Беларусі, чаму актыўна супрацьдзейнічалі апалячаныя беларусы. На гэтай глебе ў мястэчку Радунь Лідскага павета неаднаразова адбываліся сутыкненні паміж вернікамі-літоўцамі і мясцовымі «палякамі» [166, с. 37; 294, p. 392–393; 300, p. 112–117]. Больш спрыяльныя ўмовы для ўвядзення літоўскай мовы ў мясцовыя касцёлы мелі літоўскія перасяленцы ва ўсходняй Беларусі. Ужо ў канцы XIX ст. набажэнствы на літоўскай мове праходзілі ў касцёлах мястэчак Талачын (Аршанскі павет) і Бобр (Сенненскі павет), дзе ксяндзамі былі літоўцы. У іншых касцёлах, як, напрыклад, у мястэчку Бабінавічы (Аршанскі павет), набажэнства па-літоўску вялося кожную нядзелю і на вялікія святы. У касцёлах, парафіі якіх налічвалі меншую колькасць літоўцаў, адно набажэнства магло праходзіць на польскай мове, другое – на літоўскай. Такім чынам яны чаргаваліся ў Шклове (Магілёўскі павет) [197, p. 26–28; 287, p. 80–83]. Відавочна, што падобнае стаўленне да літоўскай мовы ў касцёлах праваслаўных раёнаў усходняй Беларусі было абумоўлена колькаснай перавагай літоўцаў-каталікоў у многіх мясцовых каталіцкіх парафіях. Напрыклад, літоўцы вёскі Малькаўка ў Раснянскай філіі Радамльскай парафіі складалі дзве трэці парафіянаў [323, p. 4].

У 1904 г. літоўцы парафіі Магілёўскага кафедральнага касцёла прасілі ў архібіскупа Магілёўскай дыяцэзіі пакінуць ім ксяндза-літоўца або прызначыць новага, які б ведаў літоўскую мову. У прашэнні адзначалася, што ў Магілёве налічваецца каля 400 літоўцаў, якія валодаюць толькі роднай мовай [109, арк. 7–9]. Гэтага ж у 1905 г. прасілі і літоўцы мястэчка Рукшаніцы Полацкага павета, якіх, згодна з прашэннем, налічвалася каля 500 чалавек [109, арк. 16]. У асноўным такія просьбы задавальняліся, тым больш што, як сведчаць фармулярныя спісы Магілёўскай кансісторыі, значная частка каталіцкіх святароў гэтай дыяцэзіі былі этнічнымі літоўцамі з Ковенскай і Віленскай губерняў [108]. Напрыклад, у 1906 г. плябанам Радамльскай парафіі быў прызначаны літовец ксёндз Будрыс, выхаванец Пецярбургскай духоўнай акадэміі [323, p. 4]. Таксама літоўцы заўсёды прызначаліся на пасады плябана Бабінавіцкага касцёла і вікарыя Магілёўскага кафедральнага касцёла [323, p. 4]. Набажэнствы на роднай мове адыгрывалі важную ролю ў этнічнай кансалідацыі літоўцаў Беларусі.

Карэнныя змены ў грамадскім і сацыяльна-эканамічным жыцці абумовілі актыўнае далучэнне літоўцаў Беларусі да нацыянальнага руху. Ужо ў пачатку XX ст. беларускія літоўцы актыўна выпісвалі з Вільні першую літоўскую газету ў Расійскай імперыі «Vilniaus Žinios» («Віленскія Весці»), пазней – «Šaltinis» («Крыніца»), «Vienybė» («Адзінства»), «Aušra» («Зара») [158, с. 57]. Напрыклад, у 1913 г. на радунскую пошту для мясцовых падпісчыкаў прыходзілі наступныя літоўскія газеты: «Aušra» («Зара») (35 экзэмпляраў), «Garnys» («Чапля») (1 экз.), «Lietuvaitė» («Літовачка») (3 экз.), «Pavasaris» («Вясна») (20 экз.), «Spindulys» («Прамень») (13 экз.), «Šaltinis» («Крыніца») (4 экз.), «Viltis» («Надзея») (3 экз.) [300, p. 118].

Важную ролю ў нацыянальна-культурным жыцці літоўцаў Заходняй Беларусі адыгралі аддзелы культурна-асветніцкіх таварыстваў «Rytas» («Раніца») і Св. Казіміра, якія разгарнулі сваю актыўную дзейнасць сярод мясцовых літоўцаў у 20–30-я гг. XX ст. [25].

Культурна-асветніцкае таварыства «Rytas» было ўтворана ў 1913 г. і дзейнічала пераважна ў Віленскім краі да 1940 г. Мэта таварыства, паводле статуту: «несці асвету літоўцам, як таго патрабуе рыма-каталіцкае веравучэнне». Дзеля гэтага таварыства «Rytas» павінна было адчыняць і ўтрымліваць пачатковыя, спецыяльныя і рамесныя школы, курсы для дарослых, настаўніцкія семінарыі, гімназіі, ліцэі і іншыя сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, народныя універсітэты, розныя курсы, кнігарні, чытальні, музеі і падобныя ўстановы, рыхтаваць лекцыі, вечарыны і г. д. Галоўнай мэтай таварыства была школьная і пасляшкольная адукацыя літоўскай моладзі і дарослых, падрыхтоўка работнікаў асветы. Найважнейшым яго клопатам была арганізацыя і ўтрыманне літоўскіх школ [326, р. 120].

За кароткі час таварыства здолела заснаваць даволі вялікую колькасць прыватных школ, чытальняў і асобных аддзелаў у розных раёнах Усходняй Літвы і Заходняй Беларусі. Перад Першай сусветнай вайной яно мела 40 аддзелаў і налічвала каля 2000 сяброў. Пасля таго як Віленскі край апынуўся пад уладай Польшчы, таварыства «Rytas» сутыкнулася з пэўнымі цяжкасцямі. Польскія ўлады запатрабавалі перарэгістрацыі таварыства, таму яго статут неаднаразова змяняўся і пераздацвярджаўся. Паводле зацверджанага ў 1928 г. статута, дзейнасць таварыства «Rytas» ахоплівала ўсю тэрыторыю Польшчы. З гэтай прычыны яно атрымала магчымасць праводзіць сваю дзейнасць ва ўсіх мясцовасцях, дзе пражывала літоўскае насельніцтва, у тым ліку на тэрыторыі Заходняй Беларусі [326, р. 120].

Нягледзячы на пэўныя цяжкасці і перашкоды з боку польскіх уладаў, колькасць літоўскіх пачатковых школ, адчыненых таварыствам на Віленшчыне, актыўна расла. У 1922 г. іх налічвалася каля 44, а ўжо ў канцы 1923 г. дзейнічала не менш за 76 (а разам са школамі, заснаванымі свянцянскім аўтаномным аддзелам «Rytas», – 148). У 1925/1926 навучальным годзе колькасць літоўскіх пачатковых школ, паводле афіцыйнай польскай статыстыкі, у беларускіх паветах была

прыблізна наступнай: Ашмянскі павет – 9, Віленска-Трокскі – 32, Браслаўскі – 6, Дзісенскі – 1, Валожынскі – 1, Гродзенскі – 10, Лідскі – 22 [326, p. 120–121]. Аднак, згодна з архіўнай дакументацыяй таварыства «Rytas», толькі на тэрыторыі сучаснага Астравецкага раёна ў 20–30-х гг. XX ст. дзейнічала не менш за 10 літоўскіх легальных і нелегальных прыватных пачатковых школ: у вёсках Гайголі, Гальчуны, Гелюны, Гервяты, Гіры, Гудзянікі, Кністушкі, Міцюны, Мацкі, Рымдзюны, Пелегрында, Петрыкі [285, p. 53–56].

У гады польскай акупацыі на тэрыторыі Віленскага краю праводзілася планавая агітацыя і прапаганда па змяненні этнічнага складу насельніцтва, што, зразумела, штучна вяло да дэнацыяналізацыі літоўскага насельніцтва Заходняй Беларусі. На вырашэнне гэтай задачы былі скіраваны афіцыйныя дзяржаўныя ўстановы, школа, касцёл, друк. Мэтанакіравана праводзілася палітыка ліквідацыі літоўскіх прыватных пачатковых школ (толькі ў 1927 г. іх было зачынена каля 50, у тым жа годзе – і Віленская настаўніцкая семінарыя, а ў перыяд з 1919 па 1928 г. усяго – каля 185) [252, p. 147]. З цягам часу былі ліквідаваны ўсе прыватныя школы таварыства «Rytas», апошняя была зачынена ў 1938 г. на Лідчыне ў вёсцы Дайнава [326, p. 122]. З ліквідацыяй легальных літоўскіх пачатковых школ у шэрагу месцаў кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва актыўнае пашырэнне ізноў атрымала патаемнае навучанне на літоўскай мове [285, p. 51]. Варта адзначыць, што ў Лідскім, Ашмянскім і Браслаўскім паветах, дзе літоўскія вёскі ўтваралі нібыта «астравы» ў беларускім этнічным асяроддзі, літоўскія школы цярпелі больш жорсткі ўціск з боку польскай адміністрацыі ў параўнанні з іншымі паветамі кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва, бо гэтыя землі ў першую чаргу ўспрымаліся польскай уладай як этнічна польскія [285, p. 51].

Падобную ролю ва ўмацаванні этнічнай кансалідацыі сярод літоўцаў Заходняй Беларусі адыграла таварыства Св. Казіміра (Šv. Kazimiero draugija), якое было заснавана ў Вільні ў 1925 г. Яго мэтай было аказанне асветніцкай, маральнай,

медыцынскай і сацыяльнай падтрымкі літоўскай моладзі. Таварыства засноўвала моладзевыя аддзелы, чытальні, кнігарні, школы свабоднага наведвання, вячэрнія курсы, дзіцячыя садкі, падтрымлівала бедных дзяцей, дзеля чаго адчыняліся прытулкі, інтэрнаты, сталовыя, вячэрнія і дамы адпачынку, рупілася аб здароўі моладзі і г. д. Асноўнай мэтай таварыства было тое, каб літоўская моладзь выхоўвалася выключна ў нацыянальным і каталіцкім духу [326, р. 50].

Вельмі хутка аддзелы таварыства Св. Казіміра з'явіліся па ўсёй Віленшчыне. У пачатку 1926 г. існавала 10 аддзелаў, а ў 1928 г. – ужо 150 з 3810 сябрамі, у 1932 г. – 386, а ў 1936 г. – 476 з 18 000 членамі. У 1934 г. колькасць аддзелаў таварыства па паветах была наступнай: у Вільні – 4, Віленска-Трокскім павеце – 83, Свянцянскім – 165, Браслаўскім – 26, Ашмянскім – 9 (польскія ўлады не дазволілі зацвердзіць 4), Лідскім – 3, Гродзенскім – 19, Сувалкскім – 30, Валожынскім – 2. Згодна з К. Місюсам, паводле звестак з архіва таварыства Св. Казіміра, яго аддзелы існавалі ў наступных вёсках сучаснага Воранаўскага раёна: Баярах, Беняконях, Білях, Больцініках, Бялюнцах, Віганцах, Воранаве, Вялікіх Кужах, Гарадзішчы, Дайнаве, Друскеніках, Дубінцах, Жылянцах, Жусінах, Каргаўдах, Лапацішках, Лашаках, Літвіцы, Любартах, Лялюшах, Магунах, Навасядах, Нявошах, Падваранцах, Парубішках, Пелясе, Пілюнцах, Пліках, Повалацы, Подзітве, Рамашканцах, Складанцах, Смільгінях, Станішах, Сцілгунах, Тусаманцах, Цеслюкішках, Чэгліках [301, р. 155–184]. Згодна з данымі Ю. Кудзіркі, на тэрыторыі сучаснага Браслаўскага раёна аддзелы таварыства Св. Казіміра дзейнічалі ў наступных вёсках: Опса, Заборнікі, Вайнюнцы, Бялусішкі, Пяткунішкі, Абалікшты, Пеліканы, Новая Вёска, Пабрэжжа [257, р. 14].

Важную ролю ў культурным жыцці літоўскага сялянства адыгралі таксама заснаваныя таварыствам вясковыя грамадскія бібліятэкі: кніга зрабілася даступнай для сельскага чытача. У бібліятэках не менш чым 300 аддзелаў знаходзілася каля 48 тыс. кніг, з іх у Свянцянскім павеце – 17 294, Лідскім –

3630, Віленска-Трокскім – 8341, Гродзенскім – 1689, Ашмянскім – 968, Сувалкскім – 6050. Таварыства мела 39 грамадскіх чытальняў: у Вільні – 1, Віленска-Трокскім павеце – 5, Свянцянскім – 14, Браслаўскім – 8, Лідскім – 9, Сувалкскім – 2. Яно таксама арганізавала і мела на ўтрыманні 26 дзіцячых садкоў: у Вільні – 2, Віленска-Трокскім павеце – 5, Браслаўскім – 9, Лідскім – 8 і Валожынскім – 2; іх наведвалі каля 750 літоўскіх дзяцей дашкольнага ўзросту. Дзіцячыя садкі арганізоўваліся ў першую чаргу ў найбольш этнічна змешаных мясцінах, часта ў месцах з пераважна беларускім насельніцтвам. Гэта рабілася з мэтай прадухілення далейшай асіміляцыі літоўскай моладзі [326, p. 50].

Таварыства для сувязі з аддзеламі накіроўвала туды сваіх інструктараў, якія чыталі лекцыі, паказвалі кінафільмы, давалі гаспадарчыя, медыцынскія і іншыя парады. Дзейнасць аддзелаў таварыства Св. Казіміра была вельмі шырокай і разгалінаванай. Яны рыхтавалі спектаклі, праводзілі юбілеі, святкаванні ўгодкаў памятных дат літоўскай гісторыі, святы песень, спартыўныя спаборніцтвы, усталёўвалі крыжы, помнікі і г. д. [301, p. 153].

З мэтай актывізацыі працы аддзелаў цэнтральнае кіраўніцтва таварыства некалькі разоў склікала сходы сваіх прадстаўнікоў: у 1934 г. у Вільні і Свянцянах, у 1933 і 1935 гг. – у Свянцянах, Опсе і Пелясе. На іх зачытваліся даклады, лекцыі, абмяркоўваліся далейшыя планы і напрамкі дзейнасці [326, p. 52]. Аднак польскія ўлады ў хуткім часе распачалі ліквідацыю аддзелаў таварыства. З 1934 па 1936 г. былі ліквідаваны 37 аддзелаў, а ў канцы 1937 г. – фактычна і сама арганізацыя [326, p. 52].

У гады польскай акупацыі Віленскага краю беларуская мова, якой шырока карысталася насельніцтва гэтага рэгіёна, трактавалася як «сапсаваная польская». З гэтай прычыны мясцовыя польскія ўлады не змагаліся супраць яе настолькі актыўна, як гэта яны рабілі з літоўскай мовай, бо яе нават не атаясамлівалі з іншай нацыянальнасцю. Таму працэсы моўнай асіміляцыі літоўскага насельніцтва былі актыўнымі

і ў гэты перыяд. Гэтаму па-ранейшаму спрыяла фактычная адсутнасць адміністрацыйна-тэрытарыяльных межаў паміж беларусамі і літоўцамі. Гістарычныя падзеі гэтага часу толькі ўзмацнілі і без таго складаную этнічную сітуацыю ў рэгіёне.

Пры ўсталяванні дзяржаўнай мяжы паміж Літвой і Беларуссю ў 1940 г. у разлік браліся выключна палітычныя інтарэсы кіраўніцтва СССР, этнічныя ж межы, якія склаліся тут натуральным чынам, не ўлічваліся. Нягледзячы на просьбу з літоўскага боку аднесці Відзаўскі, Астравецкі, Воранаўскі і Радунскі раёны былых Вілейскай і Баранавіцкай абласцей да Літвы, на перамовах у Гродне, якія адбыліся 1–2 студзеня 1940 г. была канчаткова зацверджана сучасная дзяржаўная мяжа паміж дзвюма краінамі [378, p. 101; 379, p. 176].

Па-іншаму ў 20–30-я гг. XX ст. складваўся лёс літоўцаў Савецкай Беларусі. Іх становішча ў сферы нацыянальна-культурнага будаўніцтва значна палепшылася пасля распачатай у БССР палітыкі беларусізацыі, накіраванай на развіццё культуры не толькі беларускага этнасу, але і прадстаўнікоў іншых этнічных груп. Важным вынікам гэтай палітыкі для літоўцаў было адкрыццё літоўскіх школ, выпуск літоўскіх выданняў, падрыхтоўка спецыялістаў для школ і правядзенне навукова-даследчай работы, утварэнне літоўскіх нацыянальных калгасаў і сельскіх саветаў. У 20–30-я гг. XX ст. Мінск фактычна зрабіўся цэнтрам усіх літоўцаў Савецкага Саюза [179, с. 40–42; 364, p. 50–52].

Адным з галоўных дасягненняў Савецкай улады было забеспячэнне патрэб розных этнічных груп у сферы нацыянальнай адукацыі. Першыя дзве літоўскія пачатковыя школы былі арганізаваны ў 1925/26 навучальным годзе ў вёсках Рукшаніцы і Усомля Полацкай акругі. У наступным годзе былі адкрыты яшчэ 6 школ: у Крупскім раёне – 2, па адной у Раснянскім, Дубровенскім, Лёзненскім і Лупалаўскім раёнах. У 1928 г. у Віцебскай акрузе былі арганізаваны яшчэ 2 школы. Такім чынам, за тры гады былі адкрыты 10 літоўскіх пачатковых школ [131, с. 93]. У 1933–1934 гг. іх колькасць павялічылася да 12, іх наведвалі больш за 370 вучняў. Важнае

значэнне мела адкрыццё літоўскіх сямігадовых школ у вёсках Малькаўка Мсціслаўскага раёна і Дыманова Лёзненскага раёна. Апошняя ў 1934 г. была ператворана ў поўную сярэднюю школу, якая доўгі час заставалася адзінай літоўскай агульнаадукацыйнай навучальнай установай у Савецкім Саюзе [345, p. 696–700]. Такія школы наведвалі дзеці літоўцаў з самых розных раёнаў БССР, а таксама з памежных раёнаў РСФСР. Тут жа вучыліся, як адзначае В. Скардзіс, і дзеці беларусаў, якія ведалі літоўскую мову [158, с. 102, 112].

Для адукацыйнага развіцця дарослага насельніцтва ў 1927 г. у літоўскіх вёсках былі арганізаваны 3 хаты-чытальні, 2 перасоўныя школы і больш за 15 «чырвоных куткоў», дзе былі абсталяваны невялікія бібліятэкі [105, арк. 34]. Тут можна было пачытаць газеты і кнігі, ставіліся спектаклі, праводзіліся даклады і гутаркі. Практыкаваліся таксама летнія камандзіроўкі да літоўскіх сялян студэнтаў літоўскага сектара Камуністычнага ўніверсітэта народаў Захаду ў Маскве [196; 211; 217; 219; 220; 242; 251; 274; 348; 372]. У літоўскіх вёсках дзейнічалі пункты ліквідацыі непісьменнасці («лікбезы»). Па вечарах у іх збіраліся людзі сталага ўзросту, якіх навучалі чытаць і пісаць настаўнікі і актывісты-камсамольцы [282, p. 24].

Значнай перашкодай для разгортвання культурна-асветніцкай працы сярод літоўскага насельніцтва БССР у 20–30-я гг. XX ст. быў недахоп нацыянальных кадраў і школьных падручнікаў на літоўскай мове. Некаторыя падручнікі, газеты і часопісы ў першай палове 20-х гг. XX ст. выпісваліся з Літоўскай Рэспублікі і ЗША [105, арк. 38]. Аднак ужо ў 1927–1928 гг. кнігі на літоўскай мове пачалі друкавацца і ў БССР. Выдавалася літаратура па пытаннях палітыкі, сельскай гаспадаркі, антырэлігійнага зместу, выходзіла мастацкая літаратура на літоўскай мове, якая насіла пераважна ідэалагічны характар. У 1932 г. пры Беларускім дзяржаўным выдавецтве быў заснаваны літоўскі сектар. Найбольш увагі ў ім надавалася выпуску літоўскіх буквароў і падручнікаў. У 1928 г. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва арганізавала ў Мінску «Кнігарню нацыянальных меншасцей», дзе ў продажы мелася

літаратура на літоўскай, латышскай, польскай, яўрэйскай і іншых мовах. Згодна з падлікамі В. Скардзіса, у Мінску з 1928 па 1934 г. было выдадзена каля 80 кніг на літоўскай мове [158, с. 119]. Адзінай літоўскамоўнай газетай ва ўсім СССР доўгі час была газета «Чырвоны араты» («Raudonasis artojas»), якая выдавалася ў Мінску з 1927 па 1937 г. Газета пачала выходзіць спачатку як двухтыднёвая, потым стала штотыднёвай, а з 1930 г. выходзіла раз у пяць дзён. Літоўцы БССР праз уласную газету змаглі падтрымаць цесныя сувязі з іншымі літоўцамі, якія пражывалі па ўсім СССР, а таксама ў замежжы. Так, напрыклад, літоўцы ЗША ў 1928 г. выпісвалі каля 250 экзэмпляраў газеты [131, с. 94].

У 1926 г. пры ЦК КП(б)Б было ўтворана Літоўскае бюро. Культурна-асветніцкай працай сярод літоўцаў займаўся інспектар пры Наркамасвеце БССР. У 1928 г. у Беларускім педагагічным тэхнікуме ў Мінску было адкрыта літоўскае аддзяленне. Для падрыхтоўкі настаўнікаў літоўскай мовы ствараліся спецыяльныя кароткатэрміновыя і пастаянныя курсы [158, с. 100, 115–116]. Літоўскае бюро пры ЦК КП(б)Б за кароткі час сабрала звесткі амаль пра ўсіх літоўцаў, якія пражывалі ў БССР, арганізавала ў акругах працоўныя літоўскія цэнтры (літоўскія бюро пры раённых камітэтах партыі), распачало ў літоўскіх вёсках агітацыйную і прапагандысцкую работу [313, p. 1].

Аднак відавочная ідэалагізацыя школьнай адукацыі і яе антырэлігійны характар насцярожвалі рэлігійных літоўцаў, якія не жадалі аддаваць сваіх дзяцей у падобныя школы. Літоўскія сяляне безнадзейна патрабавалі заснавання такіх школ, дзе іх дзеці маглі б навучацца «пацерам і малітвам» [196, p. 14; 250, p. 30; 343, p. 21]. Як і раней, традыцыйным месцам збору літоўскіх сялян заставаўся касцёл, дзе ў святочныя дні збіраліся літоўцы з самых аддаленых вёсак. Тут яны абменьваліся навінамі, знаёміліся, што нярэдка выконвала камунікатыўную функцыю перадшлюбных зносін літоўскай моладзі. Напрыклад, каталіцкі фэст у мястэчку Расна збіраў літоўцаў з Дрыбінскага, Лупалаўскага, Чавускага, Мсціслаўскага і іншых раёнаў. Нямала літоўцаў збіраліся і на рэ-

лігійныя святы ў мястэчку Радамля (Чавускі раён), дзе значную частку мясцовых каталікоў складалі менавіта літоўцы. Літоўцы вёскі Сафійск нават мелі ўласную капліцу, дзе штогод 6 жніўня святкавалі святаПератварэння Божага. На гэты фэст з'язджаліся літоўцы з самых розных раёнаў БССР у колькасці да паўтары тысячы чалавек [218, p. 24; 329, p. 168–171]. Такое становішча захоўвалася да сярэдзіны 30-х гг. XX ст., калі мясцовыя касцёлы і цэрквы пачалі актыўна зачыняць і разбураць [282, p. 18–19]. Сустрэчы падчас вялікіх каталіцкіх святаў, без сумневу, мелі станоўчы ўплыў на захаванне ўнутрыгрупавой этнічнай кансалідацыі літоўцаў, дазвалялі ім адчуць сваё этнагенетычнае і этнакультурнае адзінства.

У канцы 20 – пачатку 30-х гг. XX ст. узмацнілася масавая антырэлігійная прапаганда сярод жыхароў літоўскіх вёсак. Так, напрыклад, літоўская секцыя Саюза ваяўнічых бязбожнікаў звярнулася праз Літоўскае бюро да настаўнікаў літоўскіх школ, запрашаючы іх распачаць антырэлігійную барацьбу на вёсцы [371, p. 2]. Аднак гэтыя дзеянні не мелі значнага поспеху. Пры даследаванні літоўскага насельніцтва вёскі Сафійск Лупалаўскага раёна, якое было праведзена ў 1930 г., адзначалася: «Да рэвалюцыі і ў сучасны час (літоўцы. – *Ю. В.*) жывуць у абшчыне, склад якой выключна літоўскі. У вёсцы няма іншых нацый. Нягледзячы на русіфікацыю ў мінулым, мова шмат перамешана з рускімі і беларускімі словамі, але большая частка гаворкі засталася ў поўнай чысціні. Гэта магло здарыцца толькі дзякуючы вялікай замкнёнасці на нацыянальнай і клерыкальнай глебе. <...> Нацыянальная замкнёнасць адчуваецца вельмі моцна. Існуе літоўскі нацыянальны шавінізм, беларусаў называюць «чумокас», што азначае непрыстойнае слова «пастух». Не маецца сувязей з беларускімі вёскамі. Рэлігійнасць вельмі моцная: 6 жніўня праводзіцца трохдзённае мясцовае свята, 25 і 26 снежня ніхто не працуе нават у калгасе, 24 снежня на антырэлігійным вечары літоўцаў было вельмі мала. Усе святкавалі Куццю. Аднекуль атрымліваюць аплаткі» [106, арк. 74–76]. Адным з камандыраваных у літоўскія вёскі студэнтаў-камсамольцаў

адзначалася: «Дрэнна, што літоўцы захавалі шмат старых, ад «часоў патопу» звычаяў. Літоўцы жывуць у Беларусі ўжо больш за 40 гадоў, аднак не змаглі забыць сваіх звычаяў да гэтага часу» [250, р. 31]. Гэта сведчыць пра тое, што савецкая прапаганда не мела значнага ўплыву на традыцыйны светапогляд вясковага літоўскага насельніцтва (асабліва старэйшых жыхароў).

З вялікімі цяжкасцямі праходзіла калектывізацыя літоўскай вёскі. У 20–30-я гг. XX ст. нямала літоўскіх гаспадарак былі раскулачаны. Ужо ў 1929–30 гг. многіх літоўцаў дэпартавалі ў Сібір і на Поўнач. Першы літоўскі нацыянальны калгас «Новае жыццё» («Naujas gyvenimas») быў створаны ў 1928 г. у в. Сафійск [314, р. 43]. Пад вялікім уціскам з 1928 па 1930 г. былі створаны каля 10 калгасаў, а ў 1934 г. іх засталося толькі 6 [171, с. 137]. Некаторыя літоўскія вёскі былі ўключаны ў так званыя інтэрнацыянальныя калгасы, у якія, акрамя літоўскіх, уваходзілі гаспадаркі беларусаў, палякаў, яўрэяў, латышоў. Такія калгасы існавалі ў Лёзненскім, Дубровенскім, Барысаўскім, Чавускім, Крупскім, Лепельскім, Сенненскім і Вішыцкім раёнах [158, с. 88; 315, р. 36–37].

Важнае значэнне ў жыцці літоўцаў БССР адыграла ўтварэнне нацыянальных сельскіх саветаў (з ужываннем у справаводстве літоўскай мовы). У 1929 г. у вёсцы Малькаўка Раснянскага раёна Аршанскай акругі, у якой налічвалася каля 100 літоўскіх двароў, быў арганізаваны літоўскі нацыянальны савет, які праіснаваў да 1939 г. Па-сутнасці, літоўскім з'яўляўся і Сухараўскі сельскі савет у Лупалаўскім раёне Магілёўскай акругі, у склад якога ўваходзілі 56 літоўскіх гаспадарак, 26 яўрэйскіх і некалькі беларускіх [171, с. 136].

Новай формай грамадскай дзейнасці літоўцаў у 20–30-я гг. XX ст. сталі сходы і канферэнцыі рабочых і сялян, якія праводзіліся ў гарадах і вёсках. У 1928 і 1932 гг. у БССР адбыліся два ўсебеларускія з'езды літоўскіх рабочых і сялян. На падобных з'ездах, сходах і канферэнцыях рабочых і сялян звычайна аналізаваліся праведзеныя афіцыйнай уладай мерапрыемствы сярод літоўскага насельніцтва, вызначаліся кірункі далейшай

дзейнасці. У 1928–1929 гг. былі праведзены каля 10 падобных канферэнцый у Мінску, Полацку, Віцебску, а таксама ў Лёзненскім, Мсціслаўскім і Сенненскім раёнах [158, с. 102]. У Мінску і Віцебску дзейнічалі літоўскія рабочыя клубы, у некаторых гарадах пры клубах існавалі літоўскія секцыі. Яны павінны былі зрабіцца цэнтрам грамадскага жыцця літоўцаў-гараджан. У Мінску пры цэнтральным клубе літоўцаў імя К. Маркса функцыянаваў літоўска-латышскі хор, які аб'ядноўваў каля 30 чалавек [214, p. 4]. З 1928 па 1937 г. Мінская радыёстанцыя трансліравала перадачы на літоўскай мове [72, с. 387; 73, с. 317; 317, p. 3].

У 1927 г. у Інбелкульце (з 1929 г. – Беларуская АН) была заснавана кафедра гісторыі Літвы, адным з напрамкаў працы якой было вывучэнне гісторыі і культуры беларускіх літоўцаў (у тым ліку збор фальклорных матэрыялаў) [131, с. 95; 337; 339; 366]. З 1929 г. пры Беларускай АН дзейнічаў літоўскі сектар, з 1933 г. – Інстытут нацыянальных літоўскай і латышскай культур, у 1935 г. – літоўская секцыя Інстытута нацыянальных меншасцей (апошні інстытут узначальваў акадэмік С. Матулайціс) [286]. Сярод публікацый супрацоўнікаў секцыі: «1863 год у Літве. Сацыяльна-эканамічны стан Літвы перад паўстаннем» (Мінск–Ленінград, 1932), «Літоўскі нацыянальна-вызваленчы рух і яго класавая сутнасць» (Мінск, 1935), «Адкуль паходзіць чалавек» (Мінск, б. г.) С. Матулайціса, «Літоўцы пад прыгнётам фашысцкай Польшчы» (Мінск, 1936) Е. Матулайціс, «Літоўцы ў Савецкай Беларусі» (Мінск, 1935), «Нацыянальна-культурнае будаўніцтва сярод літоўскіх працоўных мас Савецкай Беларусі» В. Скардзіса, «Беларуска-літоўскі і руска-літоўскі тэрміналагічны слоўнік» (Мінск, 1934) В. Копкі і інш. Дзейнічала літоўская секцыя Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (з 1932 г. – Саюз пісьменнікаў БССР), вакол якой гуртаваліся літоўскія пісьменнікі, паэты, літаратары, перакладчыкі [83, с. 27].

У другой палове 30-х гг. XX ст. у СССР адбыўся адыход ад палітыкі, скіраванай на развіццё культур розных этнічных груп. Былі ліквідаваны нацыянальныя калгасы і сельсаветы,

згорнута навукова-даследчая праца, зачынены нацыянальныя школы. Частка літоўцаў БССР, у першую чаргу інтэлігенцыя, сталі ахвярамі масавых рэпрэсій 30-х гг. XX ст. [282, p. 47–120]. Перапіс насельніцтва 1937 г. сведчыць пра змяншэнне колькасці літоўскага насельніцтва ў БССР. Паводле гэтага перапісу, у 1937 г. у БССР пражывалі 5422 літоўцы, што на 20% менш, чым у 1926 г. [39, с. 106–107].

Актыўнае перасяленне літоўцаў з усходніх абласцей Беларусі ў Літоўскую ССР адбылося ў пасляваенныя гады. Так, калі ў 1926 г. колькасць літоўцаў БССР складала 6864 чалавекі, то перапіс насельніцтва 1970 г. зафіксаваў іх у Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абласцях толькі 3483. У 1979 г. колькасць літоўскага насельніцтва ў гэтых абласцях зменшылася да 3168 чалавек. З развіццём індустрыялізацыі і ўрбанізацыі ўзмацнілася міграцыя літоўцаў у гарады. Паводле даных перапісу насельніцтва 1970 г., узровень урбанізаванасці літоўцаў Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей склаў 69% (у 1926 г. – толькі 31%), а ў 1989 г. ён вырас да 74% [67, с. 22, 25, 31, 34].

У пасляваенныя гады ў БССР былі зачынены ўсе літоўскія школы, ліквідаваны літоўскі друк. Была паралізавана дзейнасць каталіцкага касцёла, які традыцыйна меў вялікае значэнне для літоўцаў. Неаднаразова беларускія літоўцы звярталіся з петыцыямі і прашэннямі аб адкрыцці літоўскіх школ да савецкага вышэйшага кіраўніцтва. Нягледзячы на цяжкасці, з якімі прыйшлося сутыкнуцца літоўцам БССР у барацьбе за права навучаць сваіх дзяцей на роднай мове, у 1956–1957 гг. у Воранаўскім і Астравецкім раёнах усё ж былі адчынены 8 літоўскіх школ. Аднак праз некаторы час іх засталося толькі 3 (у вёсках Гіры і Рымдзюны Астравецкага раёна і Пеляса Воранаўскага раёна) [232, p. 18–19; 383, p. 256–257]. Цесныя міжэтнічныя кантакты паміж літоўцамі і беларусамі вялі да паступовай асіміляцыі беларускіх літоўцаў (у першую чаргу моўнай). Свой уплыў на гэты працэс аказалі змяшаныя шлюбы літоўцаў з беларусамі, рускімі і палякамі. У 1950–80-я гг. мэтанакіраванай нацыянальнай

палітыкі ў адносінах да літоўцаў БССР практычна не праводзілася. Апрача некалькіх школ, асноўнай сферай фунцыянавання і захавання літоўскай мовы, якая была выціснута са справаводства і касцёла, засталася сям'я.

Уяўленне пра рассяленне літоўцаў у памежных з Літвой раёнах Беларусі ў сярэдзіне XX ст. даюць палявыя матэрыялы М. Я. Грынблата, сабраныя ім падчас этнаграфічнай экспедыцыі 1954 г. Кампактнае пражыванне літоўскага насельніцтва было зафіксавана даследчыкам у наступных раёнах: Браслаўскім (пра што пазначана: «Групы літоўцаў жывуць у Купчэльскім сельсавеце, на паўднёвым захадзе раёна, у вв. Петкунішкі, Кумпіні, Эйдэмянішкі, Белусішкі, а таксама ў Зарачанскім с/с, у вв. Усяні і Бужані. Весткі райкома адносна літоўцаў у Залескім сельсавеце (вв. Дамашы і Рымашы) пры праверцы на месцы не пацвердзіліся, там аказаліся цалкам асіміляваныя літоўцы, якія даўно страцілі сваю мову і гавораць толькі па-беларуску» [5, арк. 15]), Відзаўскім (цяпер – Браслаўскі) («Паасобныя групы літоўцаў ёсць у Абалеўскім с/с (на паўднёвым захадзе) і ў в. Вайнюнцы (на поўначы), Далёкаўскага с/с. Гавораць яны на літоўскай і беларускай мовах» [4, арк. 51]), Астравецкім («Ёсць частка літоўцаў – у вв. Гервяты і Рымдзюны ва ўсходняй частцы раёна» [3, арк. 38]) і Радунскім (цяпер – Воранаўскі). Наконт рассялення літоўцаў у апошнім раёне этнограф занатаваў: «Літоўцы жывуць пераважна ў вёсках Помедскага сельсавета, у паўднёва-ўсходняй частцы раёна, – у вёсках Новыя і Старыя Друскенікі, Пеляса, Дубінцы і Пелюнцы, а таксама ў в. Бялюнцы, Начскага с/с, на крайнім паўночным захадзе раёна, на граніцы з Літвой. Часткова ў Осаўскім с/с. Мясцовыя літоўцы лічаць, што к поўначы ад рэчкі Пеляса, якая параразае паўднёвую частку раёна і ўпадае ў воз. Пеляса (Літва), яны жылі спрадвеку. Радунскія літоўцы ў асноўным двухмоўныя – гавораць па-літоўску і па-беларуску, частка ўмее і па-польску» [7, арк. 32–33]. Далей адзначалася: «У Начскім сельсавеце жыве частка літоўцаў, – у в. Бялюнцы. З 40 сем'яў, якія жывуць у гэтай вёсцы, каля паловы – літоўцы, другая палова –

беларусы-каталікі. Некаторыя літоўскія дзеці ходзяць у літоўскую школу вёскі Крывілі Варэнскага р. ЛітССР (6 км), частка насельніцтва гэтай вёскі – беларусы» [7, арк. 41]. Нязначныя групы абеларушаных літоўцаў былі адзначаны М. Я. Грынблатам таксама ў Ашмянскім [2, арк. 39; 3, арк. 13–14], Гродзенскім [6, арк. 41] і Васілішкаўскім [7, арк. 17] раёнах Гродзенскай вобласці.

Матэрыялы перапісаў насельніцтва 1959, 1970, 1979, 1989 і 1999 гг. даюць магчымасць паказаць дынаміку дэмаграфічных змен у этнічнай групе літоўцаў Беларусі [67–69]. Паводле даных гэтых перапісаў, на працягу другой паловы XX ст. адбылося агульнае скарачэнне колькасці літоўскага насельніцтва Беларусі (мал. 2.1). З 1959 па 1999 г. колькасць літоўцаў Беларусі скарацілася амаль на 24% [67, с. 16]. Рост іх колькасці адбыўся толькі ў перыяд з 1979 па 1989 г., што ў многім было выклікана высокай інтэнсіўнасцю міжрэспубліканскіх міграцый у гэты перыяд, абумоўленых сацыяльна-эканамічнымі фактарамі.

Колькасныя змены літоўскага насельніцтва па абласцях Беларусі і па г. Мінску ў перыяд з 1970 па 1999 г. у цэлым мелі падобную тэндэнцыю [67, с. 19–37]. Найбольшую дынаміку да змяншэння колькасці літоўскага насельніцтва ў гэты перыяд мелі Гродзенская і Магілёўская вобласці, дзе коль-




Мал. 2.1. Дынаміка колькасці літоўскага насельніцтва Беларусі ў другой палове XX ст.

касць літоўцаў зменшылася на 30%. Пры гэтым найбольш значнае скарачэнне літоўскага насельніцтва адбылося ў раёнах іх традыцыйнага пражывання – Воранаўскім (з 1234 да 716 чалавек, ці на 42%) і Астравецкім (з 2120 да 1045 чалавек, ці на 51%). У Віцебскай вобласці колькасць літоўцаў з 1970 па 1999 г. зменшылася на 20%, у Мінскай – каля 12%, а ў Брэсцкай і Гомельскай – на 5 і 4% адпаведна. Пры гэтым неабходна адзначыць рост колькасці літоўскага насельніцтва па ўсіх абласцях, за выключэннем Гродзенскай, у перыяд з 1979 па 1989 г. (табл. 2.1).

*Табліца 2.1.* **Дынаміка колькасці літоўскага насельніцтва па абласцях Беларусі і г. Мінску ў 1970, 1979, 1989 і 1999 гг.**

| Вобласць | 1970 г. | 1979 г. | 1989 г. | 1999 г. |
|---|---|---|---|---|
| Брэсцкая | 385 | 398 | 509 | 402 |
| Віцебская | 1138 | 1027 | 1079 | 917 |
| Гомельская | 427 | 402 | 707 | 411 |
| Гродзенская | 4224 | 3427 | 3087 | 2964 |
| Магілёўская | 497 | 475 | 643 | 366 |
| Мінская (без уліку г. Мінска) | 664 | 569 | 689 | 583 |
| г. Мінск | 757 | 695 | 892 | 724 |

Характэрнай рысай дэмаграфічных зменаў у структуры этнічнай групы літоўцаў Беларусі ў другой палове XX ст. з'яўляецца змяншэнне ў ёй долі сельскага насельніцтва і павелічэнне гарадскога (мал. 2.2). Такая тэндэнцыя ў гэты перыяд была характэрнай для большасці этнічных груп рэспублікі [67, с. 17–18]. Пры гэтым, калі колькасць гарадскога літоўскага насельніцтва ўпершыню перавысіла колькасць сельскага ў 1989 г. і склала ў працэнтных адносінах 57%, то ў 1999 г. яго доля крыху зменшылася (да 55%) [67, с. 17–18].

Змены ў полаўзроставай структуры літоўцаў Беларусі ў другой палове XX ст. характарызуюцца пастаяннай перавагай (за выключэннем 1959 г.) мужчынскага насельніцтва над жаночым [67, с. 46–47]. Так, калі ў 1959 г. 48,7% літоўцаў Беларусі складалі мужчыны, а 51,3% – жанчыны, то ў 1999 г.




Мал. 2.2. Дынаміка ўрбанізацыі літоўскага насельніцтва Беларусі ў другой палове XX ст.

гэтыя паказчыкі былі ўжо 52,1 і 47,1% адпаведна. Пры гэтым мужчынскае насельніцтва пераважае ў структуры як гарадскога (52,6%), так і сельскага (51,2%) літоўскага насельніцтва Беларусі [67, с. 48–51]. Гэта асаблівасць полаўзроставай структуры літоўскай этнічнай групы Беларусі (перавага мужчынскага насельніцтва над жаночым) асабліва кантрастуе на фоне полаўзроставай структуры ўсяго насельніцтва Рэспублікі Беларусь, а таксама найбуйнейшых этнічных груп (беларусаў, рускіх, палякаў, украінцаў), у якіх колькасна пераважае жаночае насельніцтва [67, с. 46–47].

Дэмаграфічная характарыстыка ўзроставай структуры літоўскага насельніцтва Беларусі выглядае асабліва неспрыяльнай на фоне найбуйнейшых этнічных груп рэспублікі. Паводле даных перапісу 1999 г., моладзь ва ўзросце да 19 гадоў уключна складала толькі 16,4% літоўцаў Беларусі, у той час як у беларусаў, рускіх і палякаў – 29,2, 20,1 і 21,4% адпаведна. Колькасць асоб працаздольнага ўзросту ад 20 да 59 гадоў у 1999 г. склала сярод літоўцаў Беларусі 58,5%, ад 60 гадоў і старэй – 25,1% [68, с. 8–9].

Паводле даных перапісу 1999 г., працэнт літоўцаў, якія знаходзіліся ў шлюбе, сярод мужчын склаў 73,0%, сярод жанчын – 60,9% [68, с. 350]. Гэтыя паказчыкі выглядаюць трохі вышэй, чым у іншых этнічных груп Беларусі: у беларусаў –

64,3 і 55,6%, рускіх – 70,1 і 57,5%, палякаў – 70,0 і 57,8% адпаведна [68, с. 344–346]. У 1999 г. сярод літоўцаў Беларусі ніколі не былі ў шлюбе 16,8% мужчын і 11,4% жанчын, удовых налічвалася 4,3 і 18,9% адпаведна, разведзеных – 5,6% сярод мужчын і 8,5% сярод жанчын [68, с. 350]. Агульны паказчык разведзеных сярод беларускіх літоўцаў (7%) ніжэйшы, чым у беларусаў (7,8%), рускіх (10,8%), украінцаў (8,7%), аднак саступае аналагічнаму паказчыку сярод палякаў Беларусі (5,8%) [68, с. 344–350].

Калі ў 1897 г. працэнт пісьменнага літоўскага насельніцтва Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў складаў толькі каля 24,5%, то ў 1926 г. сярод літоўцаў БССР ён ужо дасягнуў 60,8% [38, с. 9; 117, с. 76–79; 118, с. 116–119; 119, с. 146–149; 121, с. 112–115; 122, с. 132–135]. У пасляваенны перыяд узровень пісьменнасці літоўцаў, як і іншых этнічных груп Беларусі, наблізіўся да 100%. Галоўнымі крытэрыем ацэнкі ўзроўню адукацыі стала наяўнасць базавай, сярэдняй і вышэйшай адукацыі. Паводле даных перапісу 1999 г., пачатковую адукацыю мелі 20,8% беларускіх літоўцаў (ва ўзросце 15 гадоў і старэй); сярэднюю і базавую адукацыю – 67,7%; вышэйшую – 10,4% [68, с. 147]. Па ўзроўню вышэйшай адукацыі літоўцы знаходзяцца паміж беларусамі (12%) і палякамі (8,9%) і значна саступаюць яўрэям (40,5%), рускім (26,1%), украінцам (22,1%) і татарам (22,1%) [68, с. 146–147].

У 1999 г. літоўскую мову роднай назвалі каля 52% усіх літоўцаў Беларусі [67, с. 211–213]. Гэты паказчык у гарадскога літоўскага насельніцтва ніжэйшы – 41%, а ў сельскага вышэйшы – 65% (мал. 2.3).

Беларускую мову роднай назвалі 21% літоўцаў Беларусі. Яшчэ больш літоўцаў роднай прызналі рускую мову – 26%. Колькасць літоўцаў, якія назвалі ў 1999 г. роднай мовай літоўскую, у параўнанні з 1959 г. зменшылася на 25%, у той час як беларускую і рускую мовы прызналі роднымі на 11 і 15% літоўцаў больш адпаведна (мал. 2.4, 2.5). Такая дынаміка гэтых паказчыкаў сведчыць пра паступовую моўную асіміля-




Мал. 2.3. Размеркаванне гарадскога і сельскага літоўскага насельніцтва Беларусі па роднай мове, 1999 г.




Мал. 2.4. Размеркаванне літоўцаў Беларусі па роднай мове, 1959 г.




Мал. 2.5. Размеркаванне літоўцаў Беларусі па роднай мове, 1999 г.

цыю беларускіх літоўцаў, якая ў многім была звязана з іх актыўнай урбанізацыяй у гэты перыяд.

У якасці мовы, на якой звычайна размаўляюць дома, літоўскую мову ў 1999 г. назвалі толькі 15% усіх літоўцаў Беларусі [67, с. 303–305]. Пры гэтым літоўцы-гараджане карыстаюцца ёй у побыце значна менш (толькі каля 3%), чым літоўцы-вяскоўцы (каля 30%). Сельскае літоўскае насельніцтва дома

найчасцей ужывае беларускую мову (39%), у той час як гарадское літоўскае насельніцтва – рускую (81%) (мал. 2.6). Высокі ўзровень ужывання ў побыце літоўцамі рускай і беларускай моў (58 і 25% адпаведна) гаворыць аб іх значнай інтэграцыі ў моўнае асяроддзе Беларусі.

Выразнае несупадзенне паказчыкаў роднай і размоўнай моў у гарадскога і сельскага літоўскага насельніцтва Беларусі (мал. 2.7) сведчыць пра больш трывалае захаванне моўных асаблівасцей найперш сельскім літоўскім насельніцтвам, у той




Мал. 2.6. Размеркаванне літоўцаў Беларусі па мове, на якой яны звычайна размаўляюць дома, 1999 г.




Мал. 2.7. Размеркаванне гарадскога і сельскага літоўскага насельніцтва Беларусі па роднай і размоўнай мовах, 1999 г.

час як гарадское літоўскае насельніцтва значна больш схільнае да моўнай асіміляцыі.

Паводле перапісу 1999 г., другой мовай, якой свабодна валодаюць, 10,5% літоўцаў Беларусі назвалі літоўскую, 18,4% – беларускую, 13,7% – рускую, 3,8% – польскую, 1,2% – англійскую, 0,6% – нямецкую, 0,2% – украінскую, 0,8% – іншую [67, с. 348–349].

Пасля аднаўлення незалежнасці Літоўскай Рэспублікі ў пачатку 1990-х гг. літоўскім урадам была выпрацавана новая канцэпцыя ў адносінах да сваіх супляменнікаў, якія жывуць у Рэспубліцы Беларусь. Пры яго актыўнай дапамозе ў Астравецкім і Воранаўскім раёнах былі заснаваны сучасныя літоўскія культурна-асветніцкія цэнтры на базе дзвюх сярэдніх школ з літоўскай мовай навучання (у вёсках Рымдзюны і Пеляса). Дзейнічаюць таксама нядзельныя школы па вывучэнні літоўскай мовы: у Мінску, Гродне, Лідзе, Браслаўскім, Воранаўскім і Астравецкім раёнах. Пры 20-й Мінскай гарадской бібліятэцы адкрыта літоўская чытальня [29, с. 518].

З 1994 г. галоўная роля ў аб'яднанні літоўцаў Беларусі і стварэнні ўмоў для іх нацыянальнага развіцця належыць Рэспубліканскаму грамадскаму аб'яднанню (РГА) «Беларуская абшчына літоўцаў», аснову якой складаюць першасныя арганізацыі (раённыя, гарадскія і абласныя). У 1994 г. былі створаны Пеляская і Гервяцкая абшчыны літоўцаў, у 1995 г. – Гродзенская, у 1998 г. – Браслаўская, у 2004 г. – Астравецкая. У 1995 г. створана аб'яднанне літоўцаў Гродзенскай вобласці «Tėvynė» («Бацькаўшчына»). Існуюць таксама нефармальныя аб'яднанні літоўцаў Пелясы «Gimtinė» («Радзіма»), Жырмунскі клуб літоўцаў (Воранаўскі раён), літоўцаў Ліды «Rūta» («Рута»), Рэчыцы, Баранавічаў. Выхадцы з літоўскіх вёсак Беларусі заснавалі ў Літве зямляцкія клубы «Gervėčiai» («Гервяты»), які аб'ядноўвае літоўцаў – выхадцаў з Гервяцкага краю (Астравецкі раён), і «Beržynas» («Беразняк»), вакол якога гуртуюцца літоўцы – выхадцы з усходніх раёнаў Беларусі (у першую чаргу – з в. Малькаўка Мсціслаўскага раёна). Члены клубаў ладзяць сустрэчы, юбілеі, вечарыны,

а таксама арганізоўваюць вандроўкі ў свае родныя мясціны ў Беларусі. РГА «Беларуская абшчына літоўцаў» штогадова арганізуе святкаванні Дня аднаўлення літоўскай дзяржаўнасці (16 лютага), Дня аднаўлення незалежнасці Літвы (11 сакавіка), Грунвальдскай бітвы (15 ліпеня) і каранацыі Міндоўга (Дня Літоўскай дзяржавы) (6 ліпеня). Асвятленнем жыцця беларускіх літоўцаў займаецца штомесячная газета «Lietuvių godos» («Мары літоўцаў»), якая выдаецца з 1993 г. у Вільнюсе. З 1999 г. РГА «Беларуская абшчына літоўцаў» выдае інфармацыйны бюлетэнь «Mūsų žodis» («Наша слова») [29, с. 518].

# *Глава 3*

# МОВА І ТРАДЫЦЫЙНАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЛІТОЎЦАЎ

## 3.1. Гутарковая мова

У цяперашні час родная мова ўжываецца беларускімі літоўцамі пераважна ў сферы хатняга побыту. Звычайна ёю карыстаюцца людзі старэйшага ўзросту, галоўным чынам сяляне (гл. мал. 2.7). Носьбітаў літоўскай мовы ў Беларусі ўмоўна можна падзяліць на дзве асноўныя групы. Па-першае, гэта жыхары, якія нарадзіліся і выраслі ў літоўскіх вёсках Беларусі. Для іх характэрны мясцовыя дыялекты літоўскай мовы. Па-другое, гэта літоўцы-мігранты, якія прыбылі ў Беларусь у розны час. Яны часта паралельна карыстаюцца літаратурнай літоўскай мовай і традыцыйнымі гаворкамі сваёй мясцовасці. Многія літоўцы Беларусі ў грамадскім жыцці, а таксама пры зносінах паміж сабой усё часцей ужываюць беларускую або рускую мовы (гл. мал. 2.6). Практычна ва ўсіх узроставых групах, за выключэннем, бадай, самага малодшага пакалення, захавалася здольнасць разумець і літоўскую, і славянскія (беларускую, рускую, а ў некаторых выпадках і польскую) мовы. Сярод мясцовага літоўскага насельніцтва нярэдкай з'яўляецца практыка «крэалізацыі» сваёй мовы, якая злучае гетэрагенныя моўныя элементы – літоўскія, беларускія, польскія, рускія.

Літоўская мова належыць да балцкай групы індаеўрапейскай моўнай сям'і, якую складаюць літоўская, латышская і мёртвая пруская мовы. Знаходзячыся ў баку ад асноўных цэнтраў і шляхоў змешвання народаў, балты здолелі захаваць архаічныя рысы мовы старажытных індаеўрапейцаў. Асаблівае месца сярод іх займае літоўская мова, якая

шэрагам лінгвістаў прызнана найменш змененай з усіх індаеўрапейскіх моў і найбольш блізкай да рэканструяванай навукоўцамі праіндаеўрапейскай мовы. Напрыклад, у літоўскай мове захаваліся праіндаеўрапейскія канчаткі *-as*, *-is*, *-us*, адрозненне галосных па даўгаце-кароткасці, большасць старажытных дыфтонгаў, у той час як у славянскіх мовах яны ператварыліся ў манафтонгі. Літоўская мова захавала ад індаеўрапейскай эпохі складаную граматычную сістэму, якая шмат у чым агульная са славянскай: 2 роды і 5 скланенняў назоўнікаў, парны лік, 7 склонаў, у тым ліку клічны, множныя лічэбнікі, акрамя колькасных, парадкавых і дробавых; ускосны лад дзеяслова, акрамя абвеснага, умоўнага і загаднага, складаная сістэма формаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў у залежнасці ад часу, трывання і стану; ужыванне дзеепрыметнікаў у ролі выказніка (што было перанята некаторымі суседнімі беларускімі гаворкамі), архаічныя сінтаксічныя звароты тыпу давальны самастойны і інш. Месны склон у літоўскай мове ўжываецца без прыназоўнікаў, напрыклад *mokykloje* «у школе», *namuose* «у дамах». Некалі існавала чатыры тыпы гэтага склону, два з якіх захаваліся толькі ў літоўскіх гаворках на тэрыторыі Беларусі. У літоўскай мове ўжываюцца дзве разнавіднасці прошлага часу – аднакратны і шматкратны. Дзеясловы маюць тры спражэнні, простыя і складаныя формы (утвараюцца шляхам спалучэння дапаможнага дзеяслова *būti* «быць» з дзеепрыметнікамі). Апрача дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў, якія маюць усе чатыры формы часу, ёсць паўдзеепрыметнікі. З сінтаксічных асаблівасцей вылучаецца родны прыналежны склон у функцыі прыметніка, дзеепрыслоўе ў ролі дапаўнення, разнастайныя канструкцыі з дзеепрыметнікамі. У лексіцы літоўскай мовы вылучаюцца індаеўрапейскі, балта-славянскі, балцкі і ўласна літоўскі пласты. У выніку этнакультурнага ўзаемадзеяння ў беларускую мову з літоўскай трапілі такія словы, як *дзёгаць*, *клуня*, *дойлід*, *рэзгіны*, *сцірта*, *парсюк* і інш. У літоўскай мове шмат запазычанняў са славянскіх моў (каля 1,5%), у тым ліку з беларускай або праз беларускую: *bulvė*

«бульба», *ktynas* «кмен», *kubilas* «кубел», *baravykas* «баравік» і інш. Акрамя лексікі, літоўская і беларуская мовы маюць таксама пэўныя агульныя рысы ў фанетыцы, марфалогіі і сінтаксісе. Гэта пазіцыйная мяккасць зычных, ятацыя пры збегу галосных, клічны склон, параўнальная ступень прыметнікаў і прыслоўяў з прыназоўнікам *за*, асобная форма загаднага ладу для выражэння сумеснага дзеяння, пераважнае ўжыванне роднага склону з адмоўем, канструкцыя з дзеясловам *мець* і іншыя асаблівасці [31, с. 314–315; 145, с. 208–209].

Шэрагам адметных рыс вылучаюцца літоўскія гаворкі Беларусі. Ужо ў канцы XIX – пачатку XX ст. беларускімі літоўцамі, якія захоўвалі многія архаічныя асаблівасці сваёй мовы, пачалі цікавіцца балтысты-мовазнаўцы з розных краін. Так, ваколіцы Дзятлава, Лаздунаў, Гервятаў, Пелясы і іншых месцаў кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва Беларусі з мэтай збору дыялекталагічнага матэрыялу наведалі вучоныя Э. Вольтэр [375], Я. Развадоўскі [320], П. Арумаа [199], Э. Фрэнкель [230], О. Брок [208], Хр. С. Станг [344], Т. М. Суднік [160], А. Відугірыс [370] і інш.

Збору дыялекталагічнага матэрыялу сярод літоўскага насельніцтва памежных з Літвой раёнаў Беларусі былі прысвечаны і палявыя экспедыцыі 1950–90-х гг. Між тым, у шэрагу месцаў традыцыйнага функцыянавання літоўскай мовы, перш за ўсё ў Ашмянскім, Гродзенскім, Дзятлаўскім, Іўеўскім і Пастаўскім раёнах, у XX ст. завершылася апошняя стадыя моўнай асіміляцыі мясцовага літоўскага насельніцтва. Дадзены факт быў зафіксаваны падчас экспедыцыйных даследаванняў лінгвістаў. У першую чаргу моўная асіміляцыя закранула найбольш аддаленыя ад Літвы анклавы пражывання літоўскага насельніцтва – вёскі Засецце, Погіры і Нарцэвічы ў Дзятлаўскім раёне, вёскі ў наваколлі Лаздунаў у Іўеўскім раёне. Падобны лёс напаткаў і шэраг літоўскіх вёсак ва ўсходніх і цэнтральных раёнах Беларусі: у Полацкім (в. Усомля), Дрыбінскім (в. Суслаўка), Чавускім (в. Каралёўка), Магілёўскім (в. Сафійск), Мсціслаўскім (в. Малькаўка), Барысаўскім (в. Сівіца) і інш. Праведзенае аўтарам падчас

этнаграфічных экспедыцый абследаванне паказала, што большасць жыхароў гэтых населеных пунктаў ужо не валодаюць літоўскай мовай. Многія жыхары яшчэ памятаюць, што на літоўскай мове размаўлялі іх бацькі і дзяды, якія ў канцы XIX ст. перасяліліся сюды з Літвы. Найбольшая колькасць інфарматараў, здольных размаўляць па-літоўску, выяўлена ў в. Малькаўка (больш за 10 чалавек). У ваколіцах мястэчка Лаздуны (Іўеўскі р-н) частка мясцовых жыхароў да гэтага часу называюць сябе літоўцамі, аднак па-літоўску не размаўляюць. Многія з іх яшчэ памятаюць пра тое, што на літоўскай мове размаўлялі іх бацькі і дзяды. Пры гэтым у адносінах да нашчадкаў асіміляваных літоўцаў усё яшчэ выкарыстоўваецца мікраэтнонім «жагуны» [8, арк. 4].

Адным з традыцыйных месцаў функцыянавання літоўскіх гаворак з'яўляюцца літоўскія пасяленні ў Астравецкім і Воранаўскім раёнах Гродзенскай вобласці. Паводле сучаснай дыялектнай класіфікацыі літоўскай мовы З. Зінкявічуса – А. Гірдзяніса, гервяцкая літоўская гаворка (абазначэнне прынята па найбуйнейшым літоўскім населеным пункце ў Астравецкім раёне, парафіяльным цэнтры – мястэчку Гервяты) уваходзіць ва ўсходнеаўкштайцкі дыялект літоўскай мовы (паводле старой класіфікацыі А. Саліса – К. Яўніса – ва ўсходнедзукскі). Да гэтага самага дыялекту належаць літоўскія гаворкі ўсходняй часткі Літоўскай Рэспублікі (населеных пунктаў Смалвос, Дукштас, Швянчоніс, Пабрадзе, Майшогала, Вільнюс, Дзевянішкес), а таксама гаворкі (у тым ліку зніклыя) часткі літоўцаў паўночна-заходняй Беларусі (Браслаўскага, Пастаўскага, Астравецкага, Ашмянскага і Іўеўскага раёнаў). Агульнае, што іх аб'ядноўвае (і ў той жа час адрознівае ад жэмайцкіх і заходнеаўкштайцкіх груп гаворак літоўскай мовы), – тое, што пад уплывам беларускага моўнага элементу замест зычных *t*, *d*, *tv*, *dv* перад *i*, *y*, *ie* усходнія літоўцы вымаўляюць *c*, *dz*, *cv*, *dzv* (напрыклад, *marci* замест *marti* «нявестка», *dziena* замест *diena* «дзень», *dzvi* замест *dvi* «дзве» і інш.) [249, р. 232; 267, р. 36]. Для гэтых жа гаворак характэрна даволі заканамернае ацвярдзенне зычных (най-

перш, *l*, а таксама *s*, *š*, *r*) перад *e*, *ė*, *ei*, *i* (напрыклад, *žolė* замест *žolė* «трава, зёлка», *krəslas* замест *krėslas* «крэсла», *šъmtas* замест *šimtas* «сто» і інш.), што таксама тлумачыцца беларускім моўным уплывам [249, p. 232–233; 267, p. 38].

Для гервяцкай гаворкі характэрны пераход змешаных двухгучных *am*, *an*, *em*, *en* у *um*, *un*, *im*, *in* (напрыклад, *runka* замест *ranka* «рука», *kumpas* замест *kampas* «кут» і інш.) і многія іншыя фанетычныя асаблівасці [249, p. 232]. Да спецыфічных марфалагічных рыс, якія вылучаюць гервяцкую гаворку на агульналітоўскім фоне, належыць ужыванне ў назоўніках мужчынскага роду ў давальным склоне адзіночнага ліку старажытнага канчатку *-uo* (замест літоўскага літаратурнага *-ui*; напрыклад, *broliuo* замест *broliui* «брату», *lietuo* замест *lietui* «дажджу», *kumeliuo* замест *kumeliui* «жарабцу» і інш.) [249, p. 234; 267, p. 39]. Акрамя таго, гервяцкая гаворка адрозніваецца ад іншых літоўскіх гаворак не толькі фанетыкай і марфалогіяй, але і лексікай. Да спецыфічных словаў у першую чаргу можна аднесці вялікую колькасць словаўгібрыдаў, а таксама прамых запазычанняў з беларускай мовы (напрыклад, замест літоўскага літаратурнага *pietūs* «абед» мясцовыя літоўцы кажуць *abiedinos*, замест *debesys* («аблокі») – *ablakai*, *žiūrėti* («глядзець») – *gledzėti*, *barščiai* («бацвінне») – *batviniai*, *degtinė* («гарэлка») – *arielka*, *vestuvės* («вяселле») – *veseilė* і інш.) [384].

Не менш адметнай з'яўляецца літоўская гаворка Воранаўшчыны. Яна адносіцца да паўднёвааўкштайцкага дыялекту (паводле класіфікацыі А. Саліса – К. Яўніса – да заходнедзукскага). У ёй, у адрозненне ад гервяцкай гаворкі, двухгучныя *am*, *an*, *en*, *em* застаюцца самімі сабой, а насавыя *ą*, *ę* пераходзяць у *u*, *i* (напрыклад, *kusnis* замест літоўскага літаратуранага *kąsnis* «кавалак», *žusis* замест *žąsis* «гусь» і інш.) [231, p. 566]. Характэрнае для гэтай гаворкі – дзеканне (напрыклад, *Dzievas* замест літоўскага літаратурнага *Dievas* «Бог», *cėvas* замест *tėvas* «бацька» і інш.) [231, p. 569]. Як і гервяцкая, пеляская гаворка таксама зведала марфалагічны і лексічны ўплыў мясцовай беларускай мовы. Так, замест

літоўскага літаратурнага *drabužiai* («адзенне») тут ужываецца *adzieža*, *stiprus* («моцны») – *macnas*, *lobis* («скарб») – *skarbas*, *kalba* («мова») – *ūtarka*, *debesis* («хмара») – *kmūra*, *pastatyti* («пабудаваць») – *pabudavoti* і г. д. [385]. У мове мясцовага літоўскага насельніцтва захавалася таксама нямала архаізмаў і дыялектызмаў. Да іх можна аднесці ўжыванне словаў *dievaitis* (утворанае ад літ. *Dievas* «Бог») у значэнні *mėnuo* («месяц»), *draugė* (ад літ. *draugas* «сябар») у значэнні *šeima* («сям'я») (параўн. бел. дыял. дружына) і інш. [349, p. 590–597].

Галоўную прычыну і першапачатковы імпульс унікальнай устойлівасці літоўскай гаворкі ў ваколіцах Пелясы многія даследчыкі бачаць у перадгісторыі літоўцаў-*барцякоў*, а менавіта, у той ролі, якую адыграў у іх фарміраванні заходнебалцкі, у прыватнасці барцянскі і скаловенскі этнічны кампаненты. Да ліку лінгвістычных аргументаў на карысць гэтага меркавання можна аднесці шэраг фанетычных архаізмаў, якія суадносяцца з рысамі заходнебалцкага тыпу. У першую чаргу гэта так званае саканне – вымаўленне *s*, *z* замест *š*, *ž*, а таксама замена *t'*, *d'* на *k'*, *g'* у пазіцыі перад галоснымі *e*, *ė*, *i*, *ie*, мена *u* на *i* (напрыклад, *žuvis*: *žyvis* «рыба», *Rodūnia*: *Rodinia* «Радунь» і інш.) [161, с. 131–133; 162, с. 184–186; 309, s. 353–357].

Сярод зніклых літоўскіх гаворак Беларусі найбольшую цікавасць уяўляе традыцыйная гаворка літоўцаў Дзятлаўшчыны. Яе адметнасць выклікана ўнікальнымі асаблівасцямі, галоўным чынам фанетычнымі архаізмамі, а таксама фактам найбольшай аддаленасці ад мацерыка літоўскай мовы. Многія даследчыкі выказалі думку аб магчымых слядах у гэтай гаворцы страчанага заходнебалцкага (прускага або яцвяжскага) дыялекту, што даволі сугучна гістарычным сведчанням пра перасяленне прусаў у гэты рэгіён у XIII–XIV стст. [36, с. 151–160; 113, с. 7–8; 160, с. 144]. Галоўнымі прыкметамі заходнебалцкага моўнага ўплыву ў гаворцы літоўцаў Дзятлаўшчыны з'яўляюцца фанетычныя асаблівасці: вымаўленне *z* замест *ž*, найперш, у слове *zasis* замест літоўскага *žasis* («гусь»), а таксама *baznyčia* замест *bažnyčia* («касцёл,

царква, бажніца»), *zvèris* замест *žvèris* («звер») і інш. [36, с. 157; 113, с. 8]. Нават вядомы літоўскі мовазнавец А. Відугірыс, які даволі скептычна ставіцца да гіпотэзы заходнебалцкага паходжання мясцовых літоўцаў, усебакова прааналізаваўшы іх гаворку, урэшце зрабіў выснову: «Хоць мноства яе (гаворкі. – *Ю. В.*) асаблівасцей цесным чынам звязаны з паўднёвым аўкштайцкім паддыялектам, аднак паводле асноўных рысаў, асабліва фанетычных, яна больш блізкая да заходнеаўкштайцкіх гаворак (як у Вялікай, так і ў Малой Літве). Сваімі каранямі дзятлаўская гаворка, напэўна, сягае яшчэ ў падпласт судоваў (яцвягаў), якія тут калісьці пражывалі» [370, p. 33].

## 3.2. Духоўная культура

Адной з найбольш багатых частак духоўнай культуры беларускіх літоўцаў з'яўляецца каляндарная абраднасць. Яна адлюстроўвае практычна ўсе бакі чалавечай дзейнасці і стварае выдатную магчымасць для прасочвання этнічных, лакальных і храналагічных асаблівасцей. Характэрная рыса як літоўскай, так і беларускай каляндарнай абраднасці заключаецца ў наяўнасці ў ёй язычніцкіх і хрысціянскіх элементаў, у цесным іх перапляценні і ўзаемадзеянні [15, с. 445; 225, p. 5–14].

Паводле рэлігійнай прыналежнасці пераважная большасць беларускіх літоўцаў з'яўляюцца каталікамі, таму часовая прымеркаванасць літоўскіх рэлігійна-каляндарных свят і абрадаў вызначаецца каталіцкім календаром. Значная колькасць рэлігійнай лексікі (у тым ліку назвы буйнейшых каляндарных свят – Калядаў (літ. *Kalėdos*), Вялікадня (літ. *Velykos*), Сёмухі (літ. *Sekminės*)) была перанята літоўцамі ад усходнеславянскага насельніцтва яшчэ ў часы ВКЛ [177, с. 212]. У сваю чаргу станаўленне каталіцтва ў ВКЛ было звязана з хрышчэннем Літвы ў канцы XIV ст. Гэта абумовіла фактычную ідэнтычнасць рэлігійнага календара літоўцаў і беларусаў-каталікоў. Земляробчы характар гаспадарчай дзейнасці, аднолькавыя ўмовы пражывання (гістарычныя, сацыяльна-экана-

мічныя, прыродна-геаграфічныя і інш.), а таксама актыўныя этнакультурныя кантакты на працягу доўгага часу прадвызначылі падабенства народнага календара мясцовых літоўцаў і беларусаў. У абодвух народаў каляндарная абраднасць самым цесным чынам была звязана з гаспадарчай дзейнасцю: жаданнем кожнага селяніна забяспечыць багаты ўраджай, ад якога залежаў дабрабыт кожнай сям'і і вясковага калектыва ў цэлым [15, с. 445; 225, р. 6–8].

Галоўнае зімовае свята **Каляды** (літ. *Kalėdos*) (паводле каталіцкага календару пачынаецца 25 снежня) яшчэ ў першай палове XX ст. святкавалася беларускімі літоўцамі чатыры дні. Яму папярэднічала адмысловая абрадавая вячэра – **Куцця** (літ. *Kūčios*). У гэты дзень (24 снежня) літоўцы прытрымліваліся сухога посту, мыліся ў лазні, у кожнай хаце наводзілася чысціня, гатаваліся святочныя стравы. Святочны стол усцілаўся спачатку сенам, адмыслова для гэтага прынесеным гаспадаром, потым накрываўся белым ільняным абрусам. Частка сена клалася ў покуць [257, р. 35–36; 258, р. 24]. Важным атрыбутам стала з'яўлялася грамнічная свечка (*grabnyčia*). Сімвалічнае значэнне мела колькасць посных страў – 12. На стол ставілася куцця (*kūčia*), слізікі (*sližikai*), пірагі, цёрты мак, аўсяны кісель, грыбы, рыба і інш. Са з'яўленнем першай зоркі на небе ўся сям'я сядала за стол. З усіх страў першай пачыналі есці куццю (ячную кашу), якую мусіў пакаштаваць кожны член сям'і (пачынаючы ад гаспадара). Побач з абрадавым частаваннем куццёй сустракаўся сярод беларускіх літоўцаў і звычай дзяльбы хлебам [293, р. 347]. У гэты вечар літоўскія гаспадары ішлі слухаць пчол, прадказвалі па небе будучы ўраджай, сачылі за паводзінамі свойскай жывёлы і г. д. Яны, як і беларусы, запрашалі на куццю мароз, прыгаварваючы: «*Мароз, мароз, ідзі куццю есці*» («*Šalci, šalci, eikit kūčios valgyc*») [227, р. 82]. Падчас святочнай вячэры абавязкова паміналі нябожчыкаў-родзічаў, пакідаючы ім на ноч на стале недаедзеныя стравы. Зранку сена з-пад святочнага стала аддавалася каровам, рэшткі куцці – курам [293, р. 334–335]. Падобныя звычаі святкавання перад-

каляднага вечара існавалі не толькі ў беларусаў, але і ў іншых славянскіх народаў [16, с. 387–390].

Першы дзень Каляд літоўцы імкнуліся правесці ў сям'і («*нікуды не хадзілі, бо скаціна, куры не будзе, выведуцца. Будзе ўшчэрб у гаспадарцы*» [8, арк. 3]) і толькі на другі дзень пачыналі хадзіць адзін да аднаго ў госці. Першыя тры дні Каляд – **«святыя вечары»**. Гэты час, як і ў цэлым калядны перыяд (да Трох Каралёў), быў звязаны з цэлым шэрагам забаронаў (з захадам сонца забаранялася прасці, шыць, малоць і г. д.). Лічылася, што іх парушэнне прыводзіла да немінучых страт у гаспадарцы. У гэтыя дні літоўская моладзь збіралася ў хатах, гуляла ў *фанты*, распавядала казкі і інш. **Новы год** (1 студзеня) у літоўскім каталіцкім асяроддзі да сярэдзіны XX ст. амаль не адзначаўся. Толькі ў некаторых сем'ях Браслаўшчыны напярэдадні Новага года рыхтавалі другую, «тлустую» куццю, гэтым разам з мяснымі стравамі [257, p. 39]. Аднадзённым святам, якое суправаджалася відовішчным народным прадстаўленнем, былі **Тры Каралі** (6 студзеня). У гэты дзень па вёсцы з калядной зоркай хадзілі пераапранутыя. У касцюміраваным шэсці звычайна ўдзельнічалі «тры каралі», «чорт» і «яўрэй» [258, p. 26; 293, p. 347–348]. Некаторыя літоўцы Браслаўшчыны рабілі напярэдадні гэтага свята трэцюю куццю – «багатую» (*«bagota kūčia»*) [257, p. 39].

Пасля Трох Каралёў пачынаўся **мясаед** (літ. *mėsiedas*; у літоўцаў Браслаўшчыны – *tasavedas*). Яго заканчэнне абазначалі **Запусты**, або **Загавіны** (літ. *Užgavėnės*). Пасля іх пачынаўся Вялікі пост. Мясаед успрымаўся беларускімі літоўцамі як найлепшы час для хрэсьбінаў і вяселляў. Запусты святкаваліся тры «тлустыя» дні. Падчас іх літоўцы варылі квашаніну (*kvošeniena*), мяса, пяклі бліны, яечню, варылі аўсяны кісель. У гумне або проста ў хаце дзяўчаты і жанчыны гушкаліся на арэлях: «*каб лён добры ўрадзіў*» [258, p. 27]. Лічылася неабходным паездзіць у гэтыя дні на конях вакол сваёй вёскі або да суседняй вёскі («*Чым далей ад'едзіш, тым даўжэйшы лён вырасце*» [257, p. 40]). Цікавы эпізод, зафіксаваны сярод літоўцаў Відзаўскага раёна ў 1954 г.,

апісвае А. Вішняўскайтэ: «Ёсць звычай у гэты дзень раз'язджаць, каб лён добра ўрадзіў. Раней ездзілі на конях, а цяпер проста на санках з горачкі. Раз'язджаючы, спяваюць па-беларуску: «*Цёмная ночка, ясная зарыца...*». На коней вешалі бразготкі і раз'язджалі хлопцы з дзеўкамі» [1, арк. 37]. У гэты ж час літоўская моладзь збіралася на вячоркі, каб паспяваць і патанчыць. Улюбёнай забавай дзяцей былі свіныя косткі. Нанізаныя на нітку, яны пры раскручванні выдавалі спецыфічны гук. Завяршала Запусты **Папяльцовая серада** (*Pelenija*, *Pelenų sėrada*, або *Papielčius*), калі ксёндз пасыпаў вернікам галаву попелам. Многія літоўцы бралі попел у хусцінку і дома пасыпалі ім галаву дзецям і тым, хто не прысутнічаў на святочнай службе [258, p. 27; 293, p. 337].

На **Грамніцы** (літ. *Grabnyčios*) (2 лютага) беларускія літоўцы, як і іншыя каталікі Беларусі, асвячалі ў касцёле свечкі. Пасля асвячэння свечкі называліся грамнічнымі (літ. *grabnyčia*). Шэраг звычаяў і магічных дзеянняў, звязаных з выкарыстаннем грамнічнай свечкі, меў практычна аднолькавы сэнс і характар як у беларускіх літоўцаў, так і ў беларусаў (запальванне іх падчас навальніцы, абпальванне валасоў на галаве і г. д.) [15, с. 471–472; 293, p. 349]. Увогуле святкаванне зімовых свят у абодвух народаў у даследуемым рэгіёне практычна нічым не адрознівалася паміж сабой [168, с. 31–73; 169, с. 32–65].

**Звеставанне** (25 сакавіка) у беларускіх літоўцаў мела шмат агульных рысаў з аналагічным святам беларусаў. Аб гэтым сведчаць нават назвы яго ў іх мовах. Так, сярод літоўцаў Пеляскага краю вядома назва *Zviestavonia* [8, арк. 2], а ў літоўцаў Браслаўшчыны – *Bloviešćiai* [258, p. 44]. На Звеставанне існавала строгая забарона на ўсе віды хатняй работы і працы на зямлі. Беларускія літоўцы лічылі, што ў гэты дзень нават птушкі гнязда не ўюць [257, p. 44; 258, p. 27] (параўн. у беларусаў: «*Кажуць жа, у гэты дзень і птушка гнязда не ўець*» [169, с. 96]). Як і ў беларусаў, у беларускіх літоўцаў існавала павер'е, што на Звеставанне прылятаюць буслы, дзеля чаго пякліся адмысловыя абрадавыя «бацяновыя» пірагі

(*kukelės*) [227, p. 82]. Лічылася, што ў гэты дзень на паверхню выпаўзаюць гадзюкі, вужы і іншыя паўзуны, таму нельга ісці ў лес і прыносіць адтуль што-небудзь («*Не прынесці толькі палкі адкуль-небудзь, бо гада прыклічаш. Прачыхаюцца гадзіны*» [8, арк. 2]). Ідэнтычныя забароны, прыкметы і павер'і, звязаныя з гэтым святам, шырока бытавалі і ў беларусаў [16, с. 419–420; 168, с. 85–86; 169, с. 95–101].

**Вербная нядзеля** (літ. *Verbų sekmadienis*), якая адзначаецца за тыдзень да Вялікадня, таксама мела нямала агульных рысаў з аналагічным святам беларусаў-каталікоў. У гэты дзень літоўцы ішлі да касцёла з галінкамі вярбы і ядлоўца, упрыгожанымі разнастайнымі кветкамі і стужкамі. Асвячоныя вербы неслі з касцёла ў хату, дзе іх утыкалі за бэлькі або ставілі ў покуць і захоўвалі на працягу ўсяго года. Леташнія вербы звычайна спальваліся. Галінкі асвячонай вярбы ў беларускіх літоўцаў былі звязаны з вялікай колькасцю звычаяў і магічных дзеянняў. Вярнуўшыся з асвячонай вярбой дадому, кожны гаспадар або гаспадыня выконвалі шэраг абрадавых дзеянняў, накіраваных на ўмацаванне здароўя членаў сям'і. Вядомы беларускім літоўцам і папулярны сярод беларусаў (як і многіх іншых хрысціянскіх народаў) звычай хвастання вярбой адзін аднаго, падчас якога літоўцы прамаўлялі: «*Вярба б'е не заб'е, за тыдзень Вялікдзень*» («*Verba tiša neužtiša, už nedėlios ir Velykos*») [293, p. 338]. З галінкамі асвячонай вярбы выганялі першы раз у поле свойскую жывёлу. Іх выкарыстоўвалі для аховы хаты ад перуна падчас навальніцы, пры лекаванні розных хвароб і г. д. [257, p. 40; 258, p. 30; 293, p. 338, 348].

Апошні тыдзень посту перад Вялікаднем называўся ў беларускіх літоўцаў, як і ў беларусаў, **Вялікім** (літ. *Didžioji savaitė*). Увесь перадвелікодны тыдзень беларускія літоўцы захоўвалі пост, асабліва строга – у Вялікую пятніцу. Напярэдадні, у Вялікі чацвер, наводзілася поўная чысціня ў хатах. У гэты дзень яшчэ да ўсходу сонца трэба было памыцца, бо тады, як лічылася, «*будзеш чысты ўвесь год*» [258, p. 27]. У Вялікую суботу літоўцы неслі ў свае хаты з касцёла асвя-

чоныя вуглі і ваду. Асвячоныя ў касцёле вугольчыкі кідаліся ў распаленую печку. Такім чынам, нібыта, асвячаўся і агонь у хаце. Асвячоную ж у касцёле ваду ўлівалі ў студню, ёй акраплялі дзяцей, хату, гаспадарчыя пабудовы і свойскую жывёлу. У перадвелікодны тыдзень жыллё ўпрыгожвалі елачкамі або яловымі галінкамі. У гэты ж час фарбавалі ў чырвоны колер велікодныя яйкі (звычайна ў адвары шалупіння цыбулі), бо «*Вялікдзень – з чырвоным яйком*» («*Velykos – su raudonu kiaušiniu*») [257, p. 40–41; 258, p. 27–29; 293, p. 338–339].

Кульмінацыяй веснавых свят беларускіх літоўцаў (як і іншых народаў Еўропы) з'яўляецца **Вялікдзень** (літ. *Velykos*). Яшчэ ў першай палове XX ст. гэта свята адзначалася чатыры дні («*Даўней чатыры дні святкавалі*» [8, арк. 2]). З самага ранку ў нядзелю літоўскія сяляне спяшаліся ў касцёл, заносілі на асвячэнне яйкі, хлеб, соль, неслі падарункі (ежу) ксяндзу і касцёльным служкам. Пасля святочнага набажэнства яны як мага хутчэй імкнуліся патрапіць дадому, бо лічылася, «*хто першы вернецца, сядзе за стол, – першы справіцца па гаспадарцы, будзе першы на полі і ў хаце*» [257, p. 41]. Пасля вяртання з касцёла пачыналася святочная трапеза. На стол ставілася грамнічная свечка, выкладаліся асвячоныя ў касцёле прадукты (яйкі, соль, хлеб), выстаўляліся загадзя прыгатаваныя разнастайныя стравы. Велікодную трапезу пачыналі з асвячонага яйка. Недаедзеныя рэшткі асвячоных прадуктаў звычайна аддавалі каровам. Пасля святочнага снедання пачыналіся разнастайныя гульні і забавы. На другі дзень Вялікадня (радзей першы) зранку адбываліся ***дзіцячыя абходы*** вясковых хат. Падчас іх дзеці выконвалі святочныя песні, за што атрымлівалі ад гаспадароў падарункі (звычайна фарбаваныя яйкі). Таксама было прынята абліваць адзін аднаго вадой, бо гэта, як лічылася, «*добра людзям і палеткам*» [258, p. 28]. Не менш, чым у беларусаў, практыкавалася ў беларускіх літоўцаў ***біццё і качанне яек на Вялікдзень***. Яно нярэдка пачыналася адразу ж пасля выхаду з касцёла. Перш чым біцца яйкамі, іх выпрабоўвалі на моц пастукваннем аб зубы. Выйграваў той, у каго яйка было мацнейшае

і не разбівалася аб іншыя. Пры качанні ж яек з горкі па дарожцы (або адмысловым латку) пераможца вызначаўся па спробе, зробленай на найбольшую адлегласць [257, p. 42; 258, p. 27–29; 293, p. 340].

Такі характэрны для беларусаў абрад, як ***валачобны***, шырока бытаваў на тэрыторыі даследавання і сярод літоўцаў. Увечары першага дня Вялікадня па літоўскіх вёсках хадзілі гурты моладзі («лалоўнікаў»), якія звычайна складаліся з нежанатых юнакоў. У іх складзе амаль заўсёды былі музыкі, часцей за ўсё са скрыпкай і гармонікам. За выкананне песень валачобнікі атрымлівалі ад гаспадара хаты пачастунак (яйкі, сала, пірагі, гарэлку і г. д.). У рэпертуары беларускіх літоўцаў сярод валачобных песень меліся як літоўскія, так і мясцовыя беларускія і польскія песні: «*Валачобнікі хадзілі валакавалі. Па-літоўску «lalaunykai». Песні спяваюць па-літоўску і па-польску. Шмат-шмат песень пелі. «Віно» спявалі і па-польску, і па-літоўску. Каб паненка замуж вышла*» [8, арк. 2]; «*Як Вельканоц прыдзе – у касцеле ўсе, з касцёла ўвечар сцямнеўшы ідуць валакаваць, спяваюць у компаніі, мушчызны, спяваюць велікодныя песні. Ну, і хто што мае, хто яйкоў, хто там чаго дасць, пірага якого. Тэраз то ўжо як хадзілі, за маей памяці, ну то бутэльку дасць там, ці віна, ці водкі*» [8, арк. 6].

Асабліва беларускімі літоўцамі шанавалася на Велікодным тыдні серада, якая называлася **Градавой серадой** (літ. *Ledų sėrada*, даслоўна – «Ледзяная серада»), калі катэгарычна забаранялася працаваць, каб не наклікаць на палеткі навальніцу з градам: «*Не рабілі на яе, каб Бог ад града асцерагаў*» [8, арк. 2]. Яйкі фарбавалі таксама і ў Праводную нядзелю («*ant Pravadų*»), якая лічылася «маленькім Вялікаднем». Як і на Вялікдзень, у гэты дзень хросныя бацькі наведвалі сваіх хросных дзяцей, заносілі ім пачастункі [1, арк. 142; 257, p. 43; 258, p. 29; 293, p. 341].

Велікодныя святкаванні беларускіх літоўцаў практычна нічым не адрозніваліся ад падобных абрадавых дзеянняў мясцовых беларусаў. Як можна заўважыць, для іх характэрна

не столькі этнічная спецыфіка, колькі рэгіянальна-культурная, якая збліжае беларускіх літоўцаў найперш з беларусамі-каталікамі Беларускага Панямоння і Падзвіння [168, с. 88–100; 169, с. 101–121].

Важным святам земляробчага календара як у беларусаў, так і ў літоўцаў з'яўляецца **Юр'я** (літ. *Jurginės*) (23 красавіка). Ва ўяўленнях беларускіх літоўцаў святы Юрый (літ. *šventas Jurgis*) – апякун жывёлагадоўлі і земляробства. Асабліва ён, як лічылася, рупіўся пра рагатую жывёлу – кароў, валоў, коз. На Юр'я першы раз урачыста выганялі свойскую жывёлу на пашу. Рабілі гэта «*з вярбой*» – галінкамі ядлоўца ці сасны, якімі сцябалі жывёлу («*Скаціну выганяюць з вербачкай, каб шчасліва выгнаць*» [8, арк. 2]). Пад парог хлява клалі пару яек. Пасля таго як адпасвілі статак, іх аддавалі жабракам або заносілі ў касцёл, дзе замаўлялі адмысловую імшу. Некаторыя літоўскія гаспадары жагналі жывёлу і акраплялі яе асвячонай вадой. Увечары пасля вяртання статка з пашы пастуха аблівалі вадой. Усе гэтыя рытуальна-магічныя дзеянні былі накіраваныя на тое, каб свойская жывёла заставалася да восені цэлай і здаровай [291, p. 100]. Сустракаўся сярод беларускіх літоўцаў і звычай абкурвання кароў асвячонай вярбой, што таксама павінна было абараніць жывёлу ад розных няшчасцяў [257, p. 44]. Па словах літоўскай даследчыцы Р. Мяркене, «абрадавыя дзеянні выгану жывёлы ў першай палове XX ст. былі падобнымі ў вялікім арэале, у які ўваходзіла значная частка Усходняй Літвы і Заходняя Беларусь. Тут ад усіх няшчасцяў, якія маглі здарыцца з жывёлай летам, намагаліся перасцерагчыся ўдвая: з дапамогай яек і пука вербаў, якім хвасталі рагатую свойскую жывёлу, выганяючы яе ў поле» [293, p. 341].

Не менш насычаны ў беларускіх літоўцаў быў земляробчы цыкл юраўскіх абрадаў. На Юр'я літоўскія гаспадыні пяклі два невялічкія хлябцы, у якія запякалі па пяць яек. Гэтыя хлябцы абносілі вакол поля дванаццаць разоў. Пасля адзін хлябец закопвалі ў зямлю, а другі – з'ядалі. Лічылася, што тады ваўкі не будуць кранаць авечак, увесь год будуць

здаровыя каровы. Пазней пяклі адзін хлябец, у які запякалі яйка. Зранку на Юр'я кожны літоўскі гаспадар, паклаўшы такі хлябец у торбу, абходзіў сваё жытнёвае поле. Вярнуўшыся ў хату, гаварыў дзецям: «*Ідзіце, дзеткі, сюды, паглядзіце, што дало жыцейка*» («*Aikšit, vaikeliai, padabokit, ką davė rugeliai*»). Пасля вымаў з торбы хлеб, ламаў яго на кавалкі, даставаў яйка, ачышчаў яго ад шкарлупіння, дзяліў на кавалкі і раздаваў усім членам сям'і. Здзяйсняючы гэты абрад, літоўскія сяляне верылі, што будуць мець хлеб увесь год [227, p. 83].

Шэраг падобных паралеляў у юраўскай абраднасці можна прасачыць і ў беларусаў, асабліва Панямоння [169, с. 121–133].

Адно з найважнейшых веснавых святаў беларускіх літоўцаў – **Сёмуха** (літ. *Sėkminės*), або **Зялёныя свёнткі**, адзначаецца на пяцідзесяты дзень пасля Вялікадня. У мінулым свята доўжылася тры-чатыры дні. У сучасны перыяд гэты тэрмін скараціўся да аднаго-двух дзён [257, p. 43; 293, p. 336]. На Сёмуху літоўскія вернікі, як і іншыя каталікі Беларусі, аздабляюць касцёлы і свае дамы зелянінай, найперш – бярозкамі («*Бярозкі прыбіралі ля дзвярэй*» [8, арк. 2]). Пасля гэтага свята расліны звычайна спальвалі. Лічылася, што галінкі такіх бярозак маюць цудадзейную моц. Асаблівая ўвага ў гэты дзень надавалася пастухам («*пастухам пашана велькая*» [8, арк. 2]), якія плялі каровам вянкі і пяклі сабе абрадавую страву – яечню [1, арк. 40]. Увечары, калі каровы вярталіся назад з вянкамі на рагах, літоўскія сяляне абдорвалі пастухоў рознымі прысмакамі («*Гаспадары ім грошы, сыр, скваркі, кілбасы даюць у гэты і другі дзень*» [8, арк. 2]). На Сёмуху апошні раз у год фарбавалі яйкі [257, p. 43]. Сярод літоўскай моладзі Браслаўшчыны ў гэты ж дзень было прынята гушкацца на арэлях, падчас чаго, як адзначае А. Вішняўскайтэ, спяваліся беларускія песні [1, арк. 140].

**Дзявятнік** (літ. *Devintinės*) – свята *Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста* – рухомае свята літоўскага народнага календара, якое адзначаецца ў чацвер дзявятага тыдня пасля Вялікадня. Літоўскія вернікі (пераважна жанчыны) у гэты

дзень абавязкова хадзілі ў касцёл на святочную імшу, падчас якой асвячалі лекавыя расліны, звычайна палявыя: «*Тылько палявыя кветкі збіраюць і свенцяць. Усё палявое – на цела Хрыстуса*» [8, арк. 2]. Сімвалічнае значэнне мела колькасць сплеценых у вянкі раслін і саміх вянкоў: па тры з трох раслін альбо з дзевяці раслін дзевяць [257, p. 43]. Асвячоныя на Дзявятнік расліны надзяляліся надзвычайнымі якасцямі. Лічылася, што яны ахоўваюць ад пажару, навальніцы і г. д. Іх вешалі пад стрэхамі хат і хлявоў, за бэлькамі ў хаце, на покуці. Гэтыя расліны разам з вербамі клалі ў падушку нябожчыку [257, p. 43]. (Параўн. у беларусаў: «*...як чалавек памірае, дак абязацельна ў падушку ўкладаюць гэтага свенчанага зелья*» [169, с. 145].)

У многіх мясцовасцях пражывання беларускіх літоўцаў адзначалася **Купалле**, або дзень **Св. Яна** (літ. *šv. Jono diena*, або *Joninės*) (24 чэрвеня). Найбольш у гэты дзень надавалася ўвагі Янам (*Ёнасам*), якіх віншавалі з імянінамі. У гэты дзень, як і ў многіх іншых месцах Беларусі, моладзь збірала кветкі, пляла вянкі, увечары ля рэк і азёраў распальваліся вогнішчы, праз якія ладзіліся скокі. У ноч на Св. Яна літоўскія хлопцы і дзяўчаты адпраўляліся шукаць у лес цудадзейную папараць-кветку (*paparčio žiedas*). Літоўскія гаспадыні не выпускалі кароў у поле, кіруючыся павер'ем, што ў гэты дзень у іх могуць адбіраць малако ведзьмы [257, p. 44; 258, p. 30].

**Зельна** (літ. *Žolinė*) (15 жніўня) – свята ўраджаю, падчас якога беларускія літоўцы заносілі ў касцёл на асвячэнне хлеб, зерне, гародніну, садавіну, кветкі («*Культурныя кветкі свенцяць, і бурачок, і бульбачку, і яблыкі, і грушку, і ўсяго свенцяць*» [8, арк. 2]). Вярнуўшыся з касцёла, літоўскія гаспадыні варылі з асвячоных прадуктаў розныя стравы. Як і па ўсёй Беларусі, сярод беларускіх літоўцаў бытавала павер'е, што жанчыны, дзеці якіх памерлі, не маглі да Зельна есці яблыкі [293, p. 345]. Асвячоныя ў гэты дзень зёлкі, як лічылася, мелі цудадзейную моц: іх кідалі ў печ на вуголле падчас навальніцы, іх адварам лекавалі дзяцей ад сполаху [257, p. 45]. Асвячаць збожжа ў касцёл заносілі і на **Багатнік**

(літ. *Turtų šventė*): «*Збожжа, авёс, жыта, грэчку, яблыкі свенцяць. Потым тое жыта змешвалі ў засеках*» [8, арк. 2].

**Дзяды** (літ. *Vėlinės*, або *Dziedai*) – галоўны памінальны дзень у народным календары беларускіх літоўцаў. Прымеркаваны паводле каталіцкага календара да 2 лістапада (*Задушны дзень*), адзначаецца на наступны дзень пасля свята *Усіх Святых*. 1 лістапада літоўскія гаспадыні пяклі бліны, варылі капусту з мясам, заносілі ў касцёл грошы, яйкі, мяса [293, р. 346]. У кожнай літоўскай хаце выпякаўся хлеб для жабракоў, якія збіраліся ля касцёла або дарог і маліліся за душы нябожчыкаў [257, р. 45]. Гэты дзень лічыўся *жалобным*: «*Усе Святыя перваго, ужо нікакіх музыкаў, нічыво, усё – жалобны дзень. З утра зварылі, паелі, да касцёла пайшлі, на магілкі свечкі ўстаўлялі, палілі веле свечкаў, пасвенціць у касцеле ксёндз, на магілкі свечкі палілі... Вечарам нікакіх васолас цей, эта ўжо жалобны дзень, мёртвы дзень... Назаўтра ў касцеле Задушны дзень называўся, за ўсе душы ў касцеле мадліліся*» [8, арк. 6]. На Задушны дзень (*Zodušnieji*) беларускія літоўцы хадзілі на могілкі, заносілі на магілы ежу (хлеб, яблыкі, гарэлку, каўбасу і інш.), а затым збіраліся ў хаце на святочную вячэру [293, р. 346]. Яшчэ ў першай палове XX ст. сярод іх захоўвася звычай святкаваць Дзяды на працягу ўсёй актавы Задушнага дня: «*Дзяды аж восем дзён святкавалі, да 10-га. У аднаго ўсю фамілію паміналі 2-га, хто 5-га, хто як – хто багаты, хто бедны. Па тры пацеры модляцца. Як мадлітвы пачыналіся, то свечку па ўсёй хаце, пакуль згавораць мадлітвы. Усялякія стравы.* <...> *Выпіць давалі і трохі водкі. Паспяваюць. Доўга дзядоў паміналі*» [8, арк. 2].

Каляндарная абраднасць беларускіх літоўцаў знаходзіць шэраг паралеляў у мясцовым беларускім народным календары, што з'яўляецца вынікам працяглай этнакультурнай інтэграцыі. Як адзначае Р. Мяркене, «літоўскія вёскі на тэрыторыі Беларусі XX ст. – гэта арэал маргінальнай культуры, жыхары якога не ўзялі на сябе абавязак захаваць культурную спадчыну сваіх прадзедаў і абмежавацца ад усіх старонніх

уплываў. Нікчэмная магчымасць пазнання этнічнай культуры, недахоп заахвочвання, старэнне вёскі – гэта некалькі з мноства прычын, якія падштурхоўвалі да рэгіянальнай інтэграцыі грамадскай культуры каляндарных святаў. Карані гэтай інтэграцыі, напэўна, сягаюць у часы балцкіх плямянных саюзаў, калі дзеля тоеснага светапогляду і пазнання свету сфарміраваліся арэалы вераванняў земляробаў і жывёлаводаў. Іх сляды прасочваюцца і ў наш час» [293, p. 349].

Адну з самых спецыфічных частак традыцыйнай духоўнай культуры беларускіх літоўцаў складаюць міфалагічныя вераванні. Яны шмат у чым адлюстроўваюць складаныя этнакультурныя працэсы, якія адбываліся ў мінулым у зоне беларуска-літоўскага этнічнага памежжа. Традыцыйныя вераванні беларускіх літоўцаў маюць шмат агульных рысаў з традыцыйнымі вераваннямі беларусаў, а таксама іншых еўрапейскіх народаў. Шэраг такіх падабенстваў назіраецца ў самай значнай групе павер'яў, звязанай з рознымі міфічнымі істотамі – вяльнясам/чортам, айтварасам/вогненным змеем, Пяркунасам/Перуном, лаўмамі/ведзьмамі і інш.

Самым папулярным міфалагічным персанажам беларускіх літоўцаў, які характарызуецца мноствам назваў, аблічча і функцый, быў і застаецца **вяльняс** (літ. *velnias, velinas*). Многія даследчыкі пагаджаюцца, што літоўскі Вяльняс, трэці з найважнейшых балцкіх багоў пасля Бога (*Dievas*) і Пяркунаса (*Perkūnas*), роднасны славянскаму Вялесу або Воласу, апекуну жывёлы, ахоўніку багацця, функцыі якога пасля хрышчэння Русі пераняў Св. Улас (Аўлас) [27, с. 75]. Вядомы даследчык дахрысціянскіх вераванняў літоўцаў Н. Велюс адзначаў, што некалі «ў старажытнай літоўскай міфалогіі вяльняс мог уяўляцца не толькі як бог свойскай жывёлы, але і як апякун звяроў (асабліва казлоў, коней)» [368, p. 89]. Пра гэта можа ўскосна сведчыць і тое, што ў некаторых мясцовасцях Беларусі на дзень Св. Уласа (11 лютага па ст. ст.) адзначалася «конскае свята», падчас якога строга забаранялася працаваць на конях, бо ім у гэты дзень надавалася асаблівая ўвага і пашана [22, с. 98–99].

Пасля прыняцця літоўцамі хрысціянства вобраз Вяльняса перамясціўся ў сферу літоўскай дэманалогіі, дзе па сваіх функцыях ён нагадваў беларускага *чорта*, і не атрымаў свайго працягу ў вобразе хрысціянскага святога, як гэта адбылося ва ўсходніх славян. Несумненна, што многія функцыі славянскага Вялеса былі перанятыя не толькі яго асноўным пераемнікам – Св. Уласам, але таксама святымі Мікалаем, Кузьмой і Дзям'янам, Пятром, такімі міфалагічнымі персанажамі, як мядзведзь, змяя, воўк, вадзянік, лесавік, дамавік і інш. Як сцвярджае Н. Велюс, «параўноўваючы гэтых персанажаў з літоўскім вяльнясам, вымалёўваецца незвычайнае падабенства: супадаюць не толькі некаторыя іх знешнія асаблівасці, функцыі, але часам нават найдрабнейшыя дэталі» [368, p. 256–257]. Іншымі словамі, вобраз літоўскага міфалагічнага *вяльняса* значна больш архаічны, адзіны і маналітны, у той час як у беларусаў яму адпавядае цэлы шэраг міфалагічных персанажаў, функцыі якіх у суме складаюць цэлы комплекс, характэрны для балцкага Вяльняса і славянскага Вялеса [368, p. 259].

Сярод найбольш распаўсюджаных абліччаў вяльняса ў павер'ях літоўцаў Гервяцкага краю (Астравецкі р-н) выступае касцёльная «версія» – ён рагаты, з хвастом і г. д. Аднак у народным варыянце гэта можа быць казёл або якая-небудзь іншая жывёліна. Вяльняс можа выступаць і чалавекам, апранутым у чорнае або белае. Часам гэта вялікі чалавек або нават волат. Характэрны таксама для агульналітоўскіх павер'яў вяльняс-крумкач, які з'яўляўся па розных прычынах, але асабліва тады, калі хтосьці бярэ чытаць «чорную кнігу» [361, p. 357]. У павер'ях літоўцаў Пеляскага краю быў папулярны вобраз вяльняса ў выглядзе авечкі ці барана, птушынай чарады, паніча з капелюшом. Улюбёны занятак такога персанажа – чыніць шкоду людзям [261, p. 224].

У этыялагічных казаннях беларускіх літоўцаў функцыі вяльняса дастаткова розныя. Ён стварае Сусвет, супернічае з Богам, нясе і кідае камяні, ставіць масты. Паводле старажытных літоўскіх павер'яў, вяльняс баяўся Пяркунаса, які

пераследаваў яго сваім громам. «*Калі гром грыміць і б'е ў камень, дрэва ці так куды, то казалі, што гэта Бог (Dievas) б'е вяльняса*» [142, p. 4]. Лічылася, што падчас навальніцы вяльняс хаваўся пад пнём, з-пад якога вылазіў толькі пасля грымотаў і маланкі. На дрэвах, расшчэпленых маланкай, птушкі, якія ўспрымаліся як увасабленне вяльняса, больш не збіраліся [261, p. 224].

Сярод беларускіх літоўцаў бытавала шмат аповедаў пра людзей, у якіх «усяліўся вяльняс». Літоўцы верылі, што вяльняс можа «ўлезці» ў чалавека, і тады ён захворвае, найчасцей на псіхічную хваробу. Вяльняса мог «выгнаць» шаптун або чараўнік. Па літоўскіх павер'ях лічылася, што гора будзе таму, хто заключыць з вяльнясам дамову. Пасля смерці такія людзі – чарнакніжнікі – трапляюць у ягоныя кіпцюры. Такі лёс чакае і бязбожнікаў. У гэтых павер'ях адчуваецца ўплыў каталіцкага касцёла, які актыўна змагаўся з перажыткамі язычніцтва ў народнай культуры літоўцаў. У выніку традыцыйныя вераванні беларускіх літоўцаў сумяшчаюць як хрысціянскія, так і язычніцкія рысы. Напрыклад, сярод літоўцаў Опсаўскага краю (Браслаўскі р-н) занатавана паданне пра тое, як святы Пётр разззлаваўся на жанчын за іх сувязь з вяльнясамі. Ён загадаў сваім слугам адсекчы ім усім галовы, але зразумеўшы, што свет без жанчын знікне, перадумаў і загадаў галовы прыляпіць назад. Слугі ж у спешцы пераблыталі і перамяшалі галовы: «*вяльнясам прыляпілі бабіны галовы, а бабам – вяльнясаў*». Таму тут і цяпер жартуюць: «*Палова бабы, палова вяльняса*», або: «*Баба з галавой вяльняса*» [271, p. 27].

У некаторых паданнях і легендах беларускіх літоўцаў вяльнясы выступаюць вельмі злоснымі істотамі, небяспечнымі для кожнага чалавека, які не ведае іх звычак. Яны наведваюцца на вячоркі ў лазню, дзе душаць дзяўчат. У яе яны звычайна ходзяць «на трэцюю пару» (пасля мужчын і жанчын) [361, p. 358]. Лічылася, што «*ў лазні свістаць нельга, вяльняса (чорта) прыклічаш*» [1, арк. 83]. Гэткі *вяльняс* сваімі паводзінамі нагадвае беларускага лазніка. Як і ў беларусаў,

у літоўцаў Гродзенскага Панямоння і Паазер'я бытавала павер'е, што чалавеку нельга гойдаць нагамі, бо іначай на іх тады сядае нячыстая сіла (вяльняс) і гойдаецца [1, арк. 135].

Большасць вышэйпералічаных функцый, рысаў і ўласцівасцей літоўскага міфалагічнага *вяльняса* можна знайсці і ў міфалогіі беларусаў у вобразе *чорта*, часам *дамавіка, хлеўніка, лазніка, лесавіка, вадзяніка* [22, с. 128–132; 89, с. 141–161; 95, с. 309–314; 111, с. 10–60], а шэраг такіх функцый *вяльняса*, як супрацьстаянне яго з *Пяркунасам* (Перуном, Грымотнікам) і стварэнне ім Сусвету, наогул з'яўляецца характэрнай агульнаеўрапейскай з'явай [203, р. 3–236; 238, р. 168].

Пасля *вяльняса* найпапулярнейшай дзеючай асобай павер'яў і паданняў беларускіх літоўцаў (асабліва жыхароў Гервяцкага краю) быў **айтварас** (літ. *aitvaras*) – цесна звязаная са стыхіяй агню і паветрам міфічная істота, родная вяльнясу. Падобны вобраз існаваў і ў беларусаў: *вогненны змей*, які прыносіў людзям багацце [95, с. 301–305]. На сувязь беларускага *дамавіка* (*хатніка, гаспадара*) з літоўскім *айтварасам*, відаць, указвае і адна з назваў гэтага персанажу ў беларускай міфалогіі – *дымавы*. Гэта назва *дамавіка*, як і ўлюбёнае яго месца – прыпечак, далі падставы беларускаму этнографу А. Багдановічу меркаваць пра *дамавіка*, як пра «антрапамарфізацыю агню, хатняга агменю» [22, с. 68–69]. На роднасць гэтых персанажаў указвае і адна з назваў *айтвараса* ў мове беларускіх літоўцаў – *дамавікас*. Аднак уласныя функцыі *дамавіка* ў беларускай міфалогіі значна больш самастойныя і адасобленыя ад функцый *вогненнага змея*, які прыносіў багацце (хаця і вельмі блізкія, часам тоесныя). У літоўцаў жа гэтыя персанажы звычайна аб'яднаныя ў адзіным вобразе *айтвараса* і не мелі такіх канкрэтных антрапаморфных вобразаў, як у беларусаў. Відаць, як і ў выпадку з *вяльнясам*, гэты старажытны персанаж літоўскай міфалогіі здолеў захаваць больш поўны комплекс функцый, характэрны цэламу шэрагу персанажаў беларускай міфалогіі.

Сярод літоўскага насельніцтва Астравеччыны айтварас быў вядомы пад назвамі **скальсінінкас**, **кутас**, **хутас** (паданне

пра *хута* занатавана і ў беларусаў паўночна-заходняй Беларусі [89, с. 190]), радзей – *шкутас, спарыжус, парыжус, дамавікас.* У некаторых выпадках казалі наўпрост, што гэта *гаспадар* або нават – *вяльняс* [361, р. 359]. Літоўцы Гервяцкага краю ўяўлялі *кутаса* па-рознаму: «*чырвоны як рукаво*», «*доўгі, чырвоны, хвост як мятла*», «*як зорка*», «*як маланка*», «*розных колераў – сіні, жоўты, чырвоны*», «*кутаскот*», «*кутас – чырвоная, вельмі вялікая птушка з хвастом*», «*кутас на сабаку падобны, хвост два метры, зубы як у ката, з капытамі*». Ён падобны і да гарнастая, і да шашка, і да змяі, а часам гэта ачышчальны агонь, воблака [361, р. 360]. Падобныя вобразы *вогненнага змея* існавалі і ў беларусаў: «*вогненны, чырвоны*» [89, с. 162], «*увесь залаты, гарыць як жар, і маець крылы*», «*як вуж*», «*бліскучы медзярыт*» [22, с. 74].

Сваім гаспадарам кутас прыносіць багацце: зерне, грошы, золата. Лічылася, што калі гаспадар заможна жыў з невялікага надзелу зямлі, то яму дапамагаў кутас [269, р. 59–60]. «*Як ужо каторы добра жывець, то казалі: яму скальсінінкас прынёс*». «*Той кутас ім багацце (skalsa) прынёс*» [268, р. 708, 710]. (Параўн. у беларусаў: «*Яму змей грошы прыносіць*» [22, с. 73].) Па павер'ях беларускіх літоўцаў, кутас спальваў гаспадарку, калі яго не частавалі, дрэнна да яго ставіліся.

«Здабыць» сабе кутаса можна было па-рознаму. Традыцыйны спосаб: «*Яйко, якое павінен знесці певень (пажадана чорны), трэба было тры гады запар штотыдзень насіць пад пахай на кірмаш*». Пра з'яўленне кутаса распавядалі так: «*Певень знёс доўгае яйко, адзін канец якога таўсцейшы. Калі нехта з яго з'яўляецца, у сярэдзіне бачны чарвяк. У рэшце рэшт з яйка з'яўляецца кутас*» [361, р. 360]. Паводле павер'яў беларускіх літоўцаў, кутаса трэба было шанаваць, смачна карміць, яго любімая страва – яечня. Ідэнтычны спосаб здабыцця і адносінаў да *вогненнага змея*, які прыносіў грошы, бытаваў і ў беларусаў [22, с.73–74].

У некаторых рысах скальсінінкас (кутас) блізкі да **спарыжуса** (*sparyžius*) – падвоенага коласа або арэха (бел. *спа-*

*рыш*). Слова *спарыжус* – славянскага паходжання, аднак само павер'е было добра вядома і ў Літве, і асабліва ў Латвіі. *Спарыжус* этымалагічна роднасны персанажу беларускай міфалогіі – *Спарышу*, боству ўрадлівасці [64, с. 467]. Функцыі *спарыжуса* былі блізкія да функцый *кутаса*: ён прыносіць багацце. Таму і імёны іх часта блытаюць, *айтвараса* часам называюць «*спарыжусам*». Чалавек, які знайшоў у лесе спарыша (спарыжуса), клаў яго ў кашалёк. «*Гэты спарыжус грошы прынясе і зерне*». Спарыша скармлівалі авечкам ці каровам: двайнят прынясуць. Калі замужняя жанчына знаходзіла спарыша, лічылася, што ў яе народзяцца двайняты. Калі хлопец знойдзе – то будзе мець дзве дзяўчыны, і з якой захоча, з той і ажэніцца. Спарыша часам клалі за абраз, а дзяўчаты – за косы, каб прываражыць хлопцаў [361, р. 361].

Былі вядомыя беларускім літоўцам і персанажы, падобныя да беларускага *вадзяніка* (з'яўляўся ля вады і заманьваў у яе людзей), *балотніка*, *багніка*. Напрыклад, пасярод балотаў з'яўлялася авечка з вялікімі рагамі і спрабавала зацягнуць падарожніка ў багну [140, арк. 2]. Альбо часам мроіўся вялікі чалавек, які, чым бліжэй да яго падыходзілі, усё змяншаўся і змяншаўся. Урэшце, калі яго пераганяць, ён ператвараўся ў вялікі шар і саскокваў у багну [271, р. 399].

Сярод беларускіх літоўцаў захаваліся шматлікія згадкі і пра Пяркунаса (літ. *Perkūnas*, альбо *Perūnas*), які амаль цалкам адпавядаў славянскаму Перуну. Яго атаясамлівалі з хрысціянскім святым Аліёшусам (літ. *Šv. Alijošius* – «Св. Ілля»). Пяркунас быў богам грому, маланкі і наогул усіх атмасферных з'яў, даваў зямлі дождж і ўрадлівасць. Паводле літоўскіх павер'яў, ён таксама змагаўся са злымі духамі, рупіўся аб справядлівасці і парадку, караў дрэнных людзей, а лепшым прыносіў добры ўраджай [361, р. 361]. Аднак галоўная функцыя Пяркунаса – пераслед вяльнясаў. У літоўскіх паданнях вяльнясы хаваліся ад Пяркунаса нават пад крыжамі, але і там ён іх даставаў. Звычайна, калі Пяркунас з'яўляўся ў вобразе чалавека, то гэта быў моцны мужчына, паляўнічы з вялікай стрэльбай у руцэ [302, р. 282–283].

Неадназначным міфалагічным персанажам былі **лаўмы** (літ. *laumės*). У павер'ях беларускіх літоўцаў яны ў асноўным былі звязаныя з працай уначы: пасля таго як садзілася сонца, лаўмы мылі бялізну ў рэчцы, малацілі цапамі, мыліся. Удзень яны звычайна спалі. Лічылася, што лаўмы кралі малако ў кароў, абстрыгалі авечак, псавалі вырашчаны хлеб і г. д. Аднак, паводле павер'яў беларускіх літоўцаў, лаўмы маглі зрабіць і добрую справу – спрасці лён, пакалыхаць дзіця ўначы, пажаць жыта ў полі і г. д. [361, р. 362]. Літоўская *лаўма* амаль нічым не адрознівалася ад беларускай *ведзьмы*. Пра іх падабенства, а часам і тоеснасць, могуць сведчыць і назвы лаўмы ў мове беларускіх літоўцаў – *viedzma*, *viedma* [384, р. 560; 385, р. 390]. У сваю чаргу ў беларускай міфалогіі сустракаецца назва *лойма* [26, с. 293–294].

Шмат агульных рыс адлюстроўваюць павер'і і паданні, звязаныя з незвычайнымі людзьмі, да якіх адносілі *раганаў* (ведзьмаў), *чараўнікоў*, *шаптуноў*, людзей з «*паганым вокам*», *ваўкалакаў* і інш.

**Рагана** – папулярны персанаж не толькі літоўскіх казак, але таксама паданняў і павер'яў. Беларускія літоўцы называлі яе некалькімі імёнамі, звычайна славянскага паходжання: *ведзьма* (*viedzma, viedma*), *чараўніца* (*čieraunykė, čëraunykė*) [284, р. 552, 560; 285, р. 388, 390]. Лічылася, што гэта няпростая, часцей за ўсё, злосная жанчына, якая шкодзіла сваім суседзям. Яны таксама адбіралі малако ў кароў, асабліва на *Ёнінес* (літ. Joninės «Купалле») [361, р. 362–363]. «*У ноч на св. Яна ведзьма хусткаю збірае расу. Збіраючы расу, згадвае імёны кароў. Якіх кароў імёны згадала, тыя не дадуць малака гаспадару, а будуць даваць ведзьме*» [143, арк. 56]. У гэтай ролі *рагана* мала чым адрозніваецца ад беларускай *ведзьмы-кароўніцы* [22, с. 113–114; 95, с. 262–270; 111, с. 95–96].

Больш станоўча ў народных павер'ях беларускіх літоўцаў выглядалі **чараўнікі** (літ. *burtininkai*, *čaraunykai*). Літоўцы верылі, што чараўнік (або вядзьмак) можа зрабіць і добрую працу. Яны каралі злых раганаў і ведзьмакоў [361, р. 363].

Аднак былі і дрэнныя чараўнікі, *чарнакніжнікі*, звязаныя з вяльнясам. Смерць дрэннага чараўніка або чараўніцы была вельмі цяжкой: «*Мне як гаварылі, адна ў Лідзе была такая, што яна так вот чаравала людзей на плоха. Гавораць, як яна ўмірала, то так два дні ўмірала. То нехта дагадаўся, сын ці хто там, доску вылупілі паталок – тады ўмярла. Кажа, загудзела і ўмярла*» [8, арк.7].

**Шаптуны** былі папулярнымі вясковымі лекарамі сярод літоўцаў Беларусі. Занатавана шмат аповедаў пра іх здольнасці лячыць. Правілы і агульны характар замоў у асноўным нічым не адрозніваліся ад характару лекавання ў іншых беларускіх мясцовасцях [361, p. 363].

Беларускія літоўцы здаўна практыкавалі магічныя дзеянні і абрады, якія былі скіраваны на розныя сферы чалавечага жыцця, таму шмат павер'яў было звязана з *праклёнамі, закляццямі, заклінаннямі, варожбамі, магічнымі знакамі*. Шмат падабенстваў назіраецца і ў гэтай групе павер'яў.

Напрыклад, беларускія літоўцы верылі ў незвычайную моц *жытнёвых вузлоў* (літ. *rugių mazgai*), якія часцей называлі па-беларуску – **заломы** (*zalamai*). Залом літоўская жняя не кранала, каб не выклікаць няшчасця, бо магло, напрыклад, скруціць руку [257, p. 25]. Залом звычайна спальваў які-небудзь чараўнік альбо шаптун. Такім чынам здымалася закляцце [361, p. 364].

Важнае значэнне ў жыцці беларускіх літоўцаў мелі разнастайныя **варожбы**. Большая частка варожбаў адбывалася на розныя святы, асабліва зімовыя (у ноч на Св. Андрэя, на Куццю і інш.), мэтаю якіх было даведацца пра будучы ўраджай, надвор'е, а для дзяўчат – пра будучага жаніха, вяселле: «*Варажылі: ветачак нарэжуць, картачкі да іх прывязвалі з імёнамі. І пад печку ў ваду ў велькі збан. У Куццю збяруцца пасля вячэры і глядзяць. Некаторыя расцвітуць – і тыя радуюцца: калі зацвітуць, то выйдзе замуж. Калі пупуецца – не. Высыхае – такая будзе хварэць, ці памрэ. Так і было*», «*На Куццю смяццё выносяць і тады слухаюць, дзе сабакі брэшуць – адтуль жаніх будзе*», «*На Андрэя памыц-*

*ца і не выціраццa – хто ручнік прынясе, які хлопец, за таго і выйдзе*», «*Ісці ў студню глядзець. Свечку да самай вады і глядзець, што ўбачыш. На Андрэя шчэ «каноплі сеялі». Плот шчыталі*» [8, арк. 3] і інш.

Нямала агульных рыс захавалі павер'і, звязаныя з пакланеннем і пашанай да аб'ектаў і з'яў прыроды. У літоўцаў, як і ў іншых еўрапейскіх народаў, са старажытных часоў вялікай пашанай карысталіся камяні незвычайных формаў, якія былі звязаны з сакральнымі міфамі, магіяй, вераваннямі. У фальклоры беларускіх літоўцаў ёсць шмат легендаў і паданняў пра тое, што камяні з'явіліся ў выніку ператварэння ў іх людзей, звяроў. Лічылася, што камяні, як і іншыя міфічныя істоты, маглі размаўляць, весяліцца, сумаваць, жаніцца, мець дзяцей, падарожнічаць з аднаго месца ў другое, плаваць па вадзе, дапамагаць людзям, ахоўваць схаваныя скарбы. Сярод літоўцаў і беларусаў у акрэсленай зоне даследавання асаблівае значэнне мелі камяні з адбітымі чалавечымі і звярынымі слядамі, радзей – з чалавечымі рукамі. Пра такія камяні беларускія літоўцы казалі: «*Калі прарасталі камяні, вяльняс прабег і пакінуў след*». Ці па іншаму: «*Пяркунас ударыў вяльняса. Той як тупне ў камень – і застаўся след*» [361, p. 366]. Верылі, што камяні раней раслі. Аднак ішоў Бог (*Dievas*) і зламаў аб адзін з іх палец, тады сказаў: «*Каб вы большымі не павырасталі!*» [302, p. 277]. Або лічылася, што яны перастаюць расці тады, калі ім будзе нададзена імя. Так, сярод літоўцаў Браслаўшчыны занатавана паданне пра тое, як два камяні на гары ішлі адзін да аднаго, і, як толькі людзі далі ім імёны: аднаму – Ёнас, другому – Пятрас, камяні спыніліся. У лесе, дзе гэтыя камяні прайшлі, дагэтуль захоўваюцца равы амаль у метр глыбінёй [270, p. 602].

Адзін з найбагацейшых раздзелаў духоўнай культуры беларускіх літоўцаў складаюць народныя веды. Аграрны (земляробчы) характар літоўскай народнай культуры абумовіў назапашванне разнастайных звестак па назіранні за з'явамі прыроды і іх прагназаванні. Літоўскія земляробы з уласнага вопыту ведалі пра значэнне надвор'я для будучага ўраджаю.

Таму яшчэ да сярэдзіны XX ст. літоўскія сяляне па небе, зорках, месяцу, сонцу і дрэвах прадказвалі, якімі будуць зіма і лета, што і калі трэба рабіць. Ужо з набліжэннем вясны літоўцы рупіліся аб будучым ураджаі. Значная колькасць метэаралагічных прагнозаў звязана з прыкметамі, заснаванымі на назіраннях за жывёльным светам (напрыклад: «*Калі сабака есць траву, то будзе дождж доўга ліць*» [142, арк. 15] і інш.). Доўгатэрміновыя ж прагнозы рабіліся на буйнейшыя каляндарныя святы. Так, літоўскія гаспадары Браслаўшчыны ішлі на Куццю пасля вячэры варажыць па зорках: калі ясна і шмат зорак, то верылі, што пчолы будуць добра весціся, будзе шмат грыбоў, асабліва баравікоў, будуць добра несціся куры [257, p. 37]. (Параўн. у беларусаў: «*На Коледы, на куццю, як зоркі на небе, то куры надта будуць несціся...*», «*Глядзелі, ці звёзды есь на небе, як звёздаў многа, тады грыбоў будзе надта многа...*» [169, с. 36].) Гервяцкія літоўцы сачылі на Грамніцы (2 лютага) за пеўнем: калі будзе піць з лужыны ваду – тады на Юр'я (23 красавіка) ужо будуць выганяць кароў [227, p. 81–82]. Цалкам ідэнтычная прыкмета існавала ў беларусаў: «*Калі на Грамніцы певень нап'еццa вадзіцы, то на Юр'я вол наесца травіцы*» [15, с. 472].

Пэўнае значэнне ў прадказванні будучага надвор'я мелі колеры нябесных целаў, дынаміка іх руху і размяшчэнне на небе. Так, літоўцы Браслаўшчыны лічылі, што калі сонца ўвечары пабялела – трэба чакаць яснага надвор'я, калі пачырванела – ветру, калі вакол сонца з прамянёў утварылася нібыта другое сонца – таксама трэба чакаць добрага надвор'я [257, p. 23–24]. Важнае значэнне ў рэгламентацыі гаспадарчага жыцця (асабліва для сяўбы) мелі фазы месяца: «*Да поўнага і як самы поўны месяц – трэба садзіць, во, напрымер, вішні якія там, дзераўкі, а як адбывае потым месяц, то ўжо садзіць, што наверх цягнецца, няможна. Еслі месяц адбывае – ён ідзе ўніз, тады садзіць картошку, то картошка расце ў зямле, то родзіць лепей. А што ўверх расце вот – трэба як поўны месяц*» [8, арк. 8]. Мноства практычных парад грунтавалася на асаблівасцях росту, цвіцення і вы-

спявання разнастайных раслін: авёс сеяць – як алешына распускаецца і чаромха пачынае квітнець, лён сеяць – калі рабіна заквітнее, бабы – клён квітнее і г. д. [227, р. 84]. Многія метэаралагічныя прадказанні беларускіх літоўцаў грунтаваліся на цалкам рацыянальных назіраннях, як, напрыклад: «*Калі зранку вокны былі вільготныя, то будзе дождж, калі сухія – то ясна*», «*Калі зранку баба паліць печку, то глядзяць на дым. Калі дым ідзець уверх – то будзе ясна, калі сцеліцца па зямлі – то будзе дождж*» [142, арк. 5].

Важнай галіной народных ведаў беларускіх літоўцаў з'яўляецца народная медыцына. Агульны яе характар амаль нічым не вылучаўся на фоне мясцовай беларускай традыцыі. Народная медыцына беларускіх літоўцаў уключала ў сябе разнастайныя рацыянальныя звесткі пра лекавыя сродкі, спосабы лекавання хвароб, прафілактычныя навыкі, якія цесным чынам былі звязаны з магічнымі дзеяннямі і абрадамі.

З'яўленне пэўнай хваробы звычайна звязвалі з канкрэтнай жыццёвай падзеяй: калтун (*kaltūnas*) скручваўся ад нерваў, сполаху; рожа (*rožė*) з'яўлялася ад якой-небудзь крыві або парэзу; боль у костках ці расцяжэнне – ад моцнага ўколу; барадаўкі маглі прыстаць ад якой-небудзь жывёліны або іншага чалавека [204, р. 354]. Прычыны шматлікіх хваробаў бачылі таксама ў парушэнні разнастайных забаронаў (асабліва падчас розных святаў), наўмысных або ненаўмысных дзеяннях розных людзей (найперш, «чараўнікоў», «чарнакніжнікаў»), якія маглі сурочыць, зачараваць і г. д. Такія хваробы вельмі цяжка вылечваліся і лічыліся найбольш небяспечнымі: «*Но еслі хоча цябе, напрымер, ці мяне, ці каго ачараваць, хто ведае і чорну кнігу маець, то ачаруюць і памярці не ўмрош і жыць не будзеш. Будзеш балець і балець*» [8, арк. 7]. Узнікненне некаторых хвароб тлумачылася таксама парушэннем пэўных сацыяльных і этычных норм паводзін («*Калі з хворага падзівіся, то прыстане хвароба*» [143, арк. 55] і інш.). Паводле павер'яў, хвароба часта ўяўлялася ў выглядзе пэўнай істоты: жанчыны ў белым адзенні з непакрытай галавой, якая хадзіла каля хаты, з'яўлялася ў снах і г. д. Калі хто-

небудзь яе пабачыць, то верылі, што ў хуткім часе нехта захварэе або памрэ [204, р. 354].

Для лекавання хвароб выкарыстоўваліся самыя разнастайныя сродкі расліннага, жывёльнага і мінеральнага паходжання. Шырокую практыку сярод беларускіх літоўцаў мела лекаванне з дапамогай featuring розныя кшталту замоў: «*Еслі святымі славамі гавораць з малітвамі святымі, то ад усяго памагае. Еслі чалавеку ружа, ці чалавеку там скула якая, ці руку там звіхне, ці нагу, то навязуе нітку з боскімі славамі. То эта памагае*» [8, арк. 7]. Замовамі лячылі ўрокі (*urokai*), парушэнні (*parušenija*), сполахі, змяіныя ўкусы, рожу, падвей (*padvėjas*), расцяжэнні, раны, зубны боль і інш. [253, р. 206]. Ад хваробаў намагаліся пазбавіцца і практываннем разнастайных рытуальна-магічных дзеянняў: высмоктваннем, абмярэннем, сціраннем, абкурваннем, спальваннем хваробы. Лічылася, што найлепшы час лячыць хваробы такім чынам – захад або ўсход сонца [253, р. 205–206]. Усе гэтыя віды і формы народнага лекавання маюць шырокія аналогіі ў народнай медыцыне беларусаў [107, с. 27–77].

Адным з найбагацейшых раздзелаў традыцыйнай духоўнай культуры беларускіх літоўцаў з'яўляецца фальклор. Ён прадстаўлены разнастайнымі песнямі, галашэннямі, казкамі, легендамі, паданнямі, былічкамі, магічнымі заклінаннямі, замовамі, варожбамі, жартамі, загадкамі, прыказкамі і прымаўкамі.

Сваімі песеннымі традыцыямі літоўскія вёскі Астравеччыны і Воранаўшчыны славяцца і ў цяперашні час. Тут існуюць самабытныя фальклорныя ансамблі. Рэпертуар традыцыйных песень і мелодый захаваўся ў многім дзякуючы літоўскім настаўнікам і ксяндзам, школам, аддзелам таварыства Св. Казіміра, чытальням таварыства «Rytas», літоўскаму друку [256, р. 10]. Але галоўную ролю ў гэтым адыграла жывая песенная традыцыя, якая захавалася амаль што ў кожнай літоўскай сям'і.

У жанравых адносінах мясцовы песенны рэпертуар вельмі багаты, падобны да рэпертуару суседняга літоўскага насель-

ніцтва паўднёва-ўсходняй Літвы. Напрыклад, літоўцы-барцякі спявалі ў сваёй большасці такія ж самыя песні вясельнага, сямейнага, любоўнага, ваенна-гістарычнага, працоўнага і іншых жанраў, як і літоўцы-дзукі з Эйшышкаў, Дубічаў і іншых вёсак суседніх раёнаў Літвы. Таксама сярод іх бытавала нямала рамансаў і іншых, больш сучасных песень, якія траплялі сюды рознымі шляхамі і былі пашыраны ледзь не на ўсёй тэрыторыі Літвы. Самі літоўцы-спевакі часта адасаблялі такія песні ад больш старых, традыцыйных: «*старая, вельмі старая песня*» («*sena, labai sena giesmė*»), «*яшчэ мікалаеўская песня*» («*mikolajevska da giesmė*») і г. д. Важнае месца ў рэпертуары мясцовых літоўцаў займалі таксама беларускія і польскія песні [256, p. 14].

Найлепш у жывой традыцыі сярод беларускіх літоўцаў захаваліся вясельныя песні, якія вылучаюцца сваёй разнастайнасцю. «*На вяселле ўсе, хто што толькі ўмее, спявае*». Выконвалі звычайна такія агульнадзукскія песні, як «Ant kalno rugiai» («На гары жыта»), «Kaip aš buvau mažas» («Як я быў маленькі»), «Oi Dieve Dieve» («Ой Божа Божа»), «Mergužaite mana» («Дзяўчынка мая») і інш. [256, p. 14; 369, p. 32–90]. Значна больш, чым у Літве, сярод беларускіх літоўцаў былі пашыраны песні, якія выконваліся перад адпраўкай маладой у хату жаніха [256, p. 15].

Шмат занатавана фальклярыстамі і тэкстаў любоўных песень – старых і пазнейшых рамансаў («Lygioj lankełėj, žalioj girałėj» («На роўным лужку, у зялёным лесе»), «Gersim, broliai, uliavosim» («Будзем піць, браты, гуляць»), «Ant kalnelio putinas» («На горачцы каліна»), «Kur tas šaltinėlis» («Дзе тая крынічанька») і інш.), якія спяваліся звычайна на вячорках і сходах моладзі [256, p. 17; 289, p. 115–125].

У першай палове ХХ ст. сярод беларускіх літоўцаў шырокае распаўсюджанне атрымалі і літаратурныя, аўтарскія песні, напрыклад, вядомая па ўсёй Літве «Kur bėga Šešupė» («Куды бяжыць Шэшупе») Майроніса [256, p. 20].

Не менш папулярнымі сярод літоўцаў былі і песні сямейнага жанру – «Akmuo be kraujo» («Камень без крыві»),

«Saldzi gardzi arielkėlė» («Салодкая смачная гарэлачка») і інш. [334, p. 91–111].

Крыху менш распаўсюджанымі сярод беларускіх літоўцаў былі песні іншых жанраў – працоўнага, каляндарна-абрадавага, ваенна-гістарычнага, дзіцячага, якія, адпаведна, і выконваліся радзей.

Характэрнай асаблівасцю бытавання літоўскага песеннага фальклору ў Беларусі з'яўляецца яго этнакультурная ўзаемасувязь з беларускім песенным фальклорам, што мае глыбокія гістарычныя карані. Варта падкрэсліць, што фальклярыстамі ўжо даўно было заўважана вялікае падабенства літоўскіх і беларускіх працоўных песень, якія ўяўляюць нібыта ўвасабленне адных і тых жа тэкстаў на дзвюх мовах [90, с. 68; 98, с. 138]. Як адзначае Д. Крыштапайтэ наконт песеннага фальклору літоўцаў Пеляскага краю, «без сумневу, славянскі ўплыў існуе не толькі ў рэпертуары, але і ў паэтыцы, і ў лексіцы, і ў мелодыях, аднак гэтае пытанне патрабуе спецыяльнага даследавання» [256, p. 20].

Увогуле, Дзукія, да якой у гістарычна-этнаграфічным плане літоўскія даследчыкі часта адносяць і асноўныя лакальныя часткі літоўскай этнічнай групы Беларусі, традыцыйна славілася ў Літве сваімі песнямі і мелодыямі розных жанраў і тыпаў. У Дзукіі захаваўся бадай што самы старажытны пласт літоўскага песеннага фальклору. Тут назіраецца моцная неаднастайнасць мелодый – ад самых прымітыўных да самых складаных. Паводле архаізмаў і тыпавой разнастайнасці жанраў дзукскія песні можна параўнаць, бадай што, толькі з літоўскімі сутарціне (літ. *sutartinė*) – шматгалосымі харавымі спевамі, якія былі распаўсюджаныя ў Аўкштайціі [226, p. 386].

Акрамя ўласна родных песень, літоўцамі Беларусі традыцыйна аднолькава добра выконваліся і беларускія, і польскія песні, а некаторыя з іх нават мелі па два варыянты – на беларускай і літоўскай, або на польскай і літоўскай мовах. Напрыклад, і літоўскі, і беларускі тэкст мае песня вясельнага жанру «Прыехалі сваты» [209, p. 301]. Яна спяваецца падчас

сустрэчы сватоў, «якія прывезлі вянок», з памочнікам з боку маладога. У пачатку песні высмейваюцца і самі сваты, і іх вянок:

*Atvažiavo svotai* — *Прыехалі сваты*
*Melagiai, melagiai.* — *Махляры, махляры.*

*Atvežė vainikų* — *Прывезлі вяночак*
*Iš notrelių, iš notrelių.* — *З крапівы, з крапівы.*

Песні такога тыпу складаюць значную частку песеннага рэпертуару беларускіх літоўцаў (напрыклад, «двухмоўнымі» з'яўляюцца такія песні вясельнага жанру, як «Кацiся, вяночак» («Rituok, vainikėli»), «Ішла Марыся чэраз новы сені» («Ėjo Marytė per naujas prienes»), «На небе месячык іграе» («Ant dangaus mėnulis žibėjo»), «Ад'язджаю, родна матуля, ад цябе» («Išvažiuoju, miela motule, nuo jūsų»), «Ой, чыя ж там матуля» («Ir kuri ten motulė»), «Кацілася зялёна рута з явору» («Paritavo žalios rūtelės ant stalo») і інш.). Гэтыя песні неабходна лічыць творчым здабыткам беларускіх літоўцаў, бо падобныя тыпы паэтычных песень (беларуска-літоўскіх) невядомыя больш нідзе, акрамя месцаў кампактнага пражывання беларускіх літоўцаў [209, p. 306–306].

Адной з найбольш архаічных частак літоўскага песеннага фальклору з'яўляюцца галашэнні. Галасілі беларускія літоўцы звычайна на вяселлях, на хаўтурах, праводзячы сына або брата на вайну і г. д. У галашэннях сумяшчаліся традыцыя і імправізацыя. Асаблівае месца яны займалі ў пахавальнай абраднасці. Заўважана, што пахавальныя галашэнні беларускіх літоўцаў з беларускімі аб'ядноўвае, па-сутнасці, адна і тая ж семантычная аснова. У іх таксама захаваліся элементы міфалагічнага і абрадавага культу [84, с. 89].

З празаічнай вуснай народнай творчасці літоўцаў вылучаюцца ў першую чаргу разнастайныя казкі. Казачная традыцыя беларускіх літоўцаў праявіла сябе надзвычай жывучай. Так, падчас экспедыцыі Інстытута літоўскай мовы і літаратуры ў 1970 г. у Гервяцкім краі было сабрана 4386 твораў розных жанраў і тыпаў літоўскага фальклору, сярод якіх былі

419 казак [237, р. 14]. Іх рэпертуар вельмі багаты і разнастайны. Частка мясцовых казак, паданняў і легендаў была распаўсюджана па ўсёй Літве, а яшчэ больш – сярод мясцовага беларускага насельніцтва. Як адзначае Н. Лаўрынкене ў дачыненні да народнай прозы літоўцаў Воранаўшчыны, у мясцовым рэпертуары «трапляюцца такія творы, якія больш вядомыя суседнім беларусам, чым у Літве. У казкі, якія распавядаюць мясцовыя літоўцы, прасачыліся нелітоўскія імёны, выразы. Асабліва гэты ўплыў закрануў мову фальклору. У ёй нямала славізмаў. Аднак, з іншага боку, трэба канстатаваць, што такія памежныя зоны не толькі адкрытыя для розных уплываў – разам з тым у іх закансервоўваюцца і каштоўныя архаізмы. Апавядальны фальклор сведчыць, што ў легендах і паданнях людзей гэтага краю шмат міфічных вобразаў, якія дапамагаюць зразумець больш ранні вобраз мыслення, светапогляд, а таксама звычаі і традыцыі» [261, р. 226].

Асноўнымі персанажамі літоўскіх казак з'яўляюцца певень, каза, ліса, воўк, мядзведзь і інш. Акрамя таго, тут шырока бытавалі чарадзейныя казкі, казкі-легенды, казкі бытавога жанру [237, р. 14; 311, р. 227–276]. Шмат захавалася ў вуснай традыцыі беларускіх літоўцаў і розных паданняў пра незвычайныя камяні, волатаў, вясёлку і інш. Галоўнымі персанажамі міфалагічных паданняў былі вяльняс, лаўмы, раганы, ваўкалакі, пярэваратні, кутас (айтварас), Пяркунас і інш. Сярод беларускіх літоўцаў шырока бытавалі разнастайныя этыялагічныя паданні пра паходжанне мясцовых вёсак, пагоркаў, крыніц і розных іншых геаграфічных аб'ектаў [228, р. 278–289; 302, р. 278–289; 310, р. 289–298].

Вялікай жанравай разнастайнасцю вылучаюцца таксама формы малога фальклору – прымаўкі, прыказкі, загадкі, фразеалагізмы, варожбы. Многія з іх асноўнымі рысамі падобныя да агульналітоўскіх, аднак маюць яны і нешта ўласнае, непаўторнае. Напрыклад, у Пеляскім краі занатаваны даволі рэдкія загадкі, якія ўражваюць сваімі вобразамі і лаканічнасцю мовы. Варта адзначыць, што сярод беларускіх літоўцаў формы малога фальклору бытуюць да цяперашняга часу [239, р. 299–330].

## 3.3. Матэрыяльная культура

Яшчэ ў 30-х гг. XX ст. польскі этнограф Цэзарыя Бадуэн дэ Куртэнэ з Эрэнкройцаў звярнула ўвагу на тое, што ў народнай культуры Віленскага ваяводства ёсць рэчы, якія ўзніклі дзякуючы агульнаму характару зямельнай гаспадаркі, прыродна-геаграфічным умовам, і таму іх цяжка звязаць выключна з адной якой-небудзь этнічнай супольнасцю: «Па-за межамі этнічнай праблематыкі знаходзяцца таксама некаторыя рысы вясковай культуры ваяводства, якія вынікаюць непасрэдна з яе земляробчага характару, аб'ядноўваючы яе тым самым з культурамі многіх земляробчых народаў нават у тых выпадках, калі не можа ісці гаворкі пра гістарычныя сувязі і кантакты паміж імі. Таксама і ў мінулым мы маем справу з такімі культурнымі ўтварэннямі, якія не варта занадта неабдумана надзяляць уласцівасцямі, характэрнымі толькі для «старажытнай літоўскай культуры», або «беларускай», або нават для культуры ваяводства, бо яны абумоўленыя найперш пэўным гаспадарчым ладам жыцця, які, у сваю чаргу, з'яўляецца вынікам прыстасавання чалавека да прыродных умоў» [206, s. 173]. Гэтыя словы ў найбольшай ступені тычацца матэрыяльнай культуры – гаспадарчых заняткаў, традыцый харчавання, народнага касцюма, архітэктуры, дзе назіраецца практычна поўная ідэнтычнасць і еднасць мясцовай літоўскай і беларускай традыцый.

Як і ў беларусаў, на працягу многіх стагоддзяў галоўнымі гаспадарчымі заняткамі беларускіх літоўцаў былі земляробства і жывёлагадоўля, дадатковую ролю адыгрывалі промыслы і рамёствы. Характар земляробства залежаў ад шэрагу фактараў: прыродна-кліматычных умоў, ураджайнасці глебы, шчыльнасці насельніцтва і г. д. Тэрыторыя пражывання беларускіх літоўцаў здаўна належала да добра асвоенай і шчыльна заселенай зоны развітай земляробчай гаспадаркі, таму ўзровень іх земляробства быў даволі высокі. Менш спрыяльнымі для земляробства былі ўмовы на поўначы Беларусі. Малаўрадлівыя глебы, мноства пагоркаў і азёраў стваралі

перашкоды для эфектыўнага хлебаробства, што адбілася на характары і накіраванасці гаспадаркі літоўцаў Браслаўшчыны [13, с. 73].

З даўных часоў пануючай сістэмай севазвароту ў рэгіёне была трохпольная. Ворная зямля была падзелена на тры палі яшчэ ў сярэдзіне XVI ст., пасля правядзення аграрнай рэформы 1557 г. На кожным з гэтых палёў літоўскія сяляне звычайна мелі па 1–2 шнуры (*šniūrai*) зямлі. Лугі і лясы таксама былі падзелены на шнуры. Агульнай уласнасцю літоўскіх вёсак былі пашы. Шнуравая сістэма землекарыстання захоўвалася тут да часоў калектывізацыі [210, p. 114]. Галоўнымі відамі збожжавых былі: з азімых – жыта, а з яравых – авёс. Шырока былі распаўсюджаны ячмень і пшаніца, у меншай ступені – грэчка, бабовыя, лён, каноплі. З гародніны – буракі, капуста, рэпа, цыбуля, часнок, а таксама бульба. Вырошчвалі яблыкі, грушы, слівы, вішні.

Асноўнай ворыўнай прыладай беларускіх літоўцаў была так званая «літоўская» саха для парнай валавой вупражы. Сярод літоўцаў Браслаўшчыны была распаўсюджана «руская» саха з перакідной паліцай для конскай вупражы. З канца XIX – пачатку XX ст. шырокае распаўсюджанне атрымалі плугі. Пасеяны хлеб літоўцы звычайна баранавалі драўлянымі баронамі. Найбольш распаўсюджанай была плеценая барана з дубовымі зубамі. Асноўнай цяглавай сілай з пачатку XX ст. робіцца конь, аднак яшчэ доўгі час нярэдкім было і выкарыстанне валоў [295, p. 70–71]. У канцы XIX ст. літоўскі этнограф М. Давайніс-Сільвестрайціс апісваў гаспадарчыя заняткі літоўцаў Радунскай парафіі Лідскага павета наступным чынам: «Тут аруць плугамі, якія адкідаюць на адзін бок. Аруць усё яшчэ парай валоў або коней. Калі пары няма, то запрагаюць разам вала і каня. Тады канём кіруюць з лейцамі, а вала неабходна весці побач. Апрача іншага збожжа, сеюць найболей грэчку, з-за якой зямля ніколі не псуецца і таму ўсё добра родзіць, бо тут і зямля нядрэнная. З гародніны найболей садзяць капусту, а буракі садзяць толькі для жывёлы, называючы іх па-беларуску «бацвіннем». Лён

сеюць толькі для сябе. Калі які-небудзь гаспадар пасее з два горцы, то тады на яго надта моцна крычаць» [377, p. 439]. Размеркаванне працы паміж мужчынамі і жанчынамі той жа парафіі этнограф апісвае гэтак: «На сена ходзяць адны толькі мужчыны, якія павінны скасіць лугі, згрэбсці і звезці сена, а жанчыны ў гэтую справу не лезуць. Мужчынскай працай з'яўляецца малацьба, пры гэтым яны малоцяць роўна столькі, колькі неабходна ім для выпечкі хлеба для гэтага разу. Па гэтай прычыне малацьба іншым разам зацягваецца ледзь не да новых хлябоў. <...> На жніво ўсе разам не ходзяць, бо гэта выключна праца жанчын, якія павінны ўсё зжаць сярпамі» [377, p. 439].

Літоўскія земляробы, выходзячы першы раз араць, уважліва сачылі за надвор'ем – ці было дастаткова цёпла, ці прыляцелі ўжо птушкі. Паводле старажытнага звычаю, першую баразну лічылася абавязковым пачынаць увечары дня Св. Юр'я. Ідучы першы раз араць, літоўскі селянін браў з сабой хлеб і соль, якія пасля прыносіў назад дадому і дзяліў паміж членамі сям'і, кажучы: «*Во, дзеткі, пачастуйце заячага пірага*» («*Va, vaikučiai, zuikio pyrago ragaukite*»), пасля чаго ўсе ўрачыста яго з'ядалі [227, p. 84]. Перад тым як пачаць араць першую баразну, араты цалаваў зямлю, маліўся, прасіў дапамогі ў Бога: «*Дай, Божа, каб добра вырасла*» («*Duok, Dieve, kad gerai išaugtų*»). Пасля вяртання з поля аратага звычайна аблівалі халоднай вадой, каб ён быў моцным і здаровым [1, арк. 78; 227, p. 84; 257, p. 24]. У ваколіцах Гервятаў існаваў звычай частаваць аратага пасля яго вяртання з поля яечняй. Лічылася, што яйка павінна надаць аратаму здароўя, моцы і трываласці. Шырока тут таксама бытаваў звычай частавання аратага свіным лычом і свінымі нагамі, захаванымі з зімы [227, p. 84].

Сяўбу літоўскія хлебаробы дастасоўвалі да добрага надвор'я. Стараліся не сеяць у ветраны дзень, бо тады зерне клалася няроўна. Не сеялі таксама ў дажджлівы дзень і адразу пасля таго, як поле было ўзарана, а чакалі, пакуль зямля крыху падсохне. Выходзячы першы раз сеяць, літоўскі

гаспадар звычайна апранаў чыстае, часцей за ўсё белае адзенне, кіруючыся павер'ем, што калі сяўба будзе праведзена ў чыстым адзенні, то пасеяны хлеб будзе чыстым і белым [227, р. 84]. Ідучы першы раз сеяць, літоўскія сяляне неслі на поле хлеб і соль, якія закопвалі ў зямлю. Гэта, як лічылася, павінна было спрыяць добраму ўраджаю [1, арк. 78]. Перад тым як пачаць сеяць жыта, насенне перамешвалі з асвячоным на Зельна (15 жніўня) збожжам [227, р. 85].

Радаснай падзеяй у жыцці літоўскіх сялян быў пачатак жніва – **зажынкі**. Да Другой сусветнай вайны жалі ў асноўным сярпамі, аднак ужо ў 30-х гг. XX ст. ім на змену прыйшлі косы [257, р. 25]. Ідучы на поле, літоўскія гаспадары бралі з сабой кавалак хлеба, солі і перад тым, як зрэзаць першыя каласы жыта, жагналі іх і закопвалі ў невялічкую ямку. Тое ж самае рабілі і на заканчэнне жніва [1, арк. 82]. Літоўскія жнеі, перад тым як пачаць працу, маліліся і казалі: «*Божа, дапамажы*» («*Dieve, padėk*»). **Першы сноп** перавязвалі ля каласоў – гэта «гаспадар» (*«gaspodorius», «aspodorius»*), або, як у літоўцаў Воранаўшчыны і Браслаўшчыны – «госць» («svečias»); яго заносілі ў хату, ставілі на покуць, дзе ён стаяў на працягу ўсяго жніва. Літоўцы вёскі Плікі (Воранаўскі р-н) перавязвалі два першыя снапы накрыж і ўвечары ўносілі іх у хату са словамі: «*Ці прымеце госця з сырым хлебам?*» Атрымаўшы станоўчы адказ, снапы ставілі на покуць [258, р. 10]. Гэта быў знак таго, што «*ў хаце – хлеб*» [227, р. 84; 257, р. 25]. Пасля заканчэння жніва першы сноп з кута пераносілі ў гумно і пачыналі звозіць з поля астатнія снапы.

У беларускіх літоўцаў існавала шмат абрадаў і звычаяў, звязаных з заканчэннем жніва – **дажынкамі** (*«ažinkas», «pabaigtuvės»*). Перад тым як скончыць жніво, літоўскія жнеі неслі на поле хлеб і соль: «*Скончыўшы жаць жыта, выкопваюць ямку, кладуць туды солі, хлеба і пук нязжатага жыта, засыпаюць зямлёй, – каб мышы на полі елі. Заклікаюць, каб усё багацце ішло ў гумно*» [143, арк. 79]. Галоўнае сімвалічнае месца ў дажынках займаў апошні сноп жыта.

З каласоў апошняга снапа звівалі вянок, які трымалі ў хаце цэлы год [257, р. 25].

Галоўнай формай калектыўнай узаемадапамогі падчас жніва сярод беларускіх літоўцаў была талака (літ. *talka*). Скончыўшы жніво, літоўскія жанчыны Браслаўшчыны спявалі абрадавыя песні, плялі з жыта пояс, якім «лавілі» гаспадара, вешалі яму на галаву вянок, пры гэтым казалі: «*Гаспадар будзе багаты*» («*Gaspodorius bus bagotas*») [257, р. 26]. Як адзначае А. Вішняўскайтэ, несучы пояс гаспадару, а вянок – гаспадыні, літоўскія жнеі Опсаўскага краю спявалі па-беларуску: «*Рада, рада наша гаспадзінка, што жыта пажала...*» [1, арк. 55]. Пасля гэтага гаспадар і гаспадыня ішлі у хату, вешалі вянок на покуць і частавалі ўсю талаку.

Увогуле звычай талакі быў шырока пашыранай з'явай у літоўскім вясковым асяродку. Літоўскія сяляне дапамагалі адзін аднаму падчас разнастайных земляробчых (вываз гною на поле, сенакос, жніво, пасадка і капанне бульбы, апрацоўка ільну, малацьба збожжа), жывёлагадоўчых (рэзанне кабана, цяля), будаўнічых (нарыхтоўка лесу, будоўля хаты, кладка печы) і іншых відаў працы [284, р. 74–81].

Важнай справай у гаспадарчым жыцці беларускіх літоўцаў была таксама апрацоўка ільну (асабліва ў Паазер'і). Амаль што кожны гаспадар садзіў лён, таму што з яго рабілі патрэбнае адзенне, а з насення – алей.

Важнае для беларускіх літоўцаў значэнне мела жывёлагадоўля, якая забяспечвала земляробства ўгнаеннем, а гаспадарку – неабходнымі прадуктамі, сыравінай і цяглавай сілай. Асноўнае месца ў літоўскіх і беларускіх гаспадарках належала буйной рагатай жывёле. Таксама літоўскія сяляне трымалі коней, свіней, авечак, разводзілі птушку. Колькасць свойскай жывёлы залежала ад якасці і плошчы зямлі селяніна. Так, напрыклад, у канцы XIX ст. сярэдні літоўскі гаспадар з ваколіц Гервятаў (Варнянская воласць Віленскага павета), які валодаў трацінай або паловай валокі зямлі, трымаў 1–2 коней, 2–4 кароў, да 15 авечак з маладняком, 4–10 сві-

ней. У меншых гаспадарках з 2–4 гектарамі зямлі быў конь, карова, 1–2 авечкі і столькі ж свіней [291, p. 90].

Для пасьбы жывёлы кожная літоўская вёска наймала старэйшага пастуха, т. зв. «старасту», які распараджаўся малодшымі пастухамі, вырашаў, хто і дзе будзе пасвіць. Звычайна гэта быў стары чалавек, часцей за ўсё беззямельны, які наймаўся на адзін сезон – ад Юр'я да Усіх Святых. Такі пастух-«стараста» быў адначасова і своеасаблівым настаўнікам для малодшых пастушкоў, якім было ад сямі да шаснаццаці гадоў. За сваю працу «стараста» атрымліваў пэўны заробак. Напрыклад, гервяцкія літоўцы ў пачатку XX ст. давалі яму па 5–10 фунтаў зерня або бульбы ў дзень, а на Сёмуху рабілі падарунак – па яйку «з рога каровы». Яшчэ раней у іх існаваў звычай дарыць кавалак бараніны ды жменю ільну. У пазнейшыя часы давалі грошы «на табаку» [291, p. 98].

Здаўна ў літоўцаў асаблівай пашанай карысталіся пчолы, пра што могуць сведчыць такія літоўскія словы, як *bičiulis* «блізкі сябар», *bičiuliauti* «сябраваць», *bičiulystė* «сяброўства», утвораныя ад старажытнага літоўскага слова *bitė* «пчала». Сярод беларускіх літоўцаў пчалярства заўсёды было ў вялікай пашане. Тут быў пашыраны звычай сябрыны – сумеснага ўтрымання пчол і карыстання прадуктамі пчалярства. Лічылася, што «пчолы зводзяць людзей у радню». У дзень, калі выпампоўвалі мёд, пчаляр ставіў пачастунак, на які запрашаў сваякоў і сяброў [257, p. 24; 312, p. 104–106].

Для літоўцаў Браслаўшчыны асаблівае значэнне мела рыбная лоўля. У міжваенныя гады рыбу прадавалі мясцовым яўрэям або спажывалі самі. Каб лоўля была паспяховай, сеткі звычайна пачыналі плясці падчас поўні або калі ішоў снег. Новасплеценыя сеткі абкурвалі асвячонымі зёлкамі або чым-небудзь іншым, што мела цудадзейную моц. Лічылася, што асабліва паспяховай будзе лоўля падчас поўні [257, p. 28].

Вынікам аднолькавага характару і структуры гаспадарчай дзейнасці літоўцаў і беларусаў з'явілася і іх агульнасць у такой падсістэме матэрыяльнай культуры, як харчаванне.

Аснову традыцыйнага харчовага рацыёну беларускіх літоўцаў складалі прадукты земляробства, агародніцтва, жывёлагадоўлі. Дадатковымі крыніцамі жыццезабеспячэння былі разнастайныя промыслы – паляванне, рыбалоўства (асабліва ў літоўцаў Браслаўшчыны), пчалярства, збіральніцтва. Большасць традыцыйных страў беларускіх літоўцаў – у першую чаргу крупяныя і мучныя стравы (кашы, бліны, хлеб, каравай) была вядома яшчэ ў X–XV стст. Для беларускіх літоўцаў і беларусаў характэрныя такія агульныя стравы, як куцця, зацірка, саладуха, бліны, аўсяны кісель, талакно [13, с. 74–75]. Шырокае распаўсюджанне атрымалі таксама стравы з бульбы. Яна для абодвух народаў з'яўляецца практычна асноўным прадуктам харчавання. Агульныя ў іх нацыянальныя стравы з бульбы, напрыклад, дранікі, калдуны, бабка і цэпеліны [13, с. 74–75].

З мясных прадуктаў у ежы беларускіх літоўцаў пераважала свініна, толькі ў святочныя дні з'яўлялася бараніна, ялавічына. Звычайна на святочным стале з'яўляліся розныя каўбасы (крывянка, вантрабянка, кіндзюк) [257, р. 30–34]. Шырока былі распаўсюджаны такія вядомыя і беларусам стравы, як квашаніна (*kvošeniena*), верашчака (*vereščėkas*), крупнік (*krupnikas*), халаднік (*kaladnykas*), клёцкі (*kleckai*) [365, р. 268–270]. Магчыма, ад мясцовых літоўцаў у беларускі лексікон увайшла пэўная колькасць назваў страў і напояў: крупеня, цыбуленя, раўгеня, сула і інш. У сваю чаргу, значная колькасць назваў страў і напояў беларускіх літоўцаў мела беларускае паходжанне: куцця (*kučia*), бацвінне (*batviniai*), зацірка (*zacirka*), бабка (*babka*), клёцкі (*kleckai*), бульбяшнікі (*bulbiašnikai*), таўчонікі (*taučonikai*) і інш. [257, р. 30–34]. З напояў найбольш спажываліся хлебны квас (*gira*), саладуха (*saldė*), бярозавік (*sula*). Агульныя ў розных этнічных груп на даследуемай тэрыторыі былі і спосабы прыгатавання гэтых страў і напояў.

Час прыёму ежы быў абумоўлены канкрэтнай парой года, выкананнем пэўных гаспадарчых прац, народным календаром (пост, святы). Восенню і зімой на працягу дня адбы-

валіся звычайна дзве штодзённыя трапезы, вясной і летам – тры-чатыры (сняданак, абед, падвячорак, вячэра). Падчас посту малочныя і мясныя прадукты харчавання замяніліся поснымі (грыбы, алей і г. д.). Ад штодзённых прыёмаў ежы значным чынам адрозніваліся святочна-абрадавыя застоллі, якія мелі сваю рэгіянальную спецыфіку.

Традыцыйны касцюм беларускіх літоўцаў быў вельмі падобным да мясцовага беларускага. Комплекс касцюму літоўскай жанчыны складаўся з кашулі, спадніцы (андарака), фартуха, камізэлькі, сярмягі, кажуха, хусткі. Падобным да беларускіх строяў быў камплект мужчынскай вопраткі: кашуля, выпушчаная на штаны, падпярэзвалася пасам, на яе апраналі сярмягу, бурнос, пінжак. Штодзённым абуткам як жанчын, так і мужчын былі лапці або пасталы [299, p. 151–155]. Тканіны для адзення выраблялі з ільну і воўны, упрыгожвалі набіўным узорам або ткалі з нітак розных колераў. Яны мелі свае рэгіянальныя асаблівасці. Ткацтва было выключна жаночай работай.

Літоўскія вёскі Беларусі амаль нічым не вылучаліся на фоне мясцовага архітэктурнага ландшафту. У канцы XIX ст. асаблівасці хатняга побыту літоўцаў Радунскай парафіі Лідскага павета яскрава апісаў М. Давайніс-Сільвестрайціс: «Жывуць [літоўцы] у вялікіх вёсках рускага (*маскальскага*) тыпу па 50–70 двароў. Хаты, у якіх яны месцяцца разам з жывёлай – дрэнныя, без комінаў. Рэдка калі ў хаце зроблена сценка, якая аддзяляе людзей ад жывёлы. Авечкі і свінні ўзімку туляцца пад лавамі і ложкамі, а гаспадары перад вачыма трымаюць свойскую жывёлу, коней і скаціну. Гэта і ёсць страдаўнія літоўскія хаты, якія ў Прускай Літве і ў Сувалкскай губерні ўжо цалкам зніклі ў выніку культурнага ўздзеяння, а ў Ковенскай губерні рэдка калі яшчэ сустракаюцца, хоць у першыя пару дзесяцігоддзяў і назіраліся ў Жамойці вельмі часта. Такія хаты апісвае ў сваім «Budas» Сіманас Даўкантас» [377, p. 439].

Для большасці вёсак Астравецкага і Воранаўскага раёнаў Гродзенскай вобласці характэрная вулічная забудова, якая

стала пануючай у гэтым рэгіёне пасля правядзення аграрнай рэформы 1557 г. (т. зв. валочнай памеры). З цягам часу выдзеленыя сялянам надзелы зямлі драбнелі (ад 1/3 да 1/12 валокі), адпаведна расла колькасць і шчыльнасць сядзіб у вёсках. Ужо ў пачатку XX ст. літоўскія вёскі гэтых раёнаў ператварыліся ў даволі буйныя паселішчы лінейнага вулічнага тыпу з размяшчэннем сядзіб па абодва бакі вуліцы. Вуліцы такіх вёсак часам мелі звыш аднаго кіламетра ў даўжыню, а колькасць двароў магла дасягаць 100 [207, p. 233; 210, p. 113–114].

Амаль кожны літоўскі гаспадар меў чатыры асноўныя пабудовы – хату (*pirkia*), гумно (*kluonas*), хлеў (*tvartas*) і свіран (*svirnas*, альбо *klietis*). Хату ставілі тарцом да вуліцы. На двары ўсе пабудовы, пачынаючы з жылля, размяшчаліся ўсутыч паміж сабой у адзін або два рады. Свіран заўжды знаходзіўся насупраць хаты і быў павернуты дзвярным праёмам да яе акон збоку ад уваходу ў сенцы. Гумно было аддалена ад хаты з гаспадарчымі пабудовамі. Яно было павернута варотамі да вуліцы і нібы замыкала абодва рады сядзібнага комплексу [207, p. 233; 210, p. 114].

У перыяд з 1925 па 1937 гг. частка двароў літоўскіх вёсак Заходняй Беларусі была расселена на хутары («колёніі»). Тым не менш, многіх з іх працэс хутарызацыі не закрануў або закрануў вельмі слаба. Хутарская сістэма пасяленняў атрымала шырокае распаўсюджанне найперш сярод літоўцаў Браслаўшчыны [257, p. 18–19]. Вуліца вёскі, сядзібны комплекс і некаторыя палі абносіліся плотам. У даўнія часы студняў было мала – дзве-тры на ўсю вёску. Да пачатку XX ст. яны ў большасці былі з жураўлямі. Цэментныя студні з валам атрымалі пашырэнне толькі ў 20–30-х гг. XX ст. [210, p. 115].

Жылы дом беларускія літоўцы называлі «піркя» (літ. *pirkia* «хата»). Традыцыйная літоўская хата-піркя – гэта невялікага памеру, доўгая і вузкая трох- або двухкамерная зрубная пабудова. Асноўныя памяшканні такой хаты: хата-піркя + сенцы-прымен (*priemenė*) + камора (*kamara*), або хата-піркя + сенцы-прымен + хатка (*pirkelė*, *pirkaitė*). Яшчэ

ў канцы XIX – пачатку XX ст. у многіх літоўскіх вёсках сустракаліся курныя хаты. Аднак ужо ў другой палове XIX ст. актыўна распаўсюджваюцца печы з комінамі. У пачатку XX ст. у літоўскіх хатах ужо было дастаткова светла, у іх мелася па чатыры большыя і па адным меншым акне. У пачатку XX ст. хаты яшчэ не шаляваліся. Шаляванне хат атрымала пашырэнне толькі ў 20–30-х гг. XX ст. [207, p. 233; 210, p. 115; 257, p. 19–21; 258, p. 5–6].

Сенцы (беларускае дыялектнае *прымен*) былі такога ж або крыху меншага памеру, як і жылая хата. Яны, як і ў іншых месцах усходняй Літвы і заходняй Беларусі, не ацяпляліся і былі без столі. Тут звычайна захоўвалася хатняе начынне, скрыні, жорны. У сенцах або ў асобнай прыбудове да іх знаходзілася камора. У ёй мелася печка-каменка, якая ацяпляла памяшканне ўзімку. У каморы захоўвалася бульба, у бочках квасіліся капуста, буракі і інш.

Асноўнай формай даху да канца XIX ст. была двухсхільная саламяная страха. Яна сустракалася на хатах літоўскіх вёсак яшчэ ў 60–70-х гг. XX ст. Пабудовы ў адным радзе нярэдка накрываліся агульнай страхой.

Некаторыя асаблівасці ў матэрыяльнай культуры мела насельніцтва заснаваных ва ўсходняй Беларусі ў канцы XIX ст. літоўскіх вёсак. Значны ўплыў на іх жыццё ў першыя гады пасля міграцыі ў Беларусь аказвала тая акалічнасць, што літоўскія сяляне вымушаны былі асвойваць зямельныя плошчы за кошт расчысткі лясоў і асушвання балот. Таму, хоць яны, як і мясцовае беларускае насельніцтва, выкарыстоўвалі трохпольную сістэму севазвароту, нярэдкім для іх было ў гэты час і ляднае земляробства.

Вёскі, заснаваныя літоўцамі ва ўсходняй Беларусі, некалькі розніліся ад беларускіх і першапачаткова мелі тыповыя аўкштайцкія рысы (характэрныя для ўсходніх раёнаў Літвы). Будынкі ў літоўскіх сядзібах размяшчаліся не ў выглядзе вянка з выхадам у адны вароты, як ва ўсходніх беларусаў, а паасобку: жылы дом стаяў крыху наводдаль ад халодных будынкаў, а паміж імі адкрытае месца займаў двор.

Хата звычайна складалася з двух жылых памяшканняў з сенцамі паміж імі. Як правіла, збоку ад яе знаходзіўся сад, а перад тарцавым фасадам вырошчваліся кветкі. Часам каля хаты некаторыя літоўскія гаспадары ставілі вялікія драўляныя крыжы [157, с. 12]. Аднак з цягам часу этнакультурны ландшафт вёсак, заснаваных літоўскімі перасяленцамі, набыў тыповыя для ўсходніх рэгіёнаў Беларусі рысы.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Фарміраванне этнічнай групы літоўцаў Беларусі распачалося яшчэ ў сярэдневяковы перыяд, калі паўночны захад нашай краіны быў населены пераважна балцкімі этнічнымі супольнасцямі. Важную ролю ў працэсе фарміравання літоўскага насельніцтва Воранаўскага раёна адыгралі этнічныя супольнасці дайноваў, а таксама борцяў і скаловаў, якія ў XIII–XIV стст. перасяліліся ў раён Пелясы і Радуні. Вёскі з гэтым насельніцтвам з пачатку XVII ст. да сярэдзіны XIX ст. утваралі асобную адміністрацыйна-гаспадарчую адзінку (старoства) з адэтнанімічнай назвай «Барцянскае». Вызначальную ж ролю ў працэсе фарміравання літоўскага насельніцтва Астравецкага і Браслаўскага раёнаў мела этнічная супольнасць літвы.

Апрача літоўскага насельніцтва мясцовага паходжання, якое гістарычна сфарміравалася ў паўночна-заходняй Беларусі, ішло складанне этнічнай групы літоўцаў Беларусі і шляхам міграцый. Найбольш масавым было перасяленне літоўцаў у канцы XIX – пачатку XX ст., калі па эканамічных прычынах ва ўсходнюю Беларусь мігрыравала да некалькіх тысяч этнічных літоўцаў. Па сваім паходжанні пераважная большасць гэтых перасяленцаў былі выхадцамі з Вількамірскага, Нова-Аляксандраўскага, Панявежскага паветаў Ковенскай губерні, Віленскага, Трокскага і Свянцянскага паветаў Віленскай губерні, а таксама Ілукстскага павета Курляндскай губерні. У перыяд Першай сусветнай вайны колькасць літоўскага насельніцтва Беларусі павялічылася за кошт бежанцаў. У гэты час вырасла колькасць літоўцаў у гарадах.

Этнічнае развіццё літоўскай этнічнай групы Беларусі прайшло чатыры этапы: 1) XV – першая палова XVII ст.; 2) другая палова XVII–XVIII ст.; 3) XIX ст.; 4) XX – пачатак XXI ст. Першы з вылучаных этапаў звязаны з дамінаваннем старажытнай беларускай мовы і культуры ў агульнай беларуска-літоўскай дзяржаве. У гэты час беларуская мова набыла характар мовы міжэтнічных зносін паміж беларусамі і літоўцамі, што садзейнічала моўнай асіміляцыі апошніх. Для другога этапу характэрна змяншэнне беларускага культурнага ўплыву на беларускіх літоўцаў у выніку паступовага распаўсюджвання ў рэгіёне польскай культуры, якое пачало адбывацца пасля Люблінскай уніі 1569 г. Першая хваля паланізацыі закранула ў першую чаргу вышэйшыя і сярэднія слаі літоўскай этнічнай супольнасці. Трэці этап этнічнага развіцця беларускіх літоўцаў быў абумоўлены знаходжаннем тэрыторыі Беларусі і Літвы ў складзе Расійскай імперыі і тымі гістарычнымі працэсамі, якія ў ёй адбываліся. У выніку сацыяльна-эканамічных і палітычных змен у XIX ст. на беларускіх літоўцаў пашырыўся таксама ўплыў рускай мовы і культуры. Чацвёрты этап адзначаны ўзмацненнем этнічнай самасвядомасці і кансалідацыі літоўцаў Беларусі ў сувязі з агульным уздымам літоўскага нацыянальнага руху. Для гэтага этапу характэрны паступовы рост беларускага культурнага ўплыву на этнічнае развіццё беларускіх літоўцаў, асабліва з другой паловы XX ст. У канцы XX – пачатку XXI ст. актывізавалася грамадская дзейнасць беларускіх літоўцаў, былі створаны неабходныя ўмовы для іх нацыянальнага развіцця.

Да адметных рыс традыцыйнай культуры беларускіх літоўцаў пераважна адносяцца асаблівасці іх духоўнай культуры, галоўным чынам, традыцыйных вераванняў, фальклору, значна менш каляндарнай абраднасці, народных ведаў. Найбольш выразна этнакультурная спецыфіка літоўцаў Беларусі прасочваецца ў іх мове, якая захавала многія архаічныя рысы старажытных балцкіх гаворак (у тым ліку, заходнебалцкіх). Больш за тое, літоўская мова з'яўляецца галоўным

маркёрам этнічнай ідэнтыфікацыі беларускіх літоўцаў. Нямала спецыфічных рысаў утрымліваюць традыцыйныя вераванні беларускіх літоўцаў (павер'і, звязаныя з такімі міфалагічнымі персанажамі як вяльняс, скальсінікас (кутас), лаўмы і інш.). Гэтыя асаблівасці шмат у чым абумоўлены рознымі вытокамі і шляхамі фарміравання літоўскай і беларускай этнічных супольнасцей, а таксама высокай ступенню этнічнай кансалідацыі сярод беларускіх літоўцаў, якая не дазволіла ім страціць свае адметныя рысы ў іншаэтнічным атачэнні.

Шмат агульных рыс ёсць у традыцыйнай матэрыяльнай культуры літоўскай этнічнай групы Беларусі і беларускага этнасу – пераважна земляробчы характар гаспадаркі і агульныя спосабы і формы яе вядзення, аднолькавыя прылады працы, агульныя традыцыі харчавання, падабенства традыцыйнага касцюма, планіроўкі і забудовы вёсак, размяшчэнне жылых і гаспадарчых пабудоў і інш. Яны абумоўлены падобнымі прыродна-геаграфічнымі, сацыяльна-эканамічнымі і гістарычнымі ўмовамі развіцця абедзвюх этнічных супольнасцей, а таксама іх цеснымі міжэтнічнымі кантактамі ў розныя перыяды гісторыі. Наяўнасць вялікай колькасці агульных рыс у іх традыцыйнай культуры сведчыць пра тое, што прадстаўнікі літоўскай этнічнай групы, якія на працягу стагоддзяў пражывалі сярод беларусаў, былі ўключаны ў працэс актыўнай этнакультурнай інтэграцыі.

## ПЕРАЛІК УМОЎНЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

ААЭ ІГЛ – Архіў аддзела этналогіі Інстытута гісторыі Літвы

АІМЭФ – Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

ВКЛ – Вялікае Княства Літоўскае

НАРБ – Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

НГАБ – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

РГТ – Рускае геаграфічнае таварыства

РФЛФ – Рукапісны фонд літоўскага фальклору Інстытута літоўскай літаратуры і фальклору

# ЛІТАРАТУРА

1. ААЭ ІГЛ. – Спр. 44.

2. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 3. – Спр. 38. Этнаграфічная Гродзенска-Полацкая экспедыцыя АН БССР 1954 г. – IV. Запісы М. Я. Грынблата.

3. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 3. – Спр. 39. Этнаграфічная Гродзенска-Полацкая экспедыцыя АН БССР 1954 г. – V. Запісы М. Я. Грынблата.

4. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 3. – Спр. 40. Этнаграфічная Гродзенска-Полацкая экспедыцыя АН БССР 1954 г. – VI. Запісы М. Я. Грынблата.

5. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 3. – Спр. 41. Этнаграфічная Гродзенска-Полацкая экспедыцыя АН БССР 1954 г. – VII. Запісы М. Я. Грынблата.

6. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 3. – Спр. 42. Этнаграфічная Гродзенска-Полацкая экспедыцыя АН БССР 1954 г. – І. Запісы М. Я. Грынблата.

7. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 3. – Спр. 44. Этнаграфічная Гродзенска-Полацкая экспедыцыя АН БССР 1954 г. – III. Запісы М. Я. Грынблата.

8. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 14. – Спр. 136. Матэрыялы палявых этнаграфічных экспедыцый Ю. І. Унуковіча, сабраныя ў 2002–2007 гг. у Воранаўскім і Іўеўскім раёнах Гродзенскай вобласці (Беларусь), Шальчынінкайскім раёне Віленскага павета (Літва).

9. АІМЭФ. – Фонд 6. – Воп. 14. – Спр. 147. Матэрыялы палявых этнаграфічных экспедыцый Ю.І. Унуковіча, сабраныя ў чэрвені–ліпені 2007 г. у Вілейскім раёне Мінскай вобласці, Смаргонскім і Астравецкім раёнах Гродзенскай вобласці.

10. Аникиевич, К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Опыт описания в географическом, историческом, этнографическом, бытовом, промышленном и статистическом отношениях, с картою уезда, схемою двух озер и рисунками в тексте / К. Т. Аникиевич. – Могилев: Губерн. тип., 1907. – 148 с.

11. Астрэйка, В. Д. Балта-ўсходнеславянскае занальнае моўнае ўзаемадзеянне / В. Д. Астрэйка // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка: XIII Міжнар. з'езд славістаў (Любляна, 2003): дакл. бел. дэлегацыі / НАН Беларусі, Беларус. камітэт славістаў; адк. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск, 2003. – С. 3–18.

12. Афанасьев, Д. Ковенская губерния / Д. Афанасьев. – СПб.: Тип. тов-ва «Общественная польза», 1861. – 743 с.

13. Базан, Л. Н. Этнакультурныя сувязі беларусаў і літоўцаў у канцы XIX – пачатку XX ст. (па даных народнай кулінарыі) / Л. Н. Базан // Вес. АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1990. – № 5. – С. 72–78.

14. Беларусы. Т. 4: Вытокі і этнічнае развіццё / В. К. Бандарчык [і інш.]; рэдкал.: В. К. Бандарчык [і інш.]; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. – Мінск: Беларус. навука, 2001. – 433 с.

15. Беларусы. Т. 6: Грамадскія традыцыі / Ф. В. Бацяеў [і інш.]; рэдкал.: В. М. Бялявіна [і інш.]; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. – Мінск: Беларус. навука, 2002. – 606 с.

16. Беларусы. Т. 10: Славянскія этнакультурныя традыцыі / І. У. Чаквін [і інш.]; рэдкал.: І. У. Чаквін [і інш.]; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – 514 с.

17. Белорус. Библиографическая заметка по поводу III тома Живописной России (Литва и Белоруссия – соч. Киркора) / Белорус // Литовские епархиальные ведомости. – Март 1889. – № 9. – С. 83–91.

18. Белоруссия в эпоху феодализма: в 2 т. / Ин-т истории АН БССР, Архивное управление МВД БССР; редкол.: А. И. Азаров [и др.]; сост.: З. Ю. Копысский, М. Ф. Залога. – Минск, 1959. – Т. 1: С древнейших времен до середины XVII века. – 1969. – 515 с.

19. Бірыла, М. В. Беларуская антрапанімія: у 3 ч. / М. В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969.

20. Бірыла, М. В. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы / М. В. Бірыла, А. П. Ванагас. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 100 с.

21. Бобровский, П. Гродненская губерния: в 2 ч. / П. Бобровский. – СПб.: Тип. Деп. Ген. штаба, 1863. – Ч. 1. – 891 с.

22. Богданович, А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов. Этнографический очерк / А. Е. Богданович. – Гродно: Губерн. тип., 1895. – 186 с.

23. Б-с. Радунский приход Лидского уезда Виленской губернии / Б-с // Живая старина. – СПб., 1895. – Вып. III–IV. – С. 497.

24. Бяспамятных, М. Літоўцы Гродзенскай вобласці: праблемы этнакультурнай ідэнтыфікацыі / М. Бяспамятных // Этнічныя супольнасці ў Беларусі: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы навук. канф., Мінск, 6–7 снеж. 2001 г. / нав. рэд.: У. І. Навіцкі, М. С. Сташкевіч. – Мінск, 2001. – С. 336–339.

25. Вабішчэвіч, А. М. Дзейнасць літоўскіх культурна-асветніцкіх арганізацый на беларуска-літоўска-польскім памежжы ў 20–30-я гг. XX ст. / А. М. Вабішчэвіч // Весн. Гродз. дзярж. ун-та. Сер. 1, гуманітар. нав. – 2007. – № 1. – С. 36–41.

26. Васілевіч, У. Лойма, чарціха / У. Васілевіч // Беларуская міфалогія: энцыклапед. слоўн. / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – 2-е выд., дап. – Мінск, 2006. – С. 293–294.

27. Велюс, Н. Балтыйскія і славянскія адпаведнасці літоўскага фальклорнага вяльняса /чорта/ / Н. Велюс // Быт і культура беларусаў: тэз.

дакл. навук. канф. «Быт і культура беларусаў», Мінск, красавік 1984 г. / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; нав. рэд.: В. К. Бандарчык, А. С. Фядосік. – Мінск, 1984. – С. 74–76.

28. Видугирис, А. Ю. Некоторые вопросы этноязыковых процессов на балто-восточнославянском пограничье / А. Ю. Видугирис, Ф. Д. Климчук // Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом: предв. материалы конф., Москва, 11–15 дек. 1978 г. / Акад. наук СССР, Ин-т славяноведения и балканистики; ред. кол.: Вяч. Вс. Иванов [и др.]. – М., 1978. – С. 10–35.

29. Внукович, Ю. И. Литовцы / Ю. И. Внукович // Республика Беларусь: энцикл.: в 6 т. – Минск, 2006–2008. – Т. 4. – 2007. – С. 517–518.

30. Внукович, Ю. Участие западных балтов – бортей и скаловов – в формировании литовской этнической группы Беларуси / Ю. Внукович // Балто-славянские культурные связи: сб. стат. / редкол.: Я. Курсите (отв. ред.) [и др.]. – Rīga, 2009. – С. 397–406.

31. Войніч, І. В. Літоўская мова / І. В. Войніч, У. М. Свяжынскі // Беларуская мова: энцыкл. / Беларус. Энцыкл.; пад рэд. А. Я. Міхневіча; рэдкал. Б. І. Сачанка (гал рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1994. – С. 314–315.

32. Вольтер, Э. Литовская хрестоматия: в 2 кн. / Э. Вольтер. – СПб.: Тип. Имп. Акад. Наук, 1901–1904. – Кн. 2. – 1904. – 490 с.

33. Вольтер, Э. Об изучении литовского языка и племени / Э. Вольтер // Памятная книжка Виленской губернии на 1887 год. – Вильна, 1886. – С. 123–133.

34. Вольтер, Э. Об этнографической поездке по Литве и Жмуди летом 1887 года / Э. Вольтер // Приложение к XVI тому Записок Императорской Академии Наук. – СПб., 1887. – № 5. – С. 1–158.

35. Вольтер, Э. Об этнографическом исследовании Виленской губ. / Э. Вольтер // Известия Императорского Русского географического общества. – СПб., 1885. – Т. XXI. – С. 360.

36. Вольтер, Э. Следы древних Пруссов и их языка в Гродненской губернии / Э. Вольтер // Известия Отделения русского языка и словесности Императорской Академии Наук. – СПб., 1912. – Т. XVI, кн. 4. – С. 151–160.

37. Вольтер, Э. Статистика племенного состава народонаселения Северо-Западного края / Э. Вольтер // Календарь Северо-Западного края на 1890 год. – М., 1890. – С. 36–42.

38. Всесоюзная перепись населения 1926 года = Recensement de la population de l'U. R. S. S. 1926 / Центральное статистическое управление СССР, Отдел переписи. – М.: Гос. тип. им. Е. Соколовой, 1928. – Т. 10: Белорусская Советская Социалистическая Республика: Народность, родной язык, возраст, грамотность. – 1928. – 289 с.

39. Всесоюзная перепись населения 1937 года: Общие итоги: сб. док. и мат. / редкол.: Ю. А. Поляков (отв. ред.) [и др.]. – М.: Российская политическая энциклопедия (РОССПЭН), 2007. – 320 с.

40. Вярэніч, В. Л. Польскія перыферыйныя гаворкі на ўсходзе / В. Л. Вярэніч // Польские говоры в СССР: исследования и материалы 1967–1969 гг.: в 2 ч. / Акад. наук БССР, Ин-т языкознания им. Я. Коласа; ред.: В. В. Мартынов. – Минск, 1973. – Ч. 1. – С. 5–21.

41. Г. Р. Рассказы о Литве и литовцах / Г. Р. – М.: Тип. Высочайше утвержденного Т-ва И. Д. Сытина, 1896. – 101 с.

42. Гаршва, К. Литовский язык в этногенезе Браславского района / К. Гаршва // Браслаўскія чытанні: матэрыялы V навук.-краязн. канф., прысвеч. 935-годдзю першай згадкі Браслава ў пісьмовых крыніцах, Браслаў, 27–28 крас. 2001 г. / рэд. рада: К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 2001. – С. 25–29.

43. Гаучас, П. Этнолингвистическая ситуация литовско-белорусского пограничья с конца XVIII по начало XX в. / П. Гаучас, А. Видугирис // Lietuvos TSR aukštųjų mokslo darbai. Geografija. – 1983. – XIX. – С. 26–71.

44. Глаголев, А. Новые сведения о численности и обиталищах литовского племени / А. Глаголев // Журнал Министерства Внутренних Дел. – СПб., 1851. – Ч. 34, кн. 4. – 1851. – С. 99–116.

45. Гнедовский, И. Несколько слов к вопросу об этнографической границе между литовским и белорусским населением в Ново-Александровском уезде, Ковенской губ. / И. Гнедовский // Памятная книжка Ковенской губернии на 1890 год. – Ковна, 1889. – С. 326–330.

46. Городская перепись 1917 г. Могилевская губерния. Таблицы подсчета хозяйств, населения, скота и посевов / Статистический Отдел Могил. Губерн. Земской управы. – Могилев: Тип. И. Б. Клаза и М. Л. Кагана, 1918. – 68 с.

47. Гошкевич, И. И. Виленская губерния. Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям / И. И. Гошкевич. – Вильна: Тип. губернская, 1905. – 431 с.

48. Гринблат, М. Я. К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов / М. Я. Гринблат // Вопросы этнической истории народов Прибалтики: по данным археологии, этнографии и антропологии / под ред. С. А. Таракановой, Л. Н. Тереньтьевой. – М., 1959. – С. 523–543.

49. Гудавичюс, Э. Литва Миндовга / Э. Гудавичюс // Проблемы этнической истории балтов: тез. докл. межресп. науч. конф. / АН Латвийской ССР, Ин-т истории; редкол.: И. Э. Ронис (отв. ред.) [и др.]. – Рига, 1985. – С. 219–227.

50. Гуковский, К. Новоалександровский уезд / К. Гуковский // Памятная книжка Ковенской губернии на 1895 г. – Ковна, 1894. – С. 149–235.

51. Гуковский, К. Свадьба у литовских белорусов / К. Гуковский. – Ковно : Тип. Губернского Правления, 1894. – 23 с.

52. Гуревич, Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич. – М.; Л. : Изд-во АН СССР, 1962. – 221 с.

53. Гуревич, Ф. Д. Культурные связи древнерусских городов на территории Белоруссии с Прибалтикой / Ф. Д. Гуревич // Проблемы этноге-

неза и этнической истории балтов: сб. ст. / АН ЛитССР, Ин-т истории; редкол.: Р. Волкайте-Куликаускене (отв. ред.) [и др.]. – Вильнюс, 1985. – С. 91–100.

54. Гурская, Ю. А. Древние фамилии современного белорусского ареала на славянском и балтийском фоне: монография / Ю. А. Гурская. – Минск: БГПУ, 2007. – 360 с.

55. Дучыц, Л. Балты і славяне на тэрыторыі Беларусі ў пачатку II тысячагоддзя / Л. Дучыц // Бел. гіст. агляд. – 1995. – Т. 2, сш. 1. – С. 15–30.

56. Жучкевич, В. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В. Жучкевич. – Минск: Изд. БГУ, 1974. – 448 с.

57. Жучкевич, В. А. Общая топонимика: учеб. пособие / В. А. Жучкевич. – 3-е изд., перераб. – Минск: Вышэйш. шк., 1988. – 288 с.

58. Жучкевич, В. А. Топонимика Белоруссии / В. А. Жучкевич. – Минск: Наука и техника, 1968. – 184 с.

59. Зайкоўскі, Э. Балты ў цэнтральнай і ўсходняй Беларусі ў сярэднявечча / Э. Зайкоўскі // Спадчына. – 1999. – № 1. – С. 61–74.

60. Зайкоўскі, Э. Літва / Э. Зайкоўскі // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. / Беларус. Энцыкл.; рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск, 1993. – С. 372.

61. Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. – Минск: Навука і тэхніка, 1989. – 208 с.

62. Зверуго, Я. Г. Славяно-балтские связи в раннем средневековье (по материалам Белоруссии) / Я. Г. Зверуго // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: сб. ст. / АН ЛитССР, Ин-т истории; редкол.: Р. Волкайте-Куликаускене (отв. ред.) [и др.]. – Вильнюс, 1985. – С. 100–112.

63. Зверуго, Я. Г. Славяно-литовские контакты в средневековье (по материалам белорусско-литовского пограничья) / Я. Г. Зверуго // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: тез. докл. межресп. науч. конф., Вильнюс, март 1981 г. / АН ЛитССР, Ин-т истории; редкол.: Р. К. Волкайте-Куликаускене (отв. ред.) [и др.]. – Вильнюс, 1981. – С. 24–27.

64. Иванов, В. В. Спорыш / В. В. Иванов, В. Н. Топоров // Мифы народов мира: энцикл.: в 2 т. – М., 1997. – Т. 2. – С. 467.

65. Известия Императорского Русского географического общества / под ред. действ. члена барона О. Р. Остен-Сакена. – СПб.: Тип. В. Безобразова и К°, 1871. – Т. VII, кн. 8. – 426 с.

66. Итоги Всесоюзной переписи населения 1959 года. Белорусская ССР / Центральное статистическое управление при Совете Министров СССР. – М.: Госстатиздат, 1963. – 146 с.

67. Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года: стат. сб.: в 3 т. / М-во статистики и анализа Респ. Беларусь; редкол.: Г. И. Гасюк (гл. ред.), С. В. Лукашевич. – Минск: Информстат Минстата Респ. Беларусь, 2001. – Т. 1: Национальный состав населения Республики Беларусь и распространенность языков. – 2001. – 401 с.

68. Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года: стат. сборник: в 3 т. / М-во статистики и анализа Респ. Беларусь; редкол.: Г. И. Гасюк (гл. ред.), С. В. Лукашевич. – Минск: Информстат Минстата Респ. Беларусь, 2001. – Т. 2: Национальный состав населения Республики Беларусь, его демографические характеристики и образовательный уровень. – 2001. – 497 с.

69. Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года: стат. сборник: в 3 т. / М-во статистики и анализа Респ. Беларусь; редкол.: Г. И. Гасюк (гл. ред.), С. В. Лукашевич. – Минск: Информстат Минстата Респ. Беларусь, 2001. – Т. 3: Национальный состав населения Республики Беларусь и его экономические характеристики. – 2001. – 272 с.

70. Кабузан, В. М. Народы России в первой половине XIX в.: Численность и этнический состав / В. М. Кабузан. – М.: Наука, 1992. – 216 с.

71. Карашчанка, І. В. Літоўцы / І. В. Карашчанка // Беларус. энцыкл.: у 18 т. – Мінск, 1999. – Т. 9. – С. 317.

72. Карашчанка, І. В. Літоўцы / І. В. Карашчанка, В. Насевіч // Энцыкл. гіст. Беларусі : у 6 т. – Мінск, 1997. – Т. 4. – С. 387.

73. Карашчанка, І. В. Літоўцы / І. В. Карашчанка // Этнаграфія Беларусі: энцыкл. / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1989. – С. 292–293.

74. Карский, Е. Ф. Белоруссы: в 3 т. / Е. Ф. Карский. – Варшава: Тип. Варшав. учеб. округа, 1903–1922. – Т. 1: Введение в изучение языка и народной словесности. – 1903. – 466 с.

75. Каханоўскі, Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. / Г. А. Каханоўскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – 120 с.

76. Квятковская, А. В. Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI – XVII вв.) / А. В. Квятковская; Lietuvos istorijos in-tas; vyr. red.: D. Kaukėnas. – Vilnius: «Diemedžio» l-kla, 1998. – 327 p.

77. Кеппен, П. Об этнографической карте европейской России / П. Кеппен. – 2-е изд. – СПб., 1853. – 40 с.

78. Киндурис, М. К. Литовский говор в белорусском окружении (Говор дер. Мальковка в БССР): автореф. дис. ... канд. филол. наук / М. К. Киндурис; Ленингр. ордена Ленина гос. ун-т им. А. А. Жданова. – Л., 1956. – 23 с.

79. Киркор, А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию / А. Киркор // Этнографический сборник. – СПб., 1858. – Вып. 3. – С. 115–276.

80. Корева, А. Виленская губерния / А. Корева. – СПб.: Тип. Иосафата Огризко, 1861. – 820 с.

81. Коялович, М. О расселении племен Западного края России / М. Коялович. – М.: Тип. Бахметева, 1863. – 36 с.

82. Краўцэвіч, А. К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага / А. К. Краўцэвіч. – Rzeszów, 2000. – 238 с.

83. Лапінскене, А. Перазовы сяброўскіх галасоў: Беларуска-літоўскае літаратурнае ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу / А. Лапінскене, А. Мальдзіс. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 248 с.

84. Лауринкене, Н. Похоронные причитания Пелясы / Н. Лауринкене // Балто-славянские этноязыковые контакты: сб. ст. / отв. ред. Т. М. Судник; АН СССР Ин-т славяноведения и балканистики. – М., 1980. – С. 80–89.

85. Лаучюте, Ю. А. Древняя и древнейшая территория расселения балтских племен (сопоставление результатов лингвистических и археологических исследований) / Ю. А. Лаучюте // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: тез. докл. межресп. науч. конф., Вильнюс, март 1981 г. / АН ЛитССР, Ин-т истории; ред. кол.: Р. К. Волкайте-Куликаускене (отв. ред.) [и др.]. – Вильнюс, 1981. – С. 99–101.

86. Лаучюте, Ю. А. Словарь балтизмов в славянских языках / Ю. А. Лаучюте. – Л.: Наука, 1982. – 210 с.

87. Лебедкин, М. О племенном составе народонаселения Западного края Российской империи / М. Лебедкин // Записки Русского географического общества. – СПб., 1861. – Кн. III. – С. 131–160.

88. Леви-Строс, К. Структурная антропология / К. Леви-Строс. – М.: Изд-во ЭКСМО-Пресс, 2001. – 512 с.

89. Легенды і паданні / склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі; рэд. тома А. С. Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 544 с. (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

90. Ліс, А. С. Літоўска-беларускія фальклорныя сувязі / А. С. Ліс // Быт і культура беларусаў: тэзісы дакладаў навук. канф. «Быт і культура беларусаў», Мінск, красавік 1984 г. / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; нав. рэд.: В. К. Бандарчык, А. С. Фядосік. – Мінск, 1984. – С. 68–69.

91. Лукін, В. Міжнацыянальныя адносіны на Беларусі ў 20-я гг. XX ст. (на прыкладзе латышоў і літоўцаў) / В. Лукін // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 2. – С. 73–80.

92. Лукін, В. Народы Прыбалтыкі на тэрыторыі Беларусі (2-я палова XVIII – 1-я палова XIX ст.) / В. Лукін // Беларус. гіст. часопіс. – 1994. – № 4. – С. 40–42.

93. Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства / М. К. Любавский. – М., 1892. – 884 с.

94. Любавский, М. К Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно / М. К. Любавский. – М.: Имп. о-во истории и древностей российских, 1910. – 376 с.

95. Материалы для изучения быта и языка русскаго населения Северо-западного края. Собранные и приведенные в порядок П. В. Шейном: в 3 т. – СПб., 1887–1902. – Т. 3: Описание жилища, одежды, пищи, занятий; препровождение времени, игры, верования, обычное право; чародейство, колдовство, знахарство, лечение болезней, средства от напастей, поверья, суеверья, приметы и т. д. – 1902. – 535 с.

96. Матулянис, П. С. Литовское племя в Виленской губернии / П. С. Матулянис // Памятная книжка Виленской губернии на 1902 г. – Вильна, 1901. – С. 45–56.

97. Мікратапанімія Беларусі. Матэрыялы / рэд.: М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 328 с.
98. Мисявичене, В. И. Общности литовских и белоруских жнивных песен / В. И. Мисявичене // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: тез. докл. межресп. науч. конф., Вильнюс, март 1981 г. / АН ЛитССР, Ин-т истории; ред. кол.: Р. К. Волкайте-Куликаускене (отв. ред.) [и др.]. – Вильнюс, 1981. – С. 138–139.
99. Митрофанов, А. Г. Археологические памятники северо-запада Белоруссии I т. н. э. / А. Г. Митрофанов // Проблемы этнической истории балтов : тез. докл. / АН ЛатССР, Ин-т истории; редкол.: А. К. Бирон (отв. ред.) [и др.]. – Рига, 1977. – С. 34–37.
100. Митрофанов, А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII–VI вв. до н. э. – VIII в. н. э.) / А. Г. Митрофанов. – Минск: Наука и техника, 1978. – 160 с.
101. Мядзведзеў, А. М. Аб часе прыходу славян на тэрыторыю Беларусі / А. М. Мядзведзеў // Усебеларуская канф. гісторыкаў: тэз. дакл. і паведамл. нав. канф. «Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы)», Мінск, 3–5 лют. 1993 г.: у 2 ч. / Мін-ва адукацыі Рэсп. Беларусь, Гіст. фак-т БДУ, Ін-т гісторыі АН Беларусі; рэд. кал.: М. П. Касцюк (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1993. – Ч. 1: Гісторыя Беларусі. – С. 14–17.
102. Мядзведзеў, А. М. Старажытнасці жалезнага веку і сярэдневякоўя Воранаўскага раёна / А. М. Мядзведзеў // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Воранаўскага раёна: рэд. кал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2004. – С. 43–47.
103. Навагродскі, Т. Праблемы нацыянальных меншасцей і міжнацыянальных адносін на Беларусі / Т. Навагродзкі, І. Чаквін // Форум: інфарм.-культур. бюлетэнь. – 1995. – № 1. – С. 15–22.
104. НАРБ. – Фонд 617. – Воп. 2. – Спр. 1.
105. НАРБ. – Фонд 701. – Воп. 1. – Спр. 64.
106. НАРБ. – Фонд 701. – Воп. 1. – Спр. 109.
107. Народная медыцына: рытуальна-магічная практыка / Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі; уклад., прадм. і паказ. Т. В. Валодзінай; навук. рэд. А. С. Ліс. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – 776 с.
108. НГАБ. – Фонд 1781. – Воп. 25. – Спр. 173–301.
109. НГАБ. – Фонд 1781. – Воп. 28. – Спр. 46.
110. Непокупный, А. П. Балто-севернославянские языковые связи / А. П. Непокупный. – Киев: Наук. думка, 1976. – 227 с.
111. Никифоровский, Н. Я. Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н. Я. Никифоровский. – Вильна: Типо-литогр. Т-ва «Н. Мац и Ко», 1907. – 103 р.

112. Никонов, В. А. Этнонимия / В. А. Никонов // Этнонимы / Акад. наук СССР, Ин-т этнографии им. Н. Н. Миклухо-Маклая; отв. ред. В. А. Никонов. – М., 1970. – С. 5–33.

113. Отрембский, Я. С. Язык ятвягов / Я. С. Отрембский // Вопросы славянского языкознания. – М., 1961. – Вып. 5. – С. 3–8.

114. Охманьский, Е. Иноземные поселения в Литве XIII–XIV вв. в свете этнонимических местных названий / Е. Охманьский // Балто-славянские исследования: сб. науч. ст. / Акад. наук СССР, Ин-т славяноведения и балканистики; редкол.: В. В. Иванов (отв. ред.) [и др.]. – М., 1980. – С. 112–131.

115. Охманьский, Е. Участие западных балтов в развитии средневековой Литвы / Е. Охманьский // Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом: предв. материалы конф., Москва, 11–15 дек. 1978 г. / Акад. Наук СССР, Ин-т славяноведения и балканистики; ред. кол.: Вяч. Вс. Иванов [и др.]. – М., 1978. – С. 112–113.

116. Пашуто, В. Т. Образование Литовского государства / В. Т. Пашуто. – М.: Изд-во АН СССР, 1959. – 531 с.

117. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.: Т. 4: Виленская губерния, тетрадь III / под ред. Н. А. Тройницкого. – СПб., 1904. – 105 с.

118. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.: Т. 5: Витебская губерния, тетрадь III / под ред. Н. А. Тройницкого. – СПб., 1903. – 281 с.

119. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.: Т. 11: Гродненская губерния / под ред. Н. А. Тройницкого. – СПб.: Тип. кн. В. П. Мещерского, 1904. – 319 с.

120. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.: Т. 17: Ковенская губерния / под ред. Н. А. Тройницкого. – СПб.: Тип. Э. Л. Пороховщиковой, 1904. – 227 с.

121. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.: Т. 22: Минская губерния / под ред. Н. А. Тройницкого. – СПб.: Тип. С.-Петербургской Тюрьмы, 1904. – 243 с.

122. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.: Т. 23: Могилевская губерния / под ред. Н. А. Тройницкого. – СПб.: Тип. СПб. акц. общ. печ. и писчебум. дела в России «Слово», 1903. – 275 с.

123. Перепись населения г. Минска, произведенная 27–30 сентября 1917 года / Минская городская управа. – Минск: Тип. Минской Сионистской Организации, 1918. – 32 с.

124. Піваварчык, С. Этнакультурныя працэсы ў Беларускім Панямонні ў раннім сярэднявеччы / С. Піваварчык // Вес. Міжнар. акад. вывучэння нац. меншасцей. – 1997. – № 1. – С. 7–8.

125. Піваварчык, С. А. Этнічны склад насельніцтва Беларускага Панямоння X–XIII стст. (па археалагічных матэрыялах) / С. А. Піваварчык // Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі:

матэрыялы міжнар. навук. канф., Брэст, 23–24 сак. 1998 г.: у 2 ч. / Мін-ва адукацыі Рэсп. Беларусь; Брэсцкі дзярж. ун-т; нав. рэд.: С. В. Арцёменка [і інш.]. – Брэст, 1998. – Ч. 2. – С. 10–14.

126. Пилипенко, М. Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция / М. Ф. Пилипенко. – Минск: Беларусь, 1991. – 143 с.

127. Подберезский, Р. Очерки Белоруссии / Р. Подберезский // Журнал Министерства Внутренних Дел. – 1845. – Ч. 9. – С. 63–93.

128. Покровский, Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский. – Вильна: Тип. А. Г. Сыркина, 1893. – 164 с.

129. Покровский, Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. – Вильна: Тип. А. Г. Сыркина, 1895. – 163 с.

130. Полное собрание русских летописей. – Т. 2: Ипатьевская летопись. – СПб.: Археогр. комис., 1908. – 938 с.

131. Практическое разрешение национального вопроса в Белорусской Социалистической Советской Республике: в 2 ч. – Минск, 1928. – Ч. 2: Работа среди национальных меньшинств в БССР. – 1928. – 159 с.

132. Пушкін, І. А. Месцазнаходжанне і кароткі агляд літоўскіх нацыянальных школ БССР (20-я гг. XX ст.) / І. А. Пушкін // А. А. Смоліч і яго час: матэрыялы навук. прац першага Смолічаўскага семінара, Міжнар. навук. канф. «Тэарэтычныя і прыкладныя праблемы геаэкалогіі», Мінск–Магілёў, 27–29 верас. 2001 г. / уклад.: У. Хамякоў [і інш.]; пад агульн. рэд. І. Маруха, С. Украінкі. – Мінск; Магілёў, 2001. – С. 91–94.

133. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці / Я. Н. Рапановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 176 с.

134. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці / Я. Н. Рапановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 504 с.

135. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці / Я. Н. Рапановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1986. – 240 с.

136. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці / Я. Н. Рапановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 319 с.

137. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці / Я. Н. Рапановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 240 с.

138. Рапановіч, Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці / Я. Н. Рапановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – 360 с.

139. Риттих, А. Ф. Этнографическая карта Европейской России / А. Ф. Риттих. – СПб., 1875. – 43 с.

140. РФЛФ. – Спр. I 586.

141. РФЛФ. – Спр. I 610.

142. РФЛФ. – Спр. I 621.

143. РФЛФ. – Спр. 2374.

144. Свяжынскі, У. Аб статусе беларускай і ўкраінскай моў у часы Вялікага Княства Літоўскага / У. Свяжынскі // METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. – Мінск, 2003. – Т. 2. – С. 132–163.

